30 траўня 2020 | № 20 (679)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы Час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Забіць бездапаможнага... стар. 19



# Ліст да таты

## Аляксею Каралю споўнілася б 75

**Пяць гадоў таму мы ўсёй рэдакцыяй цёпла і, як кажуць, душэўна адзначылі 70-годдзе нашага галоўнага рэдактара. Нашага Караля! Ён ужо ведаў, што рак вярнуўся, і зноў быў гатовы да змагання. Мы ведалі, што ён хутка з'едзе на лекаванне ў далёкі Сінгрaпур, і вельмі спадзяваліся пабачыцца праз пару месяцаў. Прайшло пяць гадоў. І сёння мы адзначаем 75-годдзе нашага Караля. І праз пяць гадоў нам яго вельмі нестае. Яго добрых парадаў і цёплай усмешкі, яго мудрых словаў і добрых жартаў. Яшчэ больш Аляксея нестае яго сям'і... Дачка Ірына і сын Сяргей напісалі яму своеасаблівы ліст.**

### Ці пазнаў бы ты свет, у якім мы аказаліся?

У самыя складаныя для нашай сям'і моманты мы звярталіся да ліставання. Спачатку доўгія лісты пісаліся ад рукі, потым асадку і паперу замянілі клавіятура і электронная пошта. У сваім апошнім лісце ў чэрвені 2015 года, калі дыягназ пацвердзіў нашы самыя страшныя апасенні і калі ты прыняў няпростае рашэнне аб паездцы на лячэнне ў Сінгапур, ты напісаў: «Дзіўная рэч, але ліст — гэтая старажытная форма зносін — і зараз валодае значна большай глыбінёй і сілай пераканання, чым усе сучасныя, хоць яна і апранутая ў новы інтэрнэт-фармат». Цябе няма з намі вось ужо амаль пяць гадоў. Але сёння, у твой 75-ты дзень народзінаў, калі жыццё так раптоўна і так радыкальна змянілася і перад збянтэжаным чалавецтвам паўсталі новыя складаныя выклікі, мы зноў пішам табе ліст.

Ці пазнаў бы ты свет, у якім мы аказаліся? Яшчэ ў 2015-м ты пераймаўся з таго, як імкліва распадаўся той сусветны парадак, дзякуючы якому твайму пакаленню пашчасціла пражыць жыццё без войнаў ды іншых глабальных катастроф. Нават тады ты адчуваў, з трывогай гледзячы на нас і свайго гадавалага ўнука, што тэктанічныя сілы ўжо пайшлі ў рух, каб разбурыць гэтую часовую ідылію. Ты шмат чытаў, аналізаваў і глыбока перажываў тое, што адбывалася.

Ты не мог зразумець, чаму Захад ставіцца да Пуціна як да легітымнага кіраўніка дзяржавы, а не злачыннага захопніка. Цябе турбавала, што супярэчлівая і паслядоўна некампетэнтная амерыканская знешняя палітыка прывяла да крывавага і зацяжнога ўзброенага канфлікту ў Сірыі. Ты хваляваўся з-за таго, што набіраючы моц Кітай яўна дэманстраваў прыкметы імперыялізму і таталітарызму, якія ты лічыў найгоршымі ворагамі чалавецтва. І ўсё гэта на фоне бяссільнай Еўропы ды разгубленых ЗША.

Сёння ты б убачыў, як многія з тваіх апасенняў, на жаль, спраўджваюцца. Больш за ўсё ты б непакоіўся пра незалежнасць Беларусі, якая зноў знаходзіцца пад пагрозай. Ты б радаваўся ўвядзенню бязвізавага рэжыму ды імкліваму развіццю IT-сектара ў Беларусі. Але нягледзячы на пэўную інтэрнацыялізацыю і жывучасць існай сістэмы, залежнасць ад адной асобы і нізкі ўзровень рэсурсаў ставяць краіну ў небяспеку. Нічога добрага не даводзіцца чакаць з Усходу. Расія застаецца Расіяй, а ў Крамлі надоўга засела, як ты казаў, «вулічная банда».

Ты б убачыў, што кітайскі таталітарызм толькі ўзмацніўся, у чым мы пераканаліся падчас эпідэміі каронавіруса і пратэстаў у Ганконгу, вольным і няскораным горадзе, у які ты закахаўся. Мы ніколі не забудзем, як мы разам святкавалі



**«Ты неаднойчы казаў, што большасць крызісаў у гісторыі насамрэч былі крызісамі элітаў. Як толькі эліта знясільваецца — чакай праблемаў»**

Новы 2013-ы год у Ганконгу, і як ты рушыў на масавую дэманстрацыю супраць кітайскай экспансіі, дзе браў інтэрв'ю ў яе ўдзельнікаў для рэпартажу ў «Новы Час». Ты крочыў уздоўж хмарачосаў так, як шматкроць ішоў маршамі пратэстаў у Менску, перажываючы разам з ганконгцамі, але ў той жа час удумліва назіраючы за тым, як стваралася сучасная гісторыя.

Напэўна, ты быў бы вельмі расчараваны тым, што здарылася з Амерыкай. Усяго цягам некалькіх гадоў ЗША страцілі ролю сусветнага лідара і ператварыліся ў звычайную, пры гэтым далёка не лепшую, краіну. Стыль кіравання яе дзеючага прэзідэнта больш нагадвае Кадафі, чым Рэйгана. На яго фоне нават Пуцін выглядае адэкватным і ўраўнаважаным дзяржаўным дзеячам. У самыя цёмныя для Беларусі 2000-я гады, незалежна ад таго, наколькі дрэнна ішлі справы ў апазіцыі, дэмакратычныя сілы маглі разлічваць на падтрымку ЗША, як мінімум маральную. Пазіцыя Вашынгтона ў адстойванні дэмакратыі была яснай і гучнай. Цяпер гэтага голасу не чуваць. Не толькі вонкі, але і ўнутры ЗША.

Ты неаднойчы казаў, што большасць крызісаў у гісторыі насамрэч былі крызісамі элітаў. Як толькі моцная эліта знясільваецца — чакай праблемаў. Амерыканскія эліты настолькі загразлі ў самалюбаванні і ідэалагічных канфліктах, што забыліся пра людзей. Падзеленыя і разгубленыя, яны саступілі ініцыятыву ашалеламу натоўпу. Падобна да іншых гістарычных падзеяў, якія ты вывучаў. Нагадвае і тое, што адбывалася ў Беларусі ў сярэдзіне 1990-х гадоў.

Працяг на стар. 5 »

# Нуль подпісаў за Аляксандра Лукашэнку?

Сяргей ПУЛЬША

**Агучаная 25 траўня лічба ў 200 тысяч тых, хто падпісаўся за вылучэнне Аляксандра Лукашэнкі, выклікала сумнеў у беларусаў.**

Фінансавы аналітык Вадзім Іосуб паказаў «праўдападобнасць» сотняў тысячаў подпісаў, сабраных літаральна ў першыя дні кампаніі. Ён задаўся пытаннем, як такое магчыма, калі нідзе не відаць зборшчыкаў подпісаў за кіраўніка дзяржавы? У штабе «Белай Русі» распавялі TUT.BY, што 200 тысяч подпісаў сабрана ў грамадскіх прыёмных арганізацыі.

«200 тысяч подпісаў сабрана за 4 дні. Грамадскіх прыёмных у краіне 155. 323 чалавекі на кожную прыёмную кожны дзень. 13,5 чалавек у гадзіну, або 4,4 хвіліны на чалавека, пры кругласутачнай працы прыёмных. 40,4 чалавек у гадзіну, або 1,5 хвіліны на чалавека, пры 8-гадзіннай працы прыёмнай. Беспераппынна. Без паўзаў. У кожнай з прыёмных. Праўдападобна?» — напісаў Іосуб у сябе ў Фэйсбуку.

Экс-кіраўнік ПВТ, прэтэндэнт на пасаду кіраўніка дзяржавы Валерый Цапкала назваў адзіны спосаб, якім, на яго думку, каманда Лукашэнкі магла з рэкорднай хуткасцю сабраць 200 тысяч подпісаў. Такога выніку можна дасягнуць «калі пайсці па ўсіх заводах і пачаць збіраць у абавязковым парадку».

У «абавязковым парадку» подпісы, канешне, збіраюцца. У розных чатах, тэлеграм-каналах і сацыяльных сетках людзі расказваюць, што ў сярэднім з аднаго цэха, ці прадпрыемства, ці арганізацыі патрабуюць 200–300 подпісаў за Лукашэнку.

**Подпісы за кандыдата могуць збіраць толькі чальцы яго ініцыятыўнай групы. Подпісы, што сабраныя не чальцамі ініцыятыўнай групы, не могуць лічыцца сапраўднымі**

«Народныя навіны Віцебска» падалі допіс у бацькоўскім чаце настаўніцы пачатковых класаў адной са школ Віцебска. Настаўніца піша, што яна ўваходзіць у ініцыятыўную групу Лукашэнкі і перад ёй стаіць задача сабраць амаль 300 подпісаў, якую яна ацэньвае як вельмі цяжкую ў «сённяшніх умовах». Жанчына просіць бацькоў паставіцца з разуменнем да яе просьбы і аказаць садзейнічанне, для гэтага патрэбна паставіць подпіс за вылучэнне Лукашэнкі і прынесці з сабою пашпарт.

Праваабаронца Барыс Бухель высветліў, што на прадпрыемстве ААТ «Ольса» ў Магілёве супрацоўнікаў ліцейна-зборачнага цэха прымушалі падпісвацца за Лукашэнку — яшчэ 21 траўня ў цэх прыйшла ахова завода з запоўненымі спісамі, а кіраўніцтва загадала ўсім работнікам у абавязковым парадку пакінуць подпіс за вылучэнне Лукашэнкі.

Тэлеграм-канал NEXTA распавядае гісторыю, як да супрацоўнікаў ДБУ-15 (філіял ДСТ № 4) проста на аб'ект прыехаў намеснік генеральнага дырэктара ДСТ №4 і папрасіў, каб работнікі пакінулі свае подпісы. На пытанне, што пашпартоў з сабою няма, прагучаў незвычайны адказ: «Знойдзем. Ад вас патрэбныя толькі подпіс і дата».

Настаўнікі школы №51 даслалі скрыншот паведамлення, дзе іх просяць унесці ў бланк пашпартныя звесткі бацькоў вучняў. Дзе іх узяць? З дамоваў на платныя паслугі. Можна толькі здагадвацца, колькі бацькоў падпісаліся за Лукашэнку, самі таго не ведаючы.

У Брэсцкай абласной дзіцячай бальніцы далі ўказанне сабраць 300 подпісаў за Лукашэнку. Тым, хто супраць, намякнулі пра непадаўжэнне кантракта. Таксама загадчыкам аддзяленняў трэба падаць галоўнаму доктару спісы работнікаў з указаннем, хто паставіў подпіс, а хто адмовіўся.

На шклозаводзе «Нёман» намесніца дырэктара па ідэалагічнай працы, сацыяльных пытаннях і кадрах патрабуе 200 подпісаў з цэха. На Мінскім заводзе грамадзянскай авіяцыі ўсіх супрацоўнікаў просяць зайсці ў аддзел кадраў і паставіць дату і подпіс. Усе звесткі людзей ужо запоўненыя. Праўда, непадаўжэннем кантракту не палохаюць, таму многія адмаўляюцца.

У ФЭМ, БДЭУ, па старой завядзёнцы, студэнтаў палохаюць незасяленнем у інтэрнат. А выпрошваюць, вядома, подпіс за Лукашэнку. А як пасля 9 жніўня ў краіне будзе новы кіраўнік, што тады? Не засеяць тых, хто паставіў подпіс?

Такіх прыкладаў па краіне ўжо багата. Але не ўсіх прымушаюць. Намеснік старшыні «Белай Русі» Аляксандр Шацько распавёў: «Подпісы ў падтрымку Лукашэнкі збіраюць актывісты нашай арганізацыі, і таксама дзясяткі, сотні тысяч людзей па ўсёй краіне, якім блізкі і зразумелы дзеючы дзяржаўны курс. І такіх людзей значна больш, чым 200 тысяч, паверце нам на слова».

Але справа ў тым, што «актывісты» і «дзясяткі, сотні тысяч людзей па ўсёй краіне, якім блізкі і зразумелы дзеючы дзяржаўны курс», збіраць подпісы не маюць права. Як заўважыў блогер Яўген Ліпковіч, па сутнасці, Шацько распавёў аб парушэнні выбарчага заканадаўства — подпісы за вылучэнне кандыдата могуць збіраць толькі чальцы яго ініцыятыўнай групы, якім выдалі адпаведнае пасведчанне. Подпісы, што сабраныя не чальцамі ініцыятыўнай групы, не могуць лічыцца сапраўднымі. І не важна, пад прымусам іх сабралі ці добраахвотна.

Ліпковіч ужо адправіў зварот у ЦВК, у якім запатрабаваў вынесці папярэджанне кандыдату Лукашэнку, а таксама ануляваць сабраныя за яго подпісы.

Такім чынам, цалкам можа аказацца, што за Аляксандра Лукашэнку не падпісаўся ніхто — акрамя чальцоў яго ініцыятыўнай групы і актыву «Белай Русі». А гэта нават да абвешчаных 200 тысяч подпісаў не дацягне.

# Рэклама «Поедем поедим» побач з Курапатамі — некампетэнтнасць чыноўнікаў ці карупцыя?

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Больш за год ідзе змаганне грамадскіх актывістаў за тое, каб ля ўрочышча Курапаты, з заходняга боку мемарыяла, прыбралі рэкламныя білборды скандальнай рэстарацыі «Поедем поедим». Чаму справа, якая, падаецца, мусіла быць вырашаная пасля першага ж звароту ў кампетэнтныя структуры, дагэтуль не завершаная, і рэклама з выявай шашлыкоў працягвае вісець ля месца расстрэлаў тысяч людзей?**

«Новы Час» пачаў пісаць пра гэтую гісторыю яшчэ ў жніўні 2019 года. На МКАД, побач з Курапатамі, з заходняга боку мемарыяла, былі размешчаныя тры рэкламныя білборды, у тым ліку білборд з рэкламай рэстарана «Поедем поедим» з выявамі шашлыкоў ды хінкалі, а таксама сацыяльная рэклама пра падаткі ды аліменты. Відавочна, што месца для любой рэкламы выбрана няўдала. Да таго ж у арт. 110 Кодэкса аб культуры пазначана, што сродкі вонкавай рэкламы не павінны ствараць перашкоды для візуальнага ўспрымання гісторыка-культурнай каштоўнасці, а іх эскізы павінны ўзгадняцца ў Міністэрстве культуры. Пасля звароту каардынаткі «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» Ганны Шапуцька ў Мінкульт, міністэрства прызнала, што не ўзгадняла ніякай рэкламы, і скіравала ліст з тлумачэннямі заканадаўства ў Мінскі гарвыканкам ды праінфармавала Мінскі райвыканкам пра «неабходнасць вынасу за межы тэрыторыі праекта зон аховы "Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій" ва ўрочышчы Курапаты рэкламных канструкцый, якія супярэчаць артыкулу 110 Кодэкса аб культуры».

Далейшая перапіска чыноўнікаў паміж сабой ды з грамадскімі актывістамі нагадвае гульню ў гарачую бульбу — каму б скінуць адказнасць за незаконную рэкламу і пры гэтым не апячы рук? У сваіх адказах чыноўнікі пачалі масава «прыкідвацца шлангамі» і падмяняць заканадаўчыя тэрміны.

Напрыклад, што піша райвыканкам: «Шчыт, які ўказаны ў Вашых зваротах з рэкламай рэстарацыі "Поедем поедим" (далей — шчыт з рэкламай рэстарана) не размяшчаецца ў межах ахоўнай зоны».

Што піша гарвыканкам: «Па дадзеных дзяржаўнага будаўнічага кадастру сродкі вонкавай рэкламы, размешчаныя ўздоўж МКАД у раёне ўрочышча "Курапаты" ў межах адміністрацыйнай мяжы горада, размешчаны да чырвонай лініі МКАД і, такім чынам, не знаходзяцца ў ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці».

Мы з вамі можам і не ведаць адрозненне паміж паняццямі «зона аховы» і «ахоўныя зоны». А вось кампетэнтныя чыноўнікі ведаць абавязаныя. Гэта не ідэнтычныя паняцці, як бы падобна яны ні гучалі.

Розніцу тлумачыць грамадская актывістка Ганна Шапуцька: «Згодна з гл. 1 п. 6 Пастановы №70 Міністэрства культуры, Праектам зон аховы ўстаноўлены наступныя зоны аховы мемарыяла Курапаты: ахоўная зона, зона рэгулявання забудовы, зона аховы ландшафту. Такім чынам, ахоўная зона — гэта ўсяго толькі складовая частка зон аховы. Чыноўнікі гарвыканкама і райвыканкама ці то свядома, ці то з-за сваёй непрафесійнасці ўводзяць у зман. Дзве металічныя рэкламныя канструкцыі, у тым ліку адна з рэкламай рэстарана, знаходзяцца ў першым участку зоны рэгулявання забудовы. Такім чынам, гэта, безумоўна, не ахоўная зона, але зона аховы.

Таму гэтыя рэкламныя канструкцыі (адна з якіх належыць ТАА «Артасур», а другая — ІП Масляніказу Р.В.) пастаўлены незаконна і павінны быць дэмантаваныя, як раней была дэмантаваная канструкцыя, што належала «БелЗнешРэкламе» — і дазволу ад Мінкультуры на яе ўсталяванне таксама не было. Трэба адзначыць, што рэкламныя канструкцыі насупраць рэстарана, які ў той час меў назву «Бульбаш-хол», былі сфатаграфаваныя журналістамі яшчэ ў 2012 годзе, то-бок яшчэ пры будаўніцтве рэстарана парушалася заканадаўства Рэспублікі Беларусь, бо аніякага дазволу ад Мінкультуры не было тады, і не існуе цяпер... Мы бачым расцягнутае ў часе, як мінімум, адміністрацыйнае праваапарушэнне, а як максімум — злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі — атрыманне незаконных рэкламных паслуг аднымі і атрыманне незаконнага матэрыяльнага даходу за прадстаўленне рэкламных паслуг іншымі».

Разумеючы, што ад «шлангаў» з райвыканкама і гарвыканкама карысці нямнога, грамадскія актывісты звярнуліся ў Генпракуратуру, адкуль атрымалі даволі адэкватны адказ — маўляў, з выкладзеных абставін угледжваецца магчымае парушэнне Кодэкса аб культуры. Генпракуратура звярнулася ў Міністэрства культуры з патрабаваннем арганізаваць праверку і вызначыць фактычнае месца размяшчэння сродкаў вонкавай рэкламы — на тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці альбо ў зоне яе аховы, ды адпаведнасць рэкламы да іншых патрабаванняў заканадаўства.

Міністэрства культуры не вытрымала кінутай яму гарачай бульбы і ад асэнсавання таго, што некалі ўсё ж давядзецца даць па руках рэстарану «Поедем поедим», страціла рэшткі смеласці. Намеснік міністра В. І. Грамада ў сваім адказе ігнаруе наяўнасць рэкламных канструкцый у зоне рэгуляванай забудовы мемарыяла Курапаты, блытаючы тэрміны «ахоўная зона» і «зона аховы», фактычна капіюючы словы ў словa адказы чыноўнікаў Мінгарвыканкама і Мінаблвыканкама. Праўда, намеснік міністра пацвердзіў, што светлавая шыльда рэстарана, пра якую таксама запытвалі грамадскія актывісты, не была ўзгодненая Міністэрствам культуры. Светлавая шыльда на будынку рэстарацыі павінна быць дэмантаваная.

Такім чынам, перакідванне гарачай бульбы працягваецца ўжо амаль год. Цяпер абаронцы Курапатаў накіравалі чарговы зварот — на гэты раз уласна міністру культуры, каб ён праверыў, што адказваюць яго падначаленыя і навошта яны ўводзяць у зман Генеральную пракуратуру. Прычыны бачыцца толькі тры — альбо непасрэдная матэрыяльная зацікаўленасць, альбо прафесійная некампетэнтнасць, альбо няўменне чытаць Пастановы, выдадзеныя ўласным жа міністэрствам.

На карысць думкі, што бюракратам вельмі ўжо не хочацца чапаць рэкламу рэстарана «Поедем поедим», гаворыць і той факт, што чыноўнікі даволі хутка адрэагавалі на іншы білборд — з сацыяльнай рэкламай. Літаральна пасля першых зваротаў абаронцаў Курапатаў Мінрайвыканкам адказаў, што эскіз сацыяльнай рэкламы ўжо адправілі на ўзгадненне Мінкульту. Чаму ж тады так замаруджваецца справа з білбордамі «Поедем поедим»?

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Вяртаемся ў 1994-ты?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Хто б ні стаў кіраўніком Беларусі пасля 9 жніўня, ён сутыкнецца з вельмі сур'ёзнымі выклікамі. І не ў малой ступені таму, што мы сёння спрабуем утрымаць эканамічную сітуацыю на паверхні вельмі дзіўнымі метадамі. Гэтыя дзіўныя метады выяўляюцца ў тым, што нам важнейшыя лічбы, а не рэальны стан эканомікі.**

Несуцяшальная навіна: справаздача Сусветнага банка па Беларусі прадракае краіне ў 2020 годзе «самы вялікі спад за апошнія 25 гадоў» — такі эканамічны прагноз Сусветнага банка, анлайн-прэзентацыя якога адбылася 26 траўня. Сардэчна запрашаем у 1990-я і ў пачатак палітычнай кар'еры Аляксандра Лукашэнкі! Бліскучы вынік 25-гадовага кіравання, ці не так?

Такім чынам, Сусветны банк прагназуе, што ВУП Беларусі знізіцца на 4% у параўнанні з мінулым годам. Інфляцыя ў гадавым выражэнні складзе 8,4%, дэфіцыт рахунку бягучых аперацый — 5,8% ВУП, дэфіцыт кансалідаванага бюджэту складзецца ў памеры 3,1% ВУП, а дзярждоўг (у пашыраным вызначэнні) вырасце да 55,2% ВУП з 43,7% ВУП у 2019-м.

Нагадаем, што, згодна з прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2020 год, ВУП краіны павінен вырасці на 2,8%; інфляцыя — скласці 5%, экспарт тавараў і паслуг — вырасці на 3,6%, а сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі — узрасці на 1% у ВУП.

«Беларусь адчувае на сабе ціск у сувязі з некалькімі негатыўнымі фактарамі. Перш за ўсё, гэта шок ад падзення цэнаў на нафту, які адбыўся ў пачатку 2020 года, а таксама шок праз зніжэнне паставак сырой нафты», — адзначыла падчас прэзентацыі прагнозу эканаміст СБ Марына Сідарэнка. Яшчэ адзін «істотны шок» зазнала Беларусь у сувязі з уплывам пандэміі. «Дагэтуль уздзеянне, выклікане пандэміяй, працягваецца, у выніку чаго назіраецца істотнае зніжэнне дзелавой актыўнасці ў краінах — асноўных гандлёвых партнёрах Беларусі, перш за ўсё Расіі і Еўразаюзе», — канстатавала эканамістка.

Сусветны банк адзначае, што аднаўленне эканомікі пасля крызіснага 2020-га можа быць «паступовым і вельмі умераным». У 2021 годзе рост ВУП будзе нізкім і складзе 1%, у 2022 годзе — 1,2%. Але і гэты прагноз Сідарэнка называе «даволі аптымістычным, які прадугледжвае, што ў другой палове года, у чацвёртым квартале і ў пачатку 2021 года пачнецца аднаўленне эканамічнага росту ў ЕС і Расіі».

Пакуль жа наш урад заклапаціўся тым, што інфляцыя за першыя 4 месяцы гэтага года ўжо перавышае прагнозны паказчык. У сувязі з гэтым Лукашэнка правёў нараду па росце коштаў, на якім Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю агучыла сваё рашэнне — увесці мараторый на павышэнне цэнаў на паслугі адукацыі, транспарту і сувязі. Міністр МАРГ Уладзімір Калтовіч заявіў, што «мы пакуль прынялі рашэнне прыпыніць павышэнне запланаваных тарыфаў на адукацыю, на транспарт, рост коштаў на сувязь». Пры гэтым ён зрабіў агаворку, што, «калі мы ўваходзім у запланаваны трэнд інфляцыі і сітуацыя захаваецца нармальная, мы за тое, каб гэтыя тарыфы былі падвышаныя, як запланавана». Таксама ў красавіку пастановай МАРГ было ўведзена дзяржрэгуляванне цэнаў на асобныя сацыяльна значныя тавары тэрмінам на 90 дзён.

У сувязі з такім рашэннем у таго ж Калтовіча настала «галавакружэнне ад поспехаў», і ён нават выказаў здагадку, што «ў траўні чакаецца дэфляцыя, а гэта дазволіць выйсці на запланаваны на бягучы год узровень інфляцыі». Кіраўнік МАРГ нават заявіў, што па выніках года ўдасца ўкласціся ў запланаваныя 5% інфляцыі. «У мяне як у міністра не выклікае ніякіх сумневаў, што гэта будзе так», — падкрэсліў Калтовіч.

**Цэны на адукацыю ў нас — самыя хуткарослыя, і кошт, напрыклад, вышэйшай адукацыі толькі за красавік гэтага года вырас на 18%. Пры гэтым сярэдняя зарплата ў адукацыі ў Мінску, паводле Белстата, складае ўсяго 992 рублі. І гэта — у сталіцы, а як у рэгіёнах?**

Адміністрацыйнае рэгуляванне, вядома, заўсёды добра адбівалася на лічбах і паказчыках. Толькі вось у рэальнасці яно прыводзіць да вельмі негатыўных наступстваў для эканомікі. Па-першае, мы ўжо неаднаразова адзначалі, што ў Беларусі цэны растуць менавіта на «рэгуляваныя» і «сацыяльна значныя» тавары. Па-другое, ва ўмовах росту кошту выдаткаў на вытворчасць тавараў і паслуг (а гэтыя выдаткі ніяк не замарожваюцца) абмежаванне коштаў на канчатковую прадукцыю прыводзіць да падзення даходаў работнікаў, якія гэтыя тавары вырабляюць. Бо вытворчасць не спыніш, асабліва «сацыяльна значную», а значыць, даводзіцца скарачаць аплату працы. Ну і, вядома, «нерэнтабельная вытворчасць» вельмі хутка становіцца банкрутам, што вядзе да знікнення тавараў наогул. Праўда, адукацыі, транспарту і сувязі гэта, напэўна, не пагражае. Але вось «сацыяльна значныя тавары», цэны на якія рэгулююцца 90 дзён, могуць аказацца ў дэфіцыце.

Затое ў нас са статыстыкай усё нармальна будзе.

Варта адзначыць, што красавіцкае «дзяржрэгуляванне» ўжо дало свой эфект у пункце «па-другое». Нават па афіцыйных звестках, у красавіку налічаная сярэдняя зарплата работнікаў сталіцы знізілася на 4,5%. Або на 81,1 рубля менш, чым у сакавіку.

Для тых, хто атрымлівае самую высокую сталічную зарплату (гэта ад 2 да 5 тысячаў рублёў — IT-спецыялісты, работнікі горназдабыўной прамысловасці, тэлекамунікацыйнай сферы, фінансавага і страхавога сектара і гэтак далей), 80 рублёў — сума невялікая. А вось што рабіць работнікам сталічных бібліятэк, архіваў, музеяў і сацыяльным работнікам, у якіх зарплата ад 800 да 890 рублёў? Для іх 80 рублёў — дзясятая частка заробку.

Пры гэтым адзначым яшчэ адзін парадокс. Цэны на адукацыю ў нас — самыя хуткарослыя, і кошт, напрыклад, вышэйшай адукацыі толькі за красавік гэтага года вырас на 18%. Пры гэтым сярэдняя зарплата ў адукацыі ў Мінску, паводле Белстата, складае ўсяго 992 рублі. І гэта — у сталіцы, а як у рэгіёнах?

Так і хочацца задаць «пытанне Казуліна» на выбарах–2006: «Дзе грошы, Аляксандр?!»

А грошай няма. Іх няма нават на падтрымку тых арганізацый, якім яна была абяцаная кіраўніком краіны. На той жа нарадзе Лукашэнка анансаваў праект указа, згодна з якім у выпадку вымушанага прастою альбо няпоўнай занятасці работнікам бюджэтных арганізацый даплацяць зарплату. Але даплацяць толькі да ўзроўню мінімальнай зарплаты. Яна цяпер складае ўсяго 375 рублёў у месяц.

Так што абяцаныя больш за дзесяцігоддзе таму «па 500 у эквіваленце» мы атрымаем не хутка. Тут як бы заробак не скаціўся да ўзроўню 1994-га — па 50 у эквіваленце. А і такое можа быць, калі мы будзем аддаваць перавагу лічбам, а не фактам.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Сяргей Ціханоўскі

**Фота чаргі жадаючых паставіць подпіс за кандыдата ў кандыдаты, жонку блогера, абляцела інтэрнэт.**

«Я быў здзіўлены. Думаў, што падтрымка анлайн — гэта адно, а афлайн — зусім іншае, — прызнаецца Ціханоўскі. — У мяне ўжо быў досвед падчас парламенцкай кампаніі. Рабілі ў Мінску пікеты, блогер Nexta запрашаў людзей на сустрэчу. 300 чалавек прыходзілі. Але вось каб проста так, у выхадны дзень, падчас пандэміі ўсё адно людзі прыйшлі? Каб чарга ажно да метро была?»

Ён зазначыў, што да такой колькасці людзей нават не рыхтаваліся — узялі чатыры сталы, выдавалі пасведчанні сяброў ініцыятыўнай групы, збіралі подпісы. «Не чакаў, што такі вялікі попыт на перамены будзе, што людзі паверылі, — кажа ён. — Магчыма, галасамі нашу праблему не вырашыш, але што людзі хочуць дзейнічаць і выходзяць афлайн, мяне гэта здзівіла. Я думаў, што падтрымка будзе меншай. Некаторыя людзі казалі, што стаялі ў чарзе тры з паловай гадзіны».

На пікеце 24 траўня ля Камароўскага рынку ў Мінску Сяргея Ціханоўскага віталі воплескамі. Блогеру часам было цяжка прайсці праз натоўп ахвотнікаў пагаварыць з ім і сфатаграфавацца. За некалькі гадзін пікету было сабрана каля 3 тысяч подпісаў.



## Рыгор Кастусёў

**Судовыя выканаўцы апісалі маёмасць старшыні Партыі БНФ. Гэта робіцца за нявыплату штрафаў, якія палітыку прысудзілі за ўдзел у акцыях супраць інтэграцыі з Расіяй.**

«Штраф быў 810 рублёў, і ў дадатак да гэтага судовыя выканаўцы яшчэ налічылі 81 рубель. Мне паведамілі, што накладзены арышт на карыстанне гаражом і машынай, а сёння апісалі ў кватэры частку маёмасці: тэлевізар, халадзільнік, пральную машыну, канапу, крэслы і стацыянарны тэлефон. Мяне азнаёмілі з пратаколам, але маёмасць не забіралі, яна знаходзіцца ў кватэры як быццам на захаванні з першасным правам на продаж», — перадае «Радыё Рацыя» словы Кастусёва.

Палітык называе смешнымі сумы, у якія ацанілі яго маёмасць: «Напрыклад, тэлевізар ацанілі ўсяго ў 20 рублёў, пральную машыну — у 70 рублёў… Агульны кошт арыштаванай маёмасці складае 430 рублёў».

Кастусёў звярнуўся да сяброў, просячы дапамагчы, каб аплаціць хаця б палову штрафу ў растэрміноўку. Пасля гэтага звароту праз СМІ і сацыяльныя сеткі яму дапамаглі, і штраф ён выплаціў.



## Зміцер Бародка

**Былы актывіст «Еўрапейскай Беларусі», які пасля рэпрэсій 2010 года мусіў з'ехаць у Польшчу, вярнуўся на радзіму.**

Праз тыдзень пасля жорсткага разгону дэманстрацыі і масавых арыштаў у выбарчы вечар 2010 года Бародка ўцёк у Варшаву. У польскай сталіцы разам з землякамі актывіст і былы паплечнік Саннікава заснаваў «Беларускі дом», які стаў цэнтрам беларускага жыцця ў Варшаве. Але ў 2013 годзе супраца з былымі калегамі па «Еўрапейскай Беларусі» спынілася.

У Польшчы ён таксама заснаваў фірму па рэкрутацыі беларускіх рабочых. Спачатку асабліва вялікага руху не было, але ў 2017 годзе беларусы паехалі на працу ў Польшчу. «Да гэтага там былі пераважна ўкраінцы. Але нашы беларусы вельмі запатрабаваныя на польскім рынку. Некаторыя фірмы нават прасілі ў нас менавіта беларусаў на працу. Яны лічаць адказнымі людзьмі, больш падрыхтаванымі», — адзначыў Бародка.

Бародка пачаў ездзіць у Беларусь 2015 годзе — у яго тут засталася сям'я. Некалькі месяцаў таму, яшчэ да пачатку пандэміі каронавіруса, Бародка чарговым разам прыехаў дадому. Калі ў ЕС пачалі закрываць межы, то вярнуцца назад у Польшчу ён ужо не змог. Бародка вярнуўся да грамадска-палітычнай дзейнасці і далучыўся да каманды старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Сяргея Чэрачня, які спрабуе стаць кандыдатам у прэзідэнты — ён ужо 13 гадоў сябра гэтай партыі.

На пачатку 2000-х гадоў Бародка быў каардынатарам маладзевага руху «Зубр» па Мінскай вобласці.




**Не будзем выключаць сцэнару пераносу выбараў. Гэта можа адбыцца пры ўвядзенні надзвычайнага становішча. Напрыклад, праз пагаршэнне сітуацыі з каронавірусам ці пры прызнанні такога пагаршэння ўладамі, калі рэйтынг Лукашэнкі крытычна абваліцца, а пратэставыя настроі будуць імкліва расці**

# «Хто заўгодна, абы не Лукашэнка»

## Рызыкі і надзеі–2020

Павел КІРЫЛАЎ

**Працягваецца другі этап электаральнай кампаніі. На вулічных пікетах, дзе каманды прэтэндэнтаў збіраюць подпісы, дастаткова ажыятажна: часам стаяць шматгадзінныя чэргі. У многіх прыхільнікаў пераменаў расце аптымізм, што неўзабаве эпоха кіравання Аляксандра Лукашэнкі скончыцца.**

Збор подпісаў падчас гэтай кампаніі адметны тым, што яны ў малым аб'ёме збіраюцца ў фармаце «ад дзвярэй да дзвярэй». То-бок, зборшчыкі няшмат ходзяць па кватэрах. Прычына вядомая: каронавірусная эпідэмія.

Хаця, напрыклад, у Гомелі зборшчыца подпісаў за Аляксандра Лукашэнку абыходзіла кватэры без маскі. І канкурэнты, убачыўшы відэа ў інтэрнэце, папрасілі Цэнтрвыбаркам вынесці ягонай ініцыятыўнай групе папярэджанне. Рэч у тым, што ЦВК абавязаў усіх зборшчыкаў подпісаў насіць не толькі маскі, але і пальчаткі, папярэдзіўшы, што парушэнне гэтай рэкамендацыі пацягне за сабой папярэджанне. Ці рызыкне Ярмошына папярэдзіць каманду Лукашэнкі?

### Лукашэнка і COVID-19: хто страшнейшы?

У ініцыятыўных групах вырашылі, што бяспечней збіраць подпісы на вуліцы з мерамі антыэпідэмічнай бяспекі. Што праўда, са сродкаў гэтай самай бяспекі выкарыстоўваюцца збольшага толькі маскі і сацыяльная дыстанцыя ў чэргах. Прыкладна 90 працэнтаў ахвотных паставіць подпіс і абсалютна ўсе зборшчыкі подпісаў, што сядзяць за пікетнымі сталамі, надзяваюць маскі. А вось каля саміх гэтых сталоў — насуперак усім санітарным рэкамендацыям — часам утвараецца вельмі шчыльны натоўп. Дый асадка, якой запаўняюцца падпісныя аркушы і ставяць аўтографы грамадзяне, адна агульная на ўсіх. І сродкаў дэзінфекцыі на пікетах амаль няма.

Што да захадаў бяспекі супраць COVID-19, то па-апазіцыйнаму настроеныя грамадзяне выявілі тут падвойныя стандарты. Парад 9 траўня быў многімі раскрытыкаваны за небяспечную натоўпавасць, а на масавых пікетах нярэдка ствараецца такая самая сітуацыя. Тлумачэнне знаходзіцца кідкае: рэжым Лукашэнкі больш небяспечны за каронавірус, змагацца трэба перадусім з ім! Паглядзім, ці не будзе ўспышкі захворванняў у першай дэкадзе чэрвеня. Калі стануць вядомыя выпадкі заражэння сярод зборшчыкаў подпісаў, то збіраць подпісы і на пікетах стане праблематычна. Наогул, калі раптам адбудзецца рост захворванняў, то правядзенне выбараў акажацца пад пагрозай.

Хаця Лукашэнка наважаны правесці іх менавіта 9 жніўня, бо час і стан эканомікі гуляюць супраць яго. Кандыдаты ад тытульнай апазіцыі (АГП, БХД, Руху «За Свабоду»), якія правалілі праймерыз па вызначэнні адзінага кандыдата ад правацэнтрысцкай кааліцыі і зарэгістравалі свае ініцыятыўныя групы выключна сімвалічна, подпісаў не збіраюць, а выкарыстоўваюць гэты этап для легальных камунікацый з людзьмі. Яны якраз выступаюць за перанос выбараў на пазнейшы тэрмін пасля заканчэння каронавіруснай эпідэміі.



Фота Генадзя Кеснера

Такі нюанс: калі б рашэнне пра перанос было прынятае, то выбарчая кампанія мусіла б прайсці, калі і з удзелам Лукашэнкі, то ў якасці звычайнага грамадзяніна. 7 лістапада заканчваецца тэрмін ягоных паўнамоцтваў, і кіраваць краінай павінен быў бы прэм'ер-міністр Сяргей Румас.

Зрэшты, не будзем выключаць сцэнару пераносу выбараў. Што праўда, гэта можа адбыцца пры ўвядзенні надзвычайнага становішча. Напрыклад, праз пагаршэнне сітуацыі з каронавірусам ці пры прызнанні і выкарыстанні такога пагаршэння ўладамі, калі рэйтынг Лукашэнкі крытычна абваліцца, а пратэставыя настроі будуць імкліва расці. Ужо доўгі час афіцыйная статыстыка па каронавірусе выдае падазронае плато: пад тысячу захворванняў і 3–5 смерцяў штодня. Калі сапраўдныя даныя фальсіфікуюцца, то для запуску сцэнару з пераносам выбараў уладам дастаткова проста пачаць паведамляць рэальныя лічбы.

А прэцэдэнт з пераносам выбараў ёсць — зусім свежы і побач з намі: у суседняй Польшчы напачатку траўня павінны былі адбыцца прэзідэнцкія выбары, але іх перанеслі на нявызначаны час нават без усялякіх надзвычайных становішчаў. Папросту вырашылі, што ў каранцінных умовах паўнавартасна правесці выбарчую кампанію немагчыма.

Дарэчы, Лукашэнка заявіў, што бліжэйшым часам сфарміруе новы ўрад. Не выключана, што замест Румаса прэм'ер-міністрам стане больш адданы Лукашэнку чыноўнік — напрыклад, былая кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта, а цяпер старшыня Савета Рэспублікі Наталля Качанава. На ўсялякі выпадак: калі выбары будуць перанесеныя, а таксама калі галасаванне і Плошча 9 жніўня скончацца не на карысць Лукашэнкі.

### Кандыдаты-інтрыгоўнікі

Пакуль выглядае на тое, што прэзідэнтура наважаная зладзіць чарговую элегантную перамогу Лукашэнкі. Ужо праз чатыры дні збору подпісаў ён паведаміў, што ягоная ініцыятыўная група сабрала 200 тысяч подпісаў. Па ўсім, агулам будзе за мільён, а то і пад два мільёны подпісаў. У 2015 годзе было 1,7 мільёна, у 2010-м — 1,1 мільёна. Такія лічбы традыцыйна дэманструюцца, каб велічна выглядаць на фоне супернікаў і загадзя абгрунтаваць вялікі працэнт набраных галасоў паводле афіцыйных вынікаў выбараў.

Разам з тым паведамленне пра 200 тысяч подпісаў, сабраных за некалькі дзён, могуць быць сігналам для астатніх кандыдатаў, што фільтр датычна колькасці подпісаў сёлета, як і падчас дзвюх мінулых кампаній, будзе нястрогі.

Банкір Віктар Бабарыка, які лічыцца фаварытам сярод апанентаў Лукашэнкі, разлічвае лёгка набраць 150 тысяч, але яго каманда замахваецца нават на мільён. Каманда яшчэ аднаго прэтэндэнта кампаніі–2020, блогера Сяргея Ціханоўскага, якога ЦВК не зарэгістравала і які стаў кіраўніком ініцыятыўнай групы сваёй жонкі, спачатку думала збіраць подпісы фармальна, але цяпер ужо мае намер здабыць патрэбную колькасць у 100 тысяч. Каб працягнуць легальна сустракацца з прыхільнікамі і падчас агітацыйнага этапу.

Увогуле, альтэрнатыўных кандыдатаў можна падзяліць на дзве групы — «плошчавікі», якія лічаць, што выбары зноў будуць фальсіфікаваныя, але Лукашэнку можна сёлета скінуць праз Плошчу, і «ўчаствакі», для якіх выбары скончацца на выбарчых участках для галасавання ў 20.00 9 жніўня. «Плошчавікі» — гэта Сяргей Ціханоўскі, Уладзімір Няпомняшчых (адзіны «кандыдат пратэсту» па плане Міколы Статкевіча), «праймерызцы» Юрый Губарэвіч, Вольга Кавалькова, Мікалай Казлоў. Іх месідж да грамадзян прыкладна аднолькавы: на выбары хадзіць не варта, бярыце ўдзел у назіранні, фіксуйце парушэнні і, верагодна, рэкордна нізкую яўку выбаршчыкаў. А яўка менш за 50 працэнтаў азначае, што выбары не адбыліся і патрэбна ладзіць новыя. Дарэчы, тут зноў згадваем той момант, што ўладныя паўнамоцтвы Лукашэнкі, калі не лічыць, што ён і так незаконна сядзіць ужо які тэрмін, заканчваюцца 7 лістапада.

«Участвакі» — усе астатнія кандыдаты. Толькі вось прыхільнікі Віктара Бабарыкі спадзяюцца, што ён 9 жніўня не павіншуе Аляксандра Лукашэнку з чарговай перамогай. Сам ён заявіў, што супраць Плошчы, але будзе там, калі ягоныя выбаршчыкі выйдуць на вуліцы.

Валерыя Цапкалу, былога кіраўніка Парка высокіх тэхналогій і пасла ў ЗША, дэмакратычны электарат ужо, здаецца, спісаў у спарынг-партнёры Лукашэнкі. Хаця той дапускае досыць рэзкія выказванні датычна кампетэнцыі дзейнага кіраўніка краіны. А вось Бабарыка і Ціханоўскі застаюцца «катамі ў меху». Версіяў процьма: нехта з іх прарасійскі кандыдат; абодва прарасійскія, проста камбінавана працуюць з радыкальнымі ненавіснікамі Лукашэнкі і прыхільнікамі мірных перамен; самастойныя гульцы, адзін з якіх дзейнічае на кантрасце з брутальным Лукашэнкам, а другі — па прынцыпе «клін клінам выбіваюць».

Выглядае на тое, што гэтая інтрыга захаваецца да самага канца. Добра, што інтрыга, якая дае надзею беларусам на перамены, наогул існуе. З другога боку, падыход «хто заўгодна, абы не Лукашэнка» тоіць пагрозы.

# Ліст да таты

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1

## Філасофія на пустым месцы

І вось калі свет ужо і так моцна ліхаманіла, на чалавецтва напаў каронавірус. Не будзем шмат пра яго пісаць, бо інфармацыі хапае, але рашэння праблемы пакуль не вынайдзена. Хаця цяпер усё вельмі няпэўна, некаторыя рэчы мы ведаем дакладна. Мы ведаем, што ты б пасміхаўся сваёй фірмовай усмешкай — добрай і крыху іранічнай адначасова — над бясконцымі развагамі пра тое, якім будзе посткавідны свет.

Ты б дзівіўся, але цябе б не паглынула плынь таго, што ты называў «філасофіяй на пустым месцы», якая гігабайтамі льецца праз сацыяльныя сеткі. Калі толькі адкрыліся межы СССР, з'явілася мноства тэлепраграм і артыкулаў пра розныя краіны. Тады ты казаў: «Цяпер кожны, хто правёў тыдзень за мяжой, лічыць сваім абавязкам напісаць падарожныя нататкі. Часта павярхоўныя. І празмерна ўсхваляваныя. З гэтым трэба быць асцярожнымі». У цябе быў яшчэ адзін дэвіз, твой правераны прынцып пісьменніка: «Калі можаш не пісаць, лепш не пішы». У наш час інфармацыйнага шуму ён быў бы вельмі дарэчы.

А яшчэ мы ведаем, што самай высокай каштоўнасцю для цябе заўжды было чалавечае жыццё. З уласцівай табе мудрасцю, ты б хутка зразумеў каварную каронавірусную статыстыку, у якой за мяккімі сімптомамі ў большасці хворых хаваецца смерць дзясяткаў і сотняў тысяч. І ты б ніколі не пагадзіўся, што кімсьці можна ахвяраваць. Твая рэдакцыя адной з першых перайшла б на рэжым працы на ўдалёнцы, і ты б асабіста клапаціўся пра сваіх супрацоўнікаў ды іх сем'і. Ты так рабіў усё жыццё.

Ты сам быў бы сярод першых, хто скарыстаўся магчымасцямі сучасных тэхналогій, у тым ліку анлайн-відэа. Ты заўжды цікавіўся і ўхваляў усё новае, быццам табе ніколі не было больш за 35 гадоў. Камп'ютар, імэйлы, месенджары, відэа-званкі і нават запуск анлайн-версіі газеты — усё гэта далося табе натуральна, нягледзячы на тое, што па натуры ты быў гуманітарыем.

## Паміж дабром і злом у свеце існуе баланс

У цябе быў надзвычай адчувальны радар чалавечнасці. У адным з інтэрв'ю ты сказаў, што фізічна адчуваеш патрэбу ў свабодзе выказвання. Больш за тое, ты фізічна адчуваў усе каштоўнасці чалавечнасці. У знешне спакойнага інтэлектуала і гісторыка была душа чалавека, які глыбока перажываў боль гэтага свету. Табе б моцна балела бачыць тое, што цяпер адбываецца. Ты быў бы моцна заклапочаны. У тым ліку тым, што наступныя за тваім пакаленні, магчыма, не змогуць жыць у адносным міры




ЗША, 9–30 лістапада 2008 года



Ганконг, студзень 2013 года



Аляксей Кароль падчас пратэстаў у Ганконгу



Рэдакцыя «Згоды» з кіраўніком місіі АБСЕ у Мінску Эберхардам Хайкенам, травень 2004 года



і камфорце, хаця заслугоўваюць гэтага абсалютна ўсе.

Але ты ніколі не спрабаваў схавацца ад гісторыі, ствараць якую для цябе было нават больш цікава, чым пісаць пра яе. Таму ты б чытаў самыя розныя крыніцы — як свае, так і чужыя — пра гэты новы «сусветны беспарадак». Як заўжды, ты б крытычна засвойваў і аналізаваў усю гэтую інфармацыю. Мы захапляліся тваёй здольнасцю спакойна ўспрымаць нават варожую прапаганду, уключаць логіку, а не злосць і жаданне заплюшчыць вочы ды вушы. Ты цвяроза ацэньваў яе небяспеку, але шукаў шляхі, як ёй супрацьстаяць.

Тваё адчуванне несправядлівасці і суперажыванне чалавечаму болю выяўляліся ў тваёй дзейнасці публіцыста і актывіста. Пры гэтым ты заўжды захоўваў знешні спакой, уменне аргументаваць і пераконваць, выкарыстоўваючы прыклады з гісторыі, цытаты з літаратуры і, канешне, гумар. У цябе быў аўтарытэтны і адначасова добры голас. Голас, які ўмеў заваражыць і супакоіць нас у дзяцінстве, так што ўсе страхі адразу зніклі. Голас, да якога прыслухоўваліся як калегі, такі і апаненты па палітычных баталіях.

Вось і цяпер, ты б узважваў усё добрае і дрэннае, адзначаў тое цудоўнае, што людзі ў розных краінах робяць ва ўмовах пандэміі, пісаў пра гэта, перачытваў свае любімыя кнігі, цытаваў любімых аўтараў і марыў пра лепшы свет, які абавязкова паўстане, нягледзячы на ўсе складанасці.

У дзяцінстве, калі мы сумавалі, калі падавалася, што злыя сілы перамагаюць, ты казаў нам: «Не паддавайцеся змроку. Паміж дабром і злом у свеце існуе баланс. Часам можа падавацца, што гэта не так, але гэта — ісціна».

Аднойчы зімовым вечарам дзесьці напачатку 1990-х, калі становішча ў нашай частцы свету выглядала даволі змрочна, у нас зайшла размова пра вайну на Балканах. Нам, юнакам, падавалася, што свет рушыцца і што Еўропа не вытрымае чарговага злому. Ты ўсміхнуўся, але гэтым разам без усялякай іроніі, і сказаў: «Так, знакамітае "змярканне Еўропы". Папулярная, але занадта перабольшаная, на мой погляд, ідэя. У Еўропы было столькі гэтых змярканняў, але неяк кожны раз надыходзіў світанак. Такой з'явы, як вечнае змярканне, не існуе».

Тым, хто цяпер адчувае паніку і дэпрэсію з-за каронавіруса, ты б сказаў тое самае. Світанак абавязкова надыдзе.



Злева направа: Уладзімір Някляеў, Стэфан Эрыксан, Аляксей Кароль, Лявон Баршчэўскі. Строчыцы, 2009 год
Фота Юрыя Дзядзінкіна

**Сяргей Кароль, сын, фінансавы менеджар (Сінгапур)**
**Ірына Віданава, дачка, выдавец анлайн-часопіса CityDog.by (Мінск)**

# Ад перамены месцаў…

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**У нас так заведзена: калі праходзяць прэзідэнцкія выбары, урад сыходзіць у адстаўку. Нават калі на вышэйшую выбарчую пасаду прыйшоў той самы чалавек (што ў нас таксама заведзена). А потым новыстары кіраўнік краіны зноў прызначае ўрад.**



Але гэтым разам Лукашэнка вырашыў змяніць склад ураду яшчэ перад выбарамі. Ён анансаваў такое дзейства напачатку тыдня на нарадзе ў Мінску. Па яго словах, змена ўрада перад выбарамі — гэта «прынцыповае пытанне, каб людзі бачылі, з кім мы будзем працаваць». «А не тое, што выбары прайшлі, за цябе прагаласавалі, а там сваякоў, любімых і іншых панапіхаў у гэты ўрад», — заявіў Лукашэнка.

Словы кіраўніка дзяржавы даволі дзіўныя, таму што да гэтага часу ў яго не было ва ўрадзе «сваякоў і любімых» — для гэтага існуе Палата прадстаўнікоў і іншыя дзяржструктуры. А вось тое, што сыходзіць урад Румаса — гэта ў нечым нават чаканае.

## Няспраўджаныя спадзяванні

Экс-банкір (да прызначэння на пасаду прэм'ера кіраваў Банкам Развіцця) Сяргей Румас пратрымаўся на сваёй пасадзе менш за два гады. Ён стаў прэм'ерам 18 жніўня 2018 года. Яго называлі «ліbeралам» у эканоміцы. Яшчэ раней Румас быў віцэ-прэм'ерам ва ўрадзе Мясніковіча з 2010 па 2012 гады, і выступаў за тое, каб дапамагаць прыватнаму бізнесу, а вось стратным дзяржаўным прадпрыемствам, наадварот, абмежаваць бязвыплатную раздачу грошай. У час крызісу 2011 года крытыкаваў эканамічную палітыку дзяржавы. І таму некаторыя спадзяваліся, што з прыходам Румаса на пасаду прэм'ера ў краіне адбудуцца хаця б мінімальныя рынкавыя рэформы.

А вось больш дасведчаныя ў нашай палітыцы асобы ад прэм'ера нічога не чакалі. «Ён (Румас. — Аўт.) спецыяліст сучаснага кшталту, але для таго, каб мяняць сістэму кіравання эканомікай у Беларусі, трэба памяняць першую асобу ў краіне. Калі яна застаецца ва ўладзе, то любы прэм'ер вымушаны будзе выконваць тую палітыку і прытрымлівацца той сістэмы кіравання эканомікай, якую ўстанавіў правадыр, таму я не чакаю ніякіх кардынальных зменаў», — казаў у час прызначэння Румаса экс-кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. Ён таксама выказваў здагадку, што Румасу не дадуць карт-бланш на правядзенне рэформаў у краіне, а ён сам не будзе на іх настойваць.

Так яно, у прынцыпе, і адбылося. Урад «ехаў па накатанай каляіне», і ніякіх зменаў пры «ліберале» Румасе не выйшла. Нават у часы каронавіруса прапанаваныя бізнес-супольнасцю захады па падтрымцы прыватнага сектару эканомікі былі перададзеныя ва ўрад, але там і «завіслі». А потым Лукашэнка заявіў, што «рэстарацыі падтрымліваць не будзем», і грошы зноў атрымалі тыя самыя стратныя дзяржпрадпрыемствы, супраць якіх Румас выступаў аж дзесяцігоддзе таму.

Дайшло нават да смешнага: на нарадзе 23 красавіка Лукашэнка заявіў, што ўрад не павінен умешвацца ў дзейнасць міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю па дзяржрэгуляванні цэнаў. «Ураду не варта ўмешвацца ў дзейнасць Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Няхай міністр са сваімі падначаленымі прымае рашэнні», — заявіў кіраўнік краіны. Румас змаўчаў.

Калі асобнае міністэрства вышэйшае за ўрад, то пра што тут можна казаць?

## Урад не ў лад?

Цалкам можа быць, што ў цяперашняй выбарчай сітуацыі Лукашэнка паглядзеў на ўрад новымі вачыма. Гэты погляд магла справакаваць даволі някепская папулярнасць экс-банкіра, «рынычніка і ліберала» Віктара Бабарыкі, які выставіўся на кандыдата ў прэзідэнты. Можа быць, у Бабарыку Лукашэнка ўбачыў своеасаблівае адлюстраванне прэм'ера — той таксама экс-банкір, рынычнік і ліберал.

Імаверна, Лукашэнка падумаў, што Румас і яго ўрад — гэта такая своеасаблівая «пятая калона» ва ўладзе. Дый не варта забывацца, што некаторыя ініцыятыўныя грамадзяне стварылі ў інтэрнэце петыцыю з заклікам да прэм'ера балатавацца на вышэйшую дзяржаўную пасаду…

Праўда, палітолаг Аляксандр Класкоўскі лічыць, што наўрад ці Лукашэнка спалохаўся Румаса, бо той «дэманструе яму поўную лаяльнасць». На думку Класкоўскага, цяперашняя выбарчая кампанія для Лукашэнкі праходзіць у вельмі неспрыяльных умовах у прынцыпе. «Тут і каронавірус, і эканамічнае падзенне, і нечаканыя прэтэндэнты на выбарах, і самае галоўнае — першыя дні кампаніі паказваюць, што народ вельмі незадаволены. Гэта бачна і па тым, як народ падпісваецца за блогера Ціханоўскага, які нечакана стаў зоркай беларускай вуліцы, і па тым энтузіязме, з якім больш прасунутая і адукаваная частка публікі сустрэла вылучэнне Віктара Бабарыкі», — кажа палітолаг.

Лукашэнка на гэтым тле пачуваецца дыскамфортна. «Напэўна, яму кладуць на стол нейкія звесткі закрытых сацыялагічных апытанняў, якія паказваюць, што яго рэйтынг, мякка кажучы, не бліскучы. Таму трэба зрабіць нейкія піяраўскія крокі, каб, па-першае, перавесці стрэлкі за эканамічныя праблемы: якраз змена ўрада — гэта зручны спектакль. І, па-другое, прыцягнуць да сябе ўвагу, паказаць, што афіцыйны лідар таксама не спіць у шапку і думае пра нейкія перамены», — адзначае Класкоўскі.

Тым больш, што праціўнікі Лукашэнкі кажуць менавіта пра перамены, а кіраўнік краіны, па меркаванні палітолага, пачынае асацыявацца з застоем, «як некалі позні Брэжнеў». «Розніца толькі ў тым, што ў Брэжнева зусім сківіца вывальвалася, а цяперашні беларускі правадыр бегае ў хакеі і паказвае бліскучае здароўе. Але электарату ад гэтага не лягчэй: поўная бесперспектыўнасць апошнія 10 гадоў; заробкі ўсё топчуцца вакол гэтых сакральных 500 долараў у эквіваленце; мы ўсё болей адстаём, і ўжо ў хвасце Еўропы паводле дабрабыту. Зразумела, хто прывёў да гэтай сітуацыі, бо рашэнні ў краіне прымае адзін чалавек», — разважае эксперт.

Тамуператасоўка кадраў — гэта звыклы занятак Лукашэнкі, каб паказаць, хто ў доме гаспадар, і што ён нібыта дбае за перамены на эканамічным фронце, лічыць палітолаг.



Фота НЧ

## А раптам?

Пры гэтым мала хто спадзяецца, што «новы склад ураду», анансаваны Лукашэнкам, не тое што нешта зменіць у эканоміцы, а нават будзе на нешта ўплываць. Як кажа эканаміст Леў Марголін, у нас урад «ніколі не мог праводзіць рэформы», і не мае значэння, хто стаяў на яго чале: «рынычнік» Румас альбо «кансерватар» Мясніковіч.

«Для Лукашэнкі ўрад — гэта проста неабходная дэкарацыя, у тым ліку для таго, каб падвергнуць яго публічнаму лупцаванню ў надзеі на тое, што гэта спадабаецца народу, — кажа Марголін. — Кіраўніку краіны ўжо 66 гадоў, у такім узросце людзі не змяняюцца. Калі ён да 66 гадоў быў прыхільнікам адміністрацыйнай сістэмы, дзяржаўнай формы ўласнасці, планавай сістэмы эканомікі, разлічваць на тое, што заўтра ён стане рынычнікам альбо хаця б пацерпіць рэформы, — наіўна. Таму гэта будзе чарговы ўрад, які будзе засядаць, прымаць пастановы, але канкрэтна нешта вырашаць ён будзе не ў стане», — лічыць эканаміст.

Той жа думкі прытрымліваецца і Класкоўскі. «Калі пазалетась у жніўні паставілі Румаса, у нейкай частцы наіўных назіральнікаў былі ілюзіі, што прыйшоў чалавек з рэпутацыяй рынычніка — і нарэшце адбудуцца нейкія рэформы. Прайшло амаль два гады — ніякіх рэформаў, хаця Румас, напэўна, мае нейкія прапановы (пра гэта, дарэчы, згадвае Бабарыка, калі кажа, што ва ўрадзе нармальныя людзі, іх ідэі яму падабаюцца, але ім, маўляў, проста не даюць прастору). Надзеі на Румаса не спраўдзіліся, і гэта лішні раз пацвярджае, што заганная сама сістэма, у якой кіруе адзін чалавек. Прычым, чалавек, як мы бачым, з рэтраградным замшэлымі поглядамі. Румас — не Румас, не мае істотнага значэння. Тут хоць Бальцаровіча ў квадрацэ пастаў на чале ўраду, ён вышэй за пояс не скочыць», — адзначае эксперт.

## Незамяняльныя

Не выпадае казаць, што новы ўрад будзе лепшы за мінулы, ці нават горшы за мінулы. Пра гэта на той жа нарадзе апасродкавана сказаў сам Лукашэнка. «Вельмі многіх міністраў мы прызначылі паўгода таму, і ўбачылі іх у справе. І сёння можам зрабіць выснову, ці могуць яны працаваць у новым урадзе або не могуць. Таму настаў час, каб яшчэ раз зірнуць на ўрад, вышэйшых службовых асобаў, якія ў нас ёсць, і па іх таксама прымаць рашэнні. Ці мы з імі працуем, або перамяшчаем на новую працу… Я ўпэўнены, што пераважная большасць дзеючых чальцоў урада застанецца на сваіх пасадах», — заявіў кіраўнік краіны.

А ад перамены месцаў складнікаў сума не змяняецца, і ад перасоўвання міністраў з крэсла ў крэсла вялікай карысці таксама чакаць не варта.

Новы Час | 30 траўня 2020 | № 20 (679) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №5




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №5 (165)
(травень)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# Герб, гімн, сцяг, «Буквар»...

## Анатолю Клышку — 85

**Пісьменнік і перакладчык, крытык і паэт, вучоны і асветнік-педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі Анатоль Клышка больш за паўстагоддзя плённа працуе на ніве нацыянальнага адраджэння, верна служыць беларускай культуры і роднаму слову. Шырокую вядомасць атрымаў створаны Анатолем Канстанцінавічам беларускі «Буквар». Першае выданне падручніка з'явілася на свет у 1969 годзе. Буквар шматразова перавыдаваўся. Некалькі пытанняў юбіляру-букварысту задаў карэспандэнт «Радыё Рацыя».**



Фота А.С.

***— Спадар Анатоль, калі ў Беларусі з'явіўся першы буквар?***

**Анатоль Клышка:** — Мне прыемна весці гаворку пра першы школьны падручнік, бо сама́ сённяшняя назва гэтай кнігі — «Буквар» — нарадзілася ў Беларусі. У 1618 годзе ў друкарні Святадухава брацтва ў нашым горадзе Іўе была выдадзена кніга пад назваю «Букварь языка славенска». У 1631 годзе вядомы выдавец Спірыдон Собаль падтрымаў гэтую назву сваёю кнігаю, выдадзенай у Куцейне. Так і пайшло гэтае слова — у рускую мову, ва ўкраінскую, балгарскую, серба-харвацкую... Праўда, у Беларусі пазней выкарыстоўвалі слова «лемантар» (ад лацінскага «элементарыус» — пачатковы). А згаданае слова, у сваю чаргу, паходзіць ад пачатковых літар другога раду лацінскага алфавіта LMN. Якраз з гэтых літар і пачыналі ў старажытнасці навучанне грамаце.

***— Іўеўская кніга і ёсць першы беларускі буквар?***

**А.К.:** — Ды не. Першыя нашы буквары — гэта і самшытавы грабеньчык з кірыліцкімі літарамі на ім, які зберагаецца ў Берасцейскім музеі. І скарынаўскі пераклад «Псалтыра», па якой у тыя часы навучаліся грамаце. Побач з вялікімі каляровымі літарамі ў пачатку раздзелаў Скарына змясціў малюнкі прадметаў, назвы якіх пачыналіся з гэтых літар, — прынцып, які выкарыстоўваецца і ў наш час... Увогуле, з 1590-га да 1653-га ў Беларусі выйшла 16 элементарных падручнікаў — болей за палавіну ўсіх выданняў на Усходнеславянскіх землях!

***— Неабходна згадаць і Сімяона Полацкага?***

**А.К.:** — Вядома ж, «Буквар» Сімяона Полацкага, па якім сам аўтар вучыў дзяцей рускага цара. У тым ліку кіраваў навучаннем і маленькага Пятра Першага...

***— Нельга не згадаць і Алаізу Пашкевіч (Цётку), Максіма Багдановіча...***

**А.К.:** — Сапраўды, «Беларускі лемантар» Цёткі (1906 г.) адыграў вялікую ролю ў развіцці беларускай школы. А 1911 год... У туберкулёзнай гарачцы, пры штодзённай 38-градуснай тэмпературы, Максім Багдановіч задумвае каляровы «Буквар». Неажыццёўленая мара вялікага паэта, якая рэалізуецца толькі ў нашыя пасляваенныя гады! А «Буквар» для дарослых: БССР першая сярод саюзных рэспублік ліквідавала непісьменнасць...

***— Спадар Анатоль, а што Вас натхніла на напісанне беларускага «Буквара»?***

**А.К.:** — Я з'яўляюся бацькам траіх дзяцей. І, як заўсёды: падрастаюць дзеці, міжволі




**Анатоль Клышка:**
**«Буквар» — першае свядомае далучэнне дзіцяці да роднай мовы. І мне хацелася, каб яно палюбіла родную мову. Каб «Буквар» быў займальнай кніжкай для чытання, каб у ім былі вартасныя тэксты**

робішся настаўнікам, вучыш іх чытаць, лічыць. А да паступлення ва ўніверсітэт я вучыўся ў Навагрудскім педвучылішчы, дзе грунтоўна выкладалася методыка навучання грамаце. У тыя пасляваенныя гады ў Навагрудку сабраліся моцныя выкладчыцкія кадры. Некаторыя з нашых настаўнікаў у даваенныя гады вучыліся ў славутым Белпедтэхнікуме, адкуль выйшла нямала пісьменнікаў. Але ў часе вайны некаторыя з гэтых выкладчыкаў апынуліся пад акупацыяй. І ў суровыя берыеўскія гады разгарнення ў Менску ім не было, хоць асобныя з іх мелі ўжо напісаныя дысертацыі. Але не да абароны было: бо знаходзіліся пад акупацыяй... У Навагрудку ў той час былі школа для глуханямых і школа для сляпых дзяцей. І мы, навучэнцы, таксама некалькі разоў наведвалі гэтыя школы ў часе пасіўнай педпрактыкі. І вельмі ўражвала нас, як дзіця, якое не чуе, вучылі размаўляць. Пасля мне добра гэта спатрэбілася пры роздуме-аналізе розных метадаў навучання грамаце, бо ўзаемадзеянне зрокавага, слыхавога, моварухальнага аналізатараў у працэсе чытання і пісьма вельмі і вельмі складанае. Калі ў 1968 годзе Міністэрства асветы аб'явіла конкурс на новы «Буквар», я працаваў у нашым старэйшым часопісе «Полымя», галоўным рэдактарам якога быў Максім Танк. Неяк, вярнуўшыся з пасяджэнняў Генеральнай Асамблеі ААН, ён сказаў, што дзяржаўным народам прызнаецца народ, які мае свае герб, гімн, сцяг, «Буквар», «Энцыклапедыю», каляндар. Мяне здзівіла такое прызнанне значэння «Буквара». А да ўсяго «Буквар» Надзеі Сіўко, па якім займаліся трое маіх дзяцей, мне апрыкраў: ненатуральная, калькаваная мова, нудотныя тэксты...

***— І Вы тады ўзяліся за напісанне свайго?***

**А.К.:** — Так. І я ўзяўся за напісанне свайго «Буквара» і... перамог. А з 1968 года мой «Буквар» штогод выходзіў, дапрацоўваючыся, перапрацоўваючыся ад выдання да выдання аж да 2010 года. Цяпер выдаецца раз у некалькі гадоў, як і іншыя падручнікі, хоць па ім штогод вучацца дзеці.

***— Спадар Анатоль, ці шмат Вы мелі клопатаў пры напісанні «Буквара»?***

**А.К.:** — Найпершы клопат быў — тэксты. У «Букварах» пачатку XX стагоддзя яны з'яўляліся ў «паслябукварны» перыяд, калі пройдзены ўсе літары, засвоены розныя тыпы складоў. А так — слупкі слоў ды асобныя, не звязаныя між сабою сказы. Памятаю, неяк я, шасцігодак, захацеў паказаць хатнім, што ўжо ўмею хутка чытаць уголас. У «Буквары» сталі сказы: «У Данілы — барада. На дубе — жалуды». І я гучна затараторыў: «У Данілы барада на дубе...». А далей паветра не хапіла, і я змоўк пад агульны смех родных... Вельмі цяжка даць якасны і зразумелы тэкст, калі пройдзена ўсяго некалькі літар. Мажлівасцей мала, а патрабаванняў шмат. Скажам, прыдумай тэкст ды яшчэ з выхаваўчым ухілам. І каб словы былі не даўжэйшыя, чым двухскладовыя і з адкрытымі складамі (зычны + галосны). А ў цябе чатыры зычныя літары (м, н, ш, х) і дзве галосныя (а, ы). Памятаецца, б'юся я над тэкстам, ніяк не выходзіць. І вось раптам нешта атрымліваецца: «Мама, мама! Наша Маша на шашы. На шашы машыны... Ах, ах!». Я ўсцешаны, і ўяўляецца малюнак да гэтага: хлопчык, устрывожаны за сваю сястрычку, бяжыць да мамы. І настаўнік можа правесці гутарку з вучнямі, як паводзіць сябе пры дарозе... Якая мне радасць!

«Буквар» — першае свядомае далучэнне дзіцяці да роднай мовы. І мне хацелася, каб яно палюбіла родную мову. Каб «Буквар» быў займальнай кніжкай для чытання, каб у ім былі вартасныя тэксты, якія маглі б вытрымаць шматразовае чытанне іх на ўроках...

***— Таму Вам з беларускім «Букваром» вельмі пашанцавала...***

**А.К.:** — Так. Неўзабаве пасля выхаду «Буквара» на Выставе дасягненняў народнай гаспадаркі СССР мой беларускі «Буквар» атрымаў срэбны медаль акурат за тэксты. Украінскія калегі нават пазычылі некалькі для свайго «Буквара» і прыслалі мне з удзячнасцю свой «Буквар». Для мяне гэта было радасна і прыемна. Пасля быў і залаты медаль на Лейпцыгскай міжнароднай кніжнай выставе ды іншыя ўзнагароды...

**Гутарыў Сяргей Чыгрын**

# За восем дзён да перамогі




**Час выкрасліў з памяці асобныя дэталі, дакладную паслядоўнасць падзей, але агульны малюнак тых дзён, настрой добра памятаю.**

…30 красавіка 1945 года мне, камандзіру ўзвода 113-га асобнага ордэнаў Багдана Хмяльніцкага і Чырвонай Зоркі інжынерна-сапёрнага батальёна, было загадана правесці інжынерную разведку пад пантонную пераправу для танкаў цераз раку Одэр.

Такая задача ўвогуле складаная: трэба вызначыць шырыню ракі, хуткасць плыні, глыбіню, зручныя падыходы для танкаў. А калі яшчэ рабіць гэта пад агнём ворага…

З аддзяленнем разведчыкаў гвардыі сяржанта Горкіна доўга назіралі за пярэднім краем немцаў, пазначаючы на карце агнявыя кулямётныя кропкі. Вызначылі месца, дзе лягчэй навесці пантонную пераправу. Далажыўшы камбату пра выкананне загаду, я вярнуўся да свайго ўзвода, які знаходзіўся на ўзлеску. Там мы размясціліся побач з пантанёрамі.

На світанку нечакана пад'ехаў «Віліс». З машыны выйшаў высокі хударлявы генерал з трыма зоркамі на пагонах. Гэта быў камандуючы І-й гвардзейскай арміяй генерал-палкоўнік Грэчка.

Генерал у суправаджэнні ад'ютанта і аховы накіраваўся да пантанёраў. І ў гэты момант аднекуль здалёк пачулася кулямётная чарга, потым яшчэ, і вось ужо кулі заціўкалі побач. Можа, камандуючы на гэта і не звярнуў бы ўвагі, але параніла аднаго салдата з яго аховы. Генерал спыніўся і злосна загадаў:

— Камандзіра пяхотнага прыкрыцця пераправы да мяне!

Старшы па званні ў гэты момант быў наш камбат. Ён падбег да генерала і далажыў:

— Таварыш генерал-палкоўнік, пяхотнага прыкрыцця яшчэ няма! Дакладвае камандзір сапёрнага батальёна падпалкоўнік Прыліпка!

Генерал паглядзеў на камбата і загадаў:

— Тады сам, падпалкоўнік, знайдзі гэтага кулямётчыка! І ўвогуле, разбярыся з сітуацыяй: адкуль у нашым тыле ўзяліся немцы?

Камбат казырнуў і, павярнуўшыся ў мой бок, крыкнуў:

— Малодшы лейтэнант, да мяне!

Толькі я падбег, як генерал сам загадаў:

— Вось што, малодшы лейтэнант, знайдзі гэтых кулямётчыкаў, ды хутчэй, і паглядзі, што тут паблізу робіцца!

Я ўпершыню ў жыцці атрымліваў заданне непасрэдна ад камандуючага арміяй. Вядома, вельмі хваляваўся, але ўсё ж здолеў адказаць:

— Ёсць знайсці гэтых кулямётчыкаў, таварыш генерал-палкоўнік!

Павярнуўся кругом і подбежкі кінуўся да сваіх разведчыкаў. Бягу, а сам думаю: «Дзе я іх шукаць буду, гэтых кулямётчыкаў? А калі не знайду, не выканаю загад камандуючага… за гэта ж пад трыбунал!».

Разам са мной на пошукі варожага кулямёта адправіліся сяржант Лысяк і яфрэйтар Вяпрыцкі. Пачало развідняцца. Ад ракі стаў узнімацца туман, і гэта спрыяла нам. У тым напрамку, адкуль стралялі немцы, на ўзгорку стаяў фальварак. Хутчэй за ўсё, кулямёт знаходзіўся там. Мы былі апрануты ў стракатыя маскхалаты і добра ўзброеныя: аўтаматы «ППШ», пісталеты, гранаты і нажы-«фінкі». Але было невядома, ці ёсць на нашым беразе ракі абарона немцаў, а калі ёсць, то дзе яна?

З вялікай перасцярогай мы набліжаліся да фальварка. Сапраўды, кулямёт страляў адтуль — з гарышча мураванага будынка. Дасць чаргу — і хвіліну-другую цішыня, потым зноў. Хутчэй за ўсё, гэта быў звычайны заспакаяльны агонь.

Калі апынуліся ў «мёртвай» зоне фашысцкага кулямёта, зрабілі імгненны рывок да прачыненай брамы. У двары, спіной да нас, стаяў нямецкі салдат і запрагаў коней у армейскую фурманку, а два другія ўладкоўвалі на фурманцы станковы кулямёт і таксама нас не бычылі. Я спачатку падумаў, што гэта яны знялі з гарышча кулямёт, але тут зноў пачулася кулямётная чарга. Значыць, там яшчэ адзін ці два немцы.

Як толькі салдаты падхапілі вялікую скрыню, каб паставіць яе на фурманку, мы кінуліся ў двор. Не вельмі гучна, але рашуча я скамандаваў:

— Хэндэ хох!

Ад нечаканасці адзін немец выпусціў скрыню з рук, і яна балюча ўдарыла яго па назе. Ён адразу скрывіўся і зваліўся на зямлю, а два другія, убачыўшы накіраваныя на іх аўтаматы, моўчкі ўзнялі рукі.

Ігнаруючы правілы нямецкай граматыкі з



Фота www.top68.ru

прычыны поўнай адсутнасці якога-небудзь паняцця аб тых правілах, я спытаў у салдата, які стаяў бліжэй да мяне:

— Віфіль гіер зольдатен? Во іст?

Але той маўчаў, вылупіўшы на мяне вочы. Яму на дапамогу прыйшоў другі салдат і пачаў нешта таропка гаварыць. Я зразумеў, што тут, у фальварку, іх сямёра. Значыць, чацвёра павінны быць у будынку.

Паклалі двух на зямлю тварамі ўніз, а трэцяга ўпоперак на іх. Яфрэйтар Вяпрыцкі застаўся ахоўваць, а мы з сяржантам, трымаючы аўтаматы напагатове, пайшлі да расчыненых дзвярэй будынка. За імі быў калідор метры тры даўжынёй, які заканчваўся дзвярыма з зашклёным верхам, што давала нам магчымасць убачыць, як там, у вялікім памяшканні, два салдаты складвалі ў скрыню нейкія рэчы.

Значыць, на гарышчы з кулямётам таксама павінны быць двое. Заставалася толькі высветліць, дзе ўваход на гарышча. Але гэта потым, зараз трэба гэтых двух ціха ўзяць.

На шчасце, іх вінтоўкі стаялі каля сцяны. Перакінуўшыся позіркам з сяржантам, я паказаў вачыма, куды ён павінен стаць, і па маім знаку Лысяк ірвануў дзверы, заскочыў у памяшканне, а я застаўся ў праёме дзвярэй, накіраваўшы аўтамат на немцаў.

Ад нечаканасці салдаты быццам скамянелі. Я прыклаў палец да вуснаў, загадваючы маўчаць. Затым на ўсялякі выпадак сказаў нягучна:

— Хэндэ хох!

Абодва паслухмяна паднялі рукі. У гэты момант з гарышча пачулася кулямётная чарга. Салдаты здрыгнуліся, але Лысяк павёў аўтаматам на ўзроўні іх грудзей, і яны зноў сцішыліся.

Я хуценька выцягнуў затворы з вінтовак. Пасля загадаў аднаму з немцаў паклікаць сваіх таварышаў, каб яны тэрмінова злезлі з гарышча.

Трэба сказаць, на фронце ў кожнага афіцэра-разведчыка быў руска-нямецкі размоўнік з вельмі ўдала падабранымі кароценькімі пытаннямі і адказамі на іх. Меў такі размоўнік і я, а завучыць патрэбныя фразы было не вельмі складана, калі не лічыць вымаўлення, але нічога — немцы разумелі.

Салдат патлумачыў, што на гарышча вядзе лесвіца, якая знаходзіцца ў суседнім памяшканні — кухні, і паказаў на дзверы, якія вялі туды.

Я загадаў салдату адчыніць дзверы, але без маёй каманды самому туды не заходзіць. Лесвіца аказалася якраз насупраць дзвярэй. На кухні нікога не было. Я загадаў салдату зайсці. Лысяк застаўся ў пакоі, а я накіраваўся за немцам і адразу заняў зручную пазіцыю, якая давала магчымасць трымаць пад прыцэлам люк гарышча і не перашкаджаць сяржанту пры неабходнасці весці агонь праз дзверы.

Па маёй камандзе немец падышоў да адчыненага люка і крыкнуў:

— Пауль! Вернер! Ман кан фаген…

Неўзабаве на гарышчы пачуліся крокі, і з люка паказаліся салдацкія боты, потым руля кулямёта.

Як жа марудна цягнуліся гэтыя секунды для мяне! І вось ён паказаўся ўвесь — той, хто страляў з гэтага кулямёта. А следам за ім злазіць і апошні немец.

Калі яны апынуліся на сярэдзіне лесвіцы, я што было моцы крыкнуў:

— Вафн машын гевер! — гэта значыць: «Кідай кулямёт!».

Даўгавязы кулямётчык з нашыўкамі обер-яфрэйтара ад нечаканасці выпусціў з рук зброю.

Я адразу зрабіў кароценькі допыт: дзе і колькі яшчэ нямецкіх салдат знаходзіцца паблізу фальварка, якое ўзбраенне?

Обер-яфрэйтар пачаў таропка адказваць. Зразумець сэнс ягоных слоў мне дапамог салдат, што злез разам з ім — ён валодаў польскай мовай, якую я даволі добра разумеў.

Выявілася, што ў траншэі, з паўкіламетра адсюль, каля самай ракі, знаходзіцца ўзвод салдат, а на падыходзе сюды танкі і самаходкі. Яны павінны нанесці нечаканы ўдар па пантоннай пераправе, якую нашы рыхтаваліся наводзіць. А ім было загадана весці назіранне і заспакаяльны агонь па лесе, куды павінны падысці нашы пантанёры. Фурманку рыхтавалі, каб адправіцца ў сваю роту, як толькі падыдуць танкі, якіх чакалі з хвіліны на хвіліну.

Звесткі былі надзвычай каштоўныя, і нам цяпер трэба было як мага хутчэй вяртацца да сваіх.

Сабралі ўсю зброю: два кулямёты, пяць вінтовак, гранаты, дзве скрыні з патронамі — і склалі ўсё на фурманку. Я растлумачыў палонным, што яны павінны дзеля сваёй жа бяспекі выконваць усё, што ім будзе загадана.

Засталося пасадзіць іх у фурманку, сесці самім і паехаць. І тут пачуўся шум танкавых рухавікоў і ляскат гусеніц.

Што рабіць? Ліхаманкава шукаю выйсце і нічога не магу прыдумаць. А танкі ўжо вось-вось будуць тут. Супраць танкаў з аўтаматамі не паваюеш. Палонныя стаяць моўчкі, не праяўляючы ніякіх эмоцый, разумеючы, што як толькі паспрабуюць непадпарадкавацца, то адразу будуць забітыя.

І тут мне ў галаву прыходзіць выратавальная ідэя.

Мы ўтрох садзімся ў сярэдзіну фурманкі, а палонныя па краях, загароджваючы нас, з вінтоўкамі без затвораў у руках. Коні ляніва кранаюцца з месца. Толькі мы выехалі за браму, як з-за фальварка паказаўся першы танк. Ён накіроўваўся проста да нас. Адлегласць паміж танкам і фурманкай хутка скарачалася. Не было чаго і думаць, каб уцячы. Мы ўзвялі затворы аўтаматаў.

Раптам танк спыніўся, люк адкінуўся — і паказаўся немец. Ён махнуў рукой, што магло азначаць толькі адно: «Спыніцеся!».

Хвалюючыся, таропка кажу салдату, што дапамагаў мне з перакладам:

— Бяжы да танкіста і кажы што хочаш, але затрымай яго, каб мы маглі ад'ехаць далей! Скажаш праўду — усіх тваіх таварышаў пастраляем!

Салдат нешта хуценька залапатаў іншым палонным, саскочыў з фурманкі і пабег да танка, а мы паціху, не спыняючыся, паехалі далей.

Убачыўшы, што да яго бяжыць салдат, танкіст на фурманку болей не звяртаў увагі.

Вось калі секунды былі даўжэйшымі за гадзіны! Толькі пасля таго, як салдат, казырнуўшы танкісту, павярнуўся і пабег даганяць нас, у мяне адлягло ад сэрца.

Тым часам танк развярнуўся і рушыў назад да фальварка. Гэта для нас азначала толькі адно: самы крытычны момант мінуў.

Праз чвэрць гадзіны мы дабраліся да сваіх. Генерал-палкоўнік быў яшчэ каля пантанёраў. Да будучай пераправы падыходзілі ўжо нашы танкі, займала пазіцыі пяхотнае прыкрыццё пераправы.

Я падышоў да генерал-палкоўніка і далажыў пра выкананне яго загаду. Сказаў пра нямецкія танкі і пра тое, што паведаміў обер-яфрэйтар.

Генерал-палкоўнік з цікавасцю выслухаў мяне і пахваліў:

— Малайчына, малодшы лейтэнант! Даўно на фронце?

Вось тут я і разгубіўся. Што трэба спачатку сказаць: з якога часу на фронце ці статутнае «Служу Савецкаму Саюзу!»? Я выпаліў:

— На фронце чацвёрты месяц, таварыш генерал-палкоўнік! А да ваеннага вучылішча два гады ў партызанах!

І тут жа заўважыў, як камбат з-за спіны камандуючага паказаў мне кулак. Я сцяміў, што нешта не так сказаў, пачырванеў і апусціў галаву. Але генерал цудоўна зразумеў мяне. Па сутнасці, перад ім стаў хлопчык з афіцэрскімі пагонамі, які яшчэ не карыстаўся брытвай. Ён толькі ўсміхнуўся. І раптам я пачуў:

— Ад'ютант, запішы: малодшаму лейтэнанту за смеласць і кемлівасць пры выкананні асабістага задання камандуючага, за атрыманне каштоўных звестак — «Чырвоны Сцяг», сяржанту і яфрэйтару — «Славу»! Камбат, узнагародныя лісты прадставіць асабіста на маё імя!

На выхадзе дня 1 траўня 1945 года важны апорны пункт гітлераўскай абароны — горад Мараўская Астрава — быў цалкам вызвалены ад ворага. Да поўнай перамогі заставалася восем дзён.

# Ахоўнік





Віктар СУПРУНЧУК

На вуліцы сонца. Я заўжды гляджу, якое надвор’е на вуліцы. Плывуць аблокі па небе цёмныя альбо сівыя. Вецер дзьме з якога боку. Выглядаю. Мяне цікавіць, якая тэмпература паветра на вуліцы. Я выходжу на ганак у адной майцы і слухаю, што адчувае маё цела ў гэты момант. Калі на вуліцы ўжо сонца, я не ў майцы. Нацягваю на сябе швэдар, бо раптам нехта падыдзе. Пакуль нікога няма, і я слухаю, як спяваюць птушкі. Назіраю. Унь кульгавая варона. Яна на працягу маіх чатырох гадоў тут, пад ліпаю, шукае ў сябе нешта пад пахамі. А што яшчэ? Паназіраў за ёй, падумаў. Яшчэ раз паглядзеў — і пайшоў.

Насупраць мяне шмат дамоў. Усе яны шэрыя, панылыя. У людзей іншага жытла няма. І не будзе. Менавіта тут скончыцца іх жыццёвы шлях. Гэта спальны раён. Былыя рабочыя трактарнага, маторнага заводаў. У іх няма грошай на катэджы, на новыя кватэры. Можа, іх дзеці штось і дзесьці здабудуць. Тым больш, каго не спытаеш: дачка ў Амерыцы, сын у Нямеччыне. Хто застанецца ў роднай, так доўгачаканай пасля заводскага інтэрната, кватэры? Навалач. Якой усё роўна, дзе быць і жыць…

Пачынаюць святлець вокны, машыны равуць. Я стаю і думаю пра тое, як засынае і абуджаецца жыццё, якое раптоўна для некага і нечакана спыняецца ў гэтую менавіта хвіліну. Як і нехта нараджаецца. Сумна, аднак… Але і вельмі радасна. Наш свет незвычайны, неабдымны і вышэйшы за ўсялякае разуменне. Напрыклад, маё. Хто яго стварыў? Хто мог прадугледзець тысячы, мільёны варыянтаў існавання і працягу markaга жыцця? Хто? Ніхто не здольны даць мне адказ на гэтае надзвычай, здавалася б, простае пытанне.

Ну, добра, я — просты ахоўнік. І што? Не лічу, што пасада вызначае стан чалавечай свядомасці і мудрасці. Аднак кожны чалавек здольны і можа думаць, меркаваць. Іншае: хто яго слухае?

Прабачце, зрэдзь узнікае ў маёй душы жаданне далучыцца да вялікай навукі —філасофіі. Як кажа адзін мой сябра, гэта першая прыкмета руху да свайго жыццёвага парога — старасці…

Я цяжка кашляю і хачу сплюнуць тое, што ў мяне сабралася ў роце. Нейкі фізіялагічны акт, не зусім прыемны, але непазбежны для кожнага чалавека. Мяне стрымлівае нешта такое, што я атрымаў некалі даўно ад бацькоў ці больш далёкіх прашчураў, але яно ў маім розуме. Я дастаю з кішэні насоўку і акуратна прыхіляю яе да вуснаў. Заўжды трэба сябе паважаць, нават застаючыся сам-насам. І ў гэты момант чую:

— Добрай раніцы!

— Добрай! — аўтаматычна гучаць мае словы, якія, здаецца, я не вымаўляў.

У нас невялікая пляцоўка, якая, мабыць, у шырыню крокаў сорак, а ў даўжыню дзесьці ўдвая большая. С краю пляцоўкі высозная шатрыстая ліпа. Пад ёй лаўка ў цёмна-карычневым колеры. Драўляная. Вельмі зручная, каб на ёй сядзець. Асабліва, калі цвіце ліпа. Неверагодны пах, амаль поўная цішыня, якую адно парушаюць машыны. Зрэшты, ад іх спакою няма нідзе. Цвіце ліпа. Чамусьці не лятаюць і не гудуць пчолы. Хоць звычайна іх прываблівае ліпавы пах. Я заўважыў іншае: часам па́даюць на зямлю здохлыя пчолы. Адкуль яны дапялі да гэтых метраў голай асфальтоўкі? Што яны хочуць знайсці на бруднай пустой латцы зямлі?..

Але пад ліпаю ўсё роўна моцна пахне яе кветам. Я стаю пад дрэвам і заплюшчваю вочы, нават уяўляю, што п’ю ліпавы напой. Нібы ў дзяцінстве. Калі гатавала яго мама.

— Кх-кх…

Мае мары імгненна знікаюць, калі я расплюшчваю вочы. Пад ганкам стаяць двое. Я іх аблічча добра ведаю. Мужчына і жанчына. Абодва ва ўзросце. Мужчына — як пытальнік. Сагнуты, рукі амаль да каленяў. Твар зарослы сівой шчэццю. Пад вачыма глыбокія зморшчыны. На галаве брудная шапка з доўгім паламаным брылём. Вочы нібы ў тумане. Святло з іх слабае, ліпіць.

Мужчына апрануты на дзіва няблага. На ім скуранка не новая і не старая, не запэцканая. Джынсы чыстыя, як толькі з крамы. Дый пантофлі не са сметніка, нават наваксаваныя. У руках ёмістая торба з пустымі бутэлькамі, нейкімі анучамі. Зверху пагрызены ці надламаны бохан чорнага хлеба.

Мужчына глядзіць на мяне знізу, кхекае і маўчыць. Яго сяброўка трымае ў руках падпаленую цыгарэту, і непрыемны дым памалу паўзе ўгору. У яе рудыя, вельмі густыя валасы. Вусны падфарбаваны ў яркі чырвоны колер. На бледным, амаль белым, бы вапна, твары, яны быццам крывавая рана.

У яе блакітныя прыгожыя вочы, як бывае ў рыжых людзей. У іх, здавалася, бязмежны спакой і абыякавасць.

Яна таксама не ў жабрацкіх анучах. Палітон — сумесь зялёнага з рудым. Як звычайна, джынсы. На нагах трошкі запэцканыя чаравічкі. Відаць зверху край бялявых шкарпэтак. Нібыта адна са шматлікіх мінакоў, што мільгацяць па дарозе туды-сюды. Але вось запаліліся вочы, і ў іх бліснула нахабнасць, якую ледзь стрымлівала гаспадыня.

— Што? — я вымавіў са здзекам, і голас мой прагучаў нібы ў назіральніка ў турме. — Што трэба?

Мужчына ўздыхнуў, з-пад шчэці выявілася штось накшталт усмешкі. Рудая жанчына ўзняла галаву і, пыхнуўшы цыгарэтным дымам, прахрыпела праз свае крывава-мокрыя вусны:

— Калі можна, трошкі на хлеб…

— Вы яшчэ не даелі свой… — я пальцам тыцнуў у торбу.

— Ён ужо цвілы, — прасіпела жанчына. — Скажы, Янусь. Ці не праўда? Мы б да вас ніколі не падышлі б, калі б не праўда… Скажы, Янусь…

— Што праўда, то праўда, Гэлька, — ледзь чутна адгукнулася з барады.

Я не хацеў ім нічога даваць, бо штодзень гэтыя істоты няўцямна блукалі перад маімі вачыма. За плотам — кустоўе бэзу, і гэтая рудая пры сонечным святле і навідавоку мясцовага люду, які туды-сюды шпацыраваў з сваімі патрэбамі, сядзела, было, там без спадніцы. Мне тады хацелася ўхапіць ладны дубец і гнаць яе як далей. Гнаць ад нашай тэрыторыі, ад ліпы з яе неверагодным пахам. Зрэшты, я ахоўнік гэтага месца. І я атрымліваю грошы за парадак на ўсіх метрах плошчы ад ліпы і да вуліцы. І ніхто не мае права рабіць тут сваю гнюснасць.

Мужчына стаяў, прыхіліўшыся да нашага высокага ганка. Яго худыя рукі з сінімі жыламі былі як засохлае бадылле. У рудой жанчыны галава была набакір. Недакурак слаба курэў у яе жаўтаватых, мабыць, ад тытуню пальцах. Яны маўчалі. Іх, вядома, не хвалявала ліпа і тым больш пчолы, якія падалі на пляцоўку і паміралі.

Я намацаў у кішэні некалькі манет, якіх было дастаткова на бохан хлеба. Жанчына з надзеяй узіралася ў мяне. У яе нават варушыліся вусны. Раз-пораз перасмыкнуўся твар, па якім папаўзлі буйныя кроплі поту. Яе маленькая брудная рука з паўсагнутымі пальцамі трымцела ў паветры.

— Дай… — прашаптала жанчына.

Я палажыў грошы ёй у далонь, і рыжая Гэлька, незвычайна жвава ўхапіўшы за скуранку свайго сябра Януся, пацягнула яго за сабой. Яны паімкнуліся да крамы, нібы ўдзельнікі сусветнага марафону з жаданнем выпіць выратавальную кроплю.

За маімі плячыма раўнула машына, і за тры крокі ад ганку спыніўся чорны бліскучы «Мэрсэдэс». У ім быў Казімір, адзін з гаспадароў нашай кампаніі, але не галоўны. Я звычайна яго сустракаў у калідоры. Ён казаў толькі слова «так» на маё «добры дзень» і, нізка схіліўшы галаву, імкліва знікаў у калідоры. Учора быў не ў настроі. Прабурчэў, гледзячы на ліпу, пад якой ашываліся два паўп’яных дзядкі: «Турніце ў шыю!». Я змаўчаў, бо якое ў мяне на гэта права? Аніякага. Турніце ў шыю! Вазьмі і турні!

Казімір пацiснуў мне руку, нешта мармытнуў і знік у сваім кабінеце. Адтуль ён выходзіць толькі ў туалет. Агульную сталоўку, дзе абедаюць супрацоўнікі кампаніі, не наведвае. Я ніколі не бачыў, каб ён штось еў. Толькі глытае каву з апарата, які на тым тыдні прывезлі хлопцы з кампаніі «XXI век». Я ўчора напрыканцы дня пакаштаваў гэну каву: лепш буду ўжываць напоі з траў. Абы-што. Яму даспадобы — хай ласуецца.

Наогул, мне здаецца, ён неблагі чалавек. Спакойны, рэдка лаецца. І ніхто яго не баіцца. А можа, гэта і не зусім добра. Адно зразумела: грошай у яго поўныя торбы. Толькі мне ад гэтага аніяк…

Дзень варушыцца, рознымі сваімі фарбамі гуляе, нібы кот, што залез пад лаўку пад ліпаю. Мяркую пра сёе-тое, нетаропка плывуць думкі, чапляюцца адна за адной. І ўсе марудныя, абыякавыя. Нібы мая мазгаўня спіць дагэтуль… Хоць на вуліцы даўно дзень. Які шпарка крочыць, нягледзячы на мае ваганні і развагі. Наогул, не звяртаючы ўвагі ні на кога на гэтым свеце. Магутны рухавік працуе. Сапраўды, заўсёдны рухавік, пра які марылі людзі. Яны не думалі, што гэты рухавік існуе ў іх пад нагамі. Ці думаў я? Смешна. Калі мне было пра гэта думаць? Мне трэбаназіраць за наваколлем, каб, не дай Бог, якія галганы не пашкодзілі шыкоўны «Мэрсэдэс» Казіміра.

— Добры дзень!

— Добры дзень! Вам хто патрэбен? Гэта я вас пытаюся, — я спыняю рашучага, пухлявага, з шырокім жаночым тварам дзецюка, які спрабуе імкліва ўвайсці ў наш будынак. Нават паспеў высунуць перад ім сваю правую нагу. Што рабіць, калі нехта цябе не чуе?

— Мне патрэбны Казімір, — кажа гэны хлапчыска. Яго вочы, здаецца, мяне праз імгненне прапаляць наскрозь. Ён ужо мяне ненавідзіць, хоць бачыць упершыню. Можа, у мяне такое ўражанне.

Я моўчкі адыходжу ўбок і паказваю, куды яму ісці. Позірк у гэтага малайца — нібы цалаванне бізуна аб мае плечы. Бач, нібы які міністр. Не спадабалася. У кожнага свая праца. Думай што хочаш, але я сваю службу ведаю і грошы атрымліваю недарэмна.

Праз хвіліну я ўспамінаю, што Казімір выйшаў з будынка праз бакавыя дзверы. Яго няма ў кабінеце. Там толькі Алеся, дваццацігадовае дзяўчо, якая працуе ў кампаніі другі дзень. Яна адказвае за кадры. За якія кадры яна здольная адказваць? Маленькая, кволая, нібы верабейчык. Доўгія, бы лён, валасы, пяшчотны тварык. Мабыць, напалову якога зялёныя вочы з залацістымі кропелькамі. Яна ішла зранку цішком і так звычайна чырванела, нібы зрабіла штосьці не зусім добрае, агіднае. Ну зусім дзіця. Відаць, нечая пратэжэ. У гэтую кампанію проста за прыгожыя вочы на працу не возьмуць.

У калідоры пачуўся крык, потым грукат. Нейкая мітусня.

— Дзядзечка, дзедзечка!.. — лямантаваў дзіцячы голас.

Адкуль гэта? Я зайшоў у калідор. Лямант гучаў з кабінета Казіміра. Затрашчалі дзверы, і з іх выскачыў той хлапчыска, ускалмачаны, чырвоны. У руках трымаў маленькі кампутар — ноўтбук. За ім валачылася па падлозе Алеся, якая трымала мужчыну за калашыну. Гэта было відовішча!

У мяне перахапіла дыханне, ад здзіўлення не мог зварухнуць ніжнюю сківіцу. Не ведаў, што рабіць. Нібыта паралюш ахапіў мае ногі і рукі.

Алеся крычала, а мужчына спрабаваў вызваліцца ад яе. Я стаяў і моўчкі назіраў за гэтым канцэртам. Урэшце ў маёй галаве спрацавалі нейкія кантакты ці вузельчыкі, і я, адчуваючы баязлівы халадок, рушыў насустрач вясёлай кампаніі.

— Што гэта? — спытаў я.

Мужчына маўчаў. Алеся крычала. І трымала яго за калашыну, лежачы на падлозе.

— Што гэта? — зноў спытаў я.

Алеся нарэшце выпусціла з рук калашыну і, яшчэ стоячы на карачках, прашаптала:

— Ён, ён… хацеў украсці кампутар Казіміра Іванавіча…

— Вы… вы злодзей? — паўшэптам выціснуў я з сябе.

— Які я злодзей?! — прасіпеў мужчына. — Твой Казімір мне павінен грошы за працу. Хай аддасць, тады і вярну кампутар!

Я вырашыў напомніць мужчыне, што я, урэшце рэшт, знаходжуся тут не як мэбля і не дзеля даведак. Я — ахоўнік, і мае службовыя абавязкі — абараніць Алесю і выратаваць маёмасць Казіміра.

— Алеся, адыдзі ўбок! А цяпер занясіце кампутар назад у кабінет.

— Ага, яшчэ што прыдумай… — засмяяўся мужчына і праз імгненне знік у канцы калідора. Я пачуў толькі, як ляснулі жалезныя дзверы. Мне не заставалася нічога іншага, як кінуцца наўздагон.

Пакуль я дапяў да ганку, гэты галган быў ужо ля веснічак, збіраючыся пакінуць нашу тэрыторыю. За маёй спіной румзала Алеся і крычала, што я вінаваты, бо не затрымаў злодзея. Што я — абы які ахоўнік і мяне даўно трэба звольніць з такой паважанай кампаніі.

Працяг на стар. 10 (4) »

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (165) | 30 траўня 2020 | № 20 (679) Новы час

# Ахоўнік

« Працяг.
Пачатак на стар. 9 (3)

На яе крытыку я не рэагаваў. Што хацець ад смаркатай дзяўчо? Трымала за калашыну дзядзьку — і гэтым ганарыцца. Другі дзень працуе — і ўжо робіць заўвагі такому сталаму чалавеку, як я. Яна думае, што злодзей далёка ўцёк. Хай паспрабуе!

І я раптам засмяяўся… Нездарма мой бацька любіў казаць: кінеш перад сабой, дык заўсёды знойдзеш ззаду. Мудры быў бацька! Дакладна не помню, але штосьці такое ён гаварыў. І што вы думаеце?.. Мае грошы, якія я ахвяраваў уранні, былі недарэмныя.

Рыжая Гэлька са сваім сябруком Янусем прыцiснулі галгана з Казіміравым кампутарам да плота. Яны, мабыць, ашываліся, як заўжды, ля нашага будынка з новай надзеяй на гуманітарную дапамогу ад мяне. І не пралічыліся. З іх дапамогаю кампутар вярнуўся назад. Я ім аддзячыў шчыра. Спадзяючыся, што і Казімір мне таксама аддзячыць за адданую і геройчную службу. Нават Алеся была ўжо гатовая адарыць мяне пацалункам, але дзіцячая ласка мне непатрэбная.

Дзень далей мінаў больш-менш спакойна. Пад ліпаю на лаўцы рэгулярна ўзнікалі новыя аматары адпачынку з рознымі напоямі. Доўга не затрымліваліся. Глынуў раз-другі пякучкі — і пашыбаваў. Аднак вось амаль у прыцемках, калі з суседняй крамы актыўна пасунуліся жаночыя постаці з цяжкімі торбамі, на лаўку прыладкаваўся вялізны боўдзіла, а, можа, не боўдзіла, з торбай, у якой была бачна жоўтая бутэлька з півам «Лідскае». Прысеў, наталіў раз-другі смагу і пачаў уважна глядзець некуды за далягляд. Што ён там бачыў, толькі яму вядома, але, мабыць, цікавае.

Я хвіліну якую паназіраў за чарговым госцем і вырашыў таксама падсілкавацца кубачкам гарбаты і бутэрбродам з кілбасой. Не надта смачнай, але ж есці хацелася. Страўнік рашуча патрабаваў свайго.

У нашым будынку ўжо засталося зусім мала людзей. У большасці працоўны дзень скончыўся, толькі ў мяне ён быў да ранку.

Не пайшла яшчэ дамоў Алеся, і быў на месцы другі заснавальнік кампаніі Славамір Антонавіч. Ён сёння чамусьці без машыны. З'явіўся трошкі пад мухай, нечым моцна задаволены. Ён нашмат старэйшы за Казіміра. Камлюкаваты, рэдка вітаецца. Мармытне часам што-небудзь — і мінае. І сапраўды: хто яму ахоўнік? Ніхто. Сёння ёсць, заўтра няма. На адно месца знойдзе дваццаць такіх, як я. А мо і лепшых. Ён міма ідзе, звычайна глядзіць на мяне і нібыта не бачыць. Бачыць, усё ён бачыць. Былы падпалкоўнік і нампаліт вайсковай часткі. Я чуў плёткі, нібыта ён украў у сябра амаль чамадан даляраў, і пасля гэтага ўзнікла кампанія, у якой я маю гонар працаваць. У першы год нашага знаёмства ён лічыў мяне ледзь не паплечнікам і часам апавядаў пра былое жыццё. Пасля звальнення з войска Славамір Антонавіч прыладкаваўся ў расейскай Самары памочнікам дырэктара найбольшага гарадскога рынку. Па яго словах, гаспадар гэтага рынку ў месяц меў мільён даляраў наяўнымі. Ці здольны быў бедны падпалкоўнік утрымацца ад спакусы хоць вокам зірнуць на гэты мільён? Зразумела, не. Ён адночы не перадаў гаспадару паўчамадана, а сам даў лататы ў гасцінную, ласкавую Беларусь, дзе мяккія, памяркоўныя людзі з павагай прынялі яго. Падпалкоўнік, аддана служы Радзіме! Як гэта не дапамагчы вайскоўцу?.. Чамусьці ўсялякія махляры, што прыплываюць ад усходніх суседзяў, знаходзяць у нас прытулак і пачынаюць рабіць дурнямі тутэйшых. Але размова пра іншае… Праз дзень пасля ўцёкаў паплечнік, які атрымаў грошай на двухпакаёвую кватэру для дачкі (за дапамогу рэквізацыі паўчамадана даляраў), паведаміў, што магнат раптоўна сышоў з гэтага свету. Вось так. Пра гэта Славамір мне расказваў даўно, на возеры, і калі быў як бэля. Я пачуў і забыў. Навошта мне чужыя таямніцы? Што я пачуў, тое і забыў. Але ж, мабыць, былы падпалкоўнік не забыў. Прачухаўся і, відаць, штосьць успомніў. З таго часу — як упершыню бачыць. Ну, і на здароўе! Мне да яго сакрэтаў — як да амерыканскіх ракет у Еўропе. Хай там рускія скачуць і плачуць, што ім НАТА хутка галовы скосіць… Спярша ў яго любімая фраза была: мы вас, дурных беларусаў, навучым жыць. Калі я пачуў яе на трэці раз, проста ўхапіў за каўнер і сказаў: «Ты, ванючы кацап, вялікадзяржаўнік, яшчэ калі пра гэта прамовіш, лыч перараблю справа налева…». Ён мне падзякаваў за выхаванне і з таго часу нібыта мяне не бачыць. Але ж я яго добра бачу. Лыч ад мяне верне. На здароўе…

Вось такія, браткі, справы. Даеў свае прысмакі, адчуў сябе асілкам. Што там на двары? Вызірнуў і ледзьве не зламаў трохногі столік, за якім вячэраў і абедаў. На лаўцы пад ліпаю, шырака расхінуўшы рукі, нібы збіраючыся ўзляцець, выпрастаўся нейкі боўдзіла.

Ляжыць, бы выкарчаванае струхлелае дрэва. Цікавы момант, улічваючы, што праз гадзіну я павінен зачыніць вароты. Наўрад гэтае бервяно праз гадзіну зварухнецца з месца. І што мне тады рабіць? Можа, спяваць яму калыханку? Не, гэта ўжо нікуды не варта. Пагледзім на дрэва зблізку.

У будынку панавала ціхмень. Я пастаяў, паслухаў. Недзе наверсе ляпнулі дзверы. Я прыкінуў: гэта Славамір альбо Алеся. У памяшканні больш нікога, здаецца, не было.

Бервяно ўладкавалася пад ліпаю, нібы ў сябе на канапе перад тэлевізарам. Што ж, у кожнага свае магчымасці. Я нетаропка сыйшоў з ганка і марудна, крок за крокам, пасунуўся да ліпы.

Гэта быў малады конь, з якога яшчэ не выцягнула моц сучаснае жыццё. Ён, мабыць, адчуваў сябе ў раі, над ім калыхаліся аблокі. З усіх бакоў сядзелі прыгажуні, якія марылі падарыць яму шчасце. Ён знаходзіўся ў садзе Эдэма…



Фота www.drasler.ru

Я нахіліўся над лаўкаю і гукнуў так, як будзіла яго ў дзяцінстве маці: «Сынок, аладкі на стале!». Ніякай рэакцыі. Зноў крыкнуў, але таксама была дарэмнай мая спроба вярнуць да пуцявін жыцця гэтага дзецюка.

Я ўзяў яго за нос і моцна сціснуў, пасля сваёю не зусім кволаю лапаю, мякка кажучы, пагладзіў па ўсім тым, дзе ёсць нос, вушы. Гэта, значыць, — пысу. Ніякай рэакцыі. Што ж, і так магчыма. Я наблізіў свой твар да ягонага. І мне здалося, што ён не дыхае. Вось толькі гэтага мне не хапала… Я адразу ўявіў, што боўдзіла пад два метры… пад маёй ліпаю… Не дай Божа нават падумаць. Гэта жах!

І што, якое выйсце? Я пачухаў яму патыліцу, пацягнуў за руку. Не дыхае. Прыхіліўся сваім носам да ягонага, смярдзючага, у дробных скуляўках. Не патыхае адтуль нічым.

Я азірнуўся па баках. Швэндаецца туды-сюды абыякавы люд.

**Бачыць, усё ён бачыць. Былы падпалкоўнік і нампаліт вайсковай часткі. Я чуў плёткі, нібыта ён украў у сябра амаль чамадан даляраў, і пасля гэтага ўзнікла кампанія, у якой я маю гонар працаваць.**

І параіцца няма з кім. Зрэшты, у мяне ёсць тэлефон, які мне і дапаможа. Словам, ратуйся як можаш!

Праз паўгадзіны я з радасцю сустракаў рознакаляровы міліцэйскі аўтамабіль, з якога выскачылі два жвавыя хлопцы. Яны паштурхалі майго «нябожчыка», паштурхалі, а пасля адзін з іх выліў яму на галаву бутэльку вады. Спярша было чмыханне, выказванне незразумелых слоў, сэнс якіх не адпавядаў маёй жыццёвай філасофіі. Было бачна, што актыўныя дзеянні міліцыянтаў вярнулі боўдзілу на зямлю, пад ліпу. І цяпер ён памкнуўся хутчэй пакінуць нашую прывабную лаўку. Што было далей, мяне ўжо не цікавіла. Час вярнуцца на сваё месца. Яшчэ трошкі — і, як кажуць, зачыняй сенцы.

Калі я зірнуў з будынка на пляцоўку, пад ліпаю на лаўцы ўжо нікога не было: ні міліцыянтаў, ні «нябожчыка». Мне адразу стала лягчэй на душы. Дзень мінаў спакойны, і неўзабаве можна будзе адпачываць, штосьці планаваць на заўтра.

У канцы калідора прагудзеў Славамір Антонавіч, піскнула Алеся. І зноў сціхла. У іх свае клопаты, у мяне свае. Пап'ю яшчэ гарбаты, пачытаю кніжку. Дарэчы, мне надта спадабаліся творы паўднёваафрыканца, нашчадка бураў, Сміта. Ужо не першы ягоны раман чытаю, нібы п'ю сваю любімую гарбату з мяты, маліны і чорных парэчак. Такі напой: глытаеш — і адчуваеш, як уся істота памацнела, ачуняла ад стомы.

Дзень зусім схіліўся да сконy, прыцемак паглынае будынiны, дрэвы. Людзі, цёмныя постаці, якія невыразна варушацца ў кісялі змроку, што рухаецца безупынна, не затрымліваючыся на ніякіх перашкодах. Я ўзіраюся праз акно на сваю тэрыторыю і ўжо не бачу прыхільнікаў адпачынку пад ліпаю, толькі зрэдку чую рэзкія гукі машын, якія сваім святлом раз-пораз перакрэсліваюць прастору.

Дзень мінуў, і дзякуй Богу. Неўзабаве я зачыню вароты і ў ліхаманкавым святле начнічка (бо наш вялікі спецыяліст па электрычнасці Міхал ніяк не наладзіць гэтую электрычнасць у будынку) апынуся ў свеце Паўднёвай Афрыкі, дзе белыя і чорныя зрабілі ракіроўку: чорныя зверху, а белыя знізу. Гэта даўно вядома ўжо ўсім…

Чытаць, наогул, карысна. Пачынаеш асэнсоўваць сваё жыццё. Думаеш пра будучыню, плануеш. Нешта атрымліваецца, а штосьці не. Я некалі чытаў, не помню якую кніжку, што ўсе мы ў Космасе, якi гаспадарыць на зямлі. І ён накіроўвае нас і вырашае наш лёс. Мабыць, гэта і так. Аднак цікава піша пан Сміт. Няўжо ён сам гуляў па Паўднёвай Афрыцы, што настолькі ведае і пра львоў, і пра малпаў, і пра неграў розных плямёнаў? Во чалавек, во дасціпны!.. Каб мне хоць адным вокам зірнуць на гэну Паўднёвую Афрыку. Некалі мне апавядаў адзін чалавек, што там бандыт на бандыце і бандытам паганяе. Поўныя вуліцы чорных, і ўсе есці хочуць. Канечне, забяруць апошні грош…

Што за дзіўны енк? Можа, з вуліцы?..

Я паклаў кніжку ў шуфляду стала і пільна ўпяўся сваім слыхам у цішыню. Наш будынак нібыта засынаў пасля цяжкага працоўнага дня. Яшчэ вагаліся напружанне ў паветры, рэшта нервовых імпульсаў супрацоўнікаў. Аднак спакой пачынаў уладарыць ад першага да астатняга паверхаў. Перакана违ны, што будынак — гэта таксама жывая істота, у якой свой характар і разуменне насельнікаў: ён іх любіць альбо не. Зрэшты, гэта мая філасофія, якая нікому непатрэбна…

Зноў пачуўся енк ці крык. Я навастрыў вушы. Безумоўна, гэта не з вуліцы.

Я замкнуў дзверы ў будынак і нетаропка, уключыўшы ўсе свае псіхалагічныя і фізічныя магчымасці, рушыў па калідоры. Будынак адпачывае, ніхто мяне не трывожыць. Я нікога не баюся. Дарэчы, вось там кабінет Алесі. Чаму ў ім няма святла? Яна не выходзіла з будынка. Яна тут. І Славамір тут. Ягоны кабінет на другім паверсе.

Я амаль дайшоў да паваротки калідора, і заставаліся апошнія дзверы. Менавіта з-за іх нібыта піскнула птушка. Я, не разважаючы, расхінуў дзверы. Дарэчы, ключы ад усіх кабінетаў у нас у шафцы, і іх мы замыкаем на ноч. Таму я ўпэўнена расчыніў дзверы і адразу ўключыў святло.

Злева ад уваходу, на канапе, сядзеў вогненна-чырвоны Славамір і трымаў на каленях Алесю, якая, нібы птушка, спрабавала вызваліцца з кіпцюроў драпежніка. Так мне здалося. Таму што я пачуў выразны шэпт: «Калі ласка, адпусціце… Адпусціце…»

У гэты момант я не разважаў. Роздум не спрацаваў. Падзейнічалі мае ўяўленні пра жыццё, свет, якія ўва мне выхавалі бацькі. Хоць гэта было так даўно… Але іхнія ўрокі я зацвердзіў назаўсёды. Адзін з іх — нельга здзекавацца з жанчыны.

Не вагаючыся, я з размаху ляпнуў Славаміру па вуху. Алеся саскочыла з ягоных каленяў ды імгненна знікла з пакоя.

Славамір уздыхнуў, паварушыў скіvіцай і, не гледзячы на мяне, таксама выйшаў. Вельмі хутка двойчы ляпнулі дзверы на выхадзе. І я застаўся нарэшце адзін. Мне было непрыемна, гідка, і яшчэ такое адчуванне, нібы захварэў. Было ніякавата, сумна. Хоць і незразумела, чаму.

На наступнае маё дзяжурства, недзе пад абед, у мой пакойчык зайшла Алеся. Яе доўгія ільняныя валасы надзвычай прыгожа ляжалі на вузкіх плячах. Яна вельмі адрознівалася ад той, якую я бачыў раней. Падфарбаваныя вусны, павекі. На нагах дарагія пантофлі, на руках — амаль на кожным тоненькім пальчыку — па залатым пярсцёнку. Завушніцы з дыяментамі.

— Шаноўны Кастусь Восіпавіч, кіраўніцтва кампаніі прапануе Вам звольніцца. Кантракт з Вамі не будзе падпісаны, — яна вымавіла гэтыя словы і зрабілася чырвонай.

З яе вачэй выкаціліся слёзы, якія пакінулі на маленькім, амаль дзіцячым, тварыку пісягі. Вейкі трымцелі. У яе дрыжэлі худзенькія бяскроўныя рукі. Яна аддала мне нейкую паперыну, якую я скамячыў і выкінуў у смецніцу.

Я выйшаў на ганак. На лаўцы пад ліпаю нікога не было. Нават Януся з яго рыжай сяброўкай.

Залапатаў дождж, марудны і пануры.

Нічога, жыццё — неверагодны цуд. Я ганарліва ўзняў галаву і рушыў далей у будучыню…

# Файл з каранёвага каталога



Раман АБРАМЧУК



Фота www.wallpaperscraft.ru

## Старажоўка

*ані вострае брамы, ні нават тупой*
*у табе — няма*

*мокры снег і дажджы тут —*
*замест віна*

*Старажоўскіх вуліц тут некалькі*
*і заблытана ніць*

*мне з табою, о Менеск,*
*відаць, да канца — плыць*

*па пярэспах ды лужынах*
*з дажджом — у такт*

*па завілістых віліях —*
*і на што той тракт*

*да вагністае брамы*
*Пагоня — з Ягнём*

*да памытых ад назваў вуліц*
*якія і ёсць — дом*

## Кірыла, мітрапаліт

*Кірыла, мітрапаліт*
*ні Зевядзееў, ні Кананіт*
*а так, мясцовае абы што*
*гойсае на сваёй Аўдзі-100*
*азадачаны лёсам авечак —*
*з каго састрыгчы і што*

*Кірыла, мітрапаліт*
*ні качатковец, ні монафізіт*
*пражывае ў катэджным пасёлку*
*на Садовай, 66 і*
*чорту што — чорту проста*
*хочацца есці*
*і ён кажа Кірылу: а-ну, аддай мне,*
*нарэшце, свае ключы*
*а Кірыла шле яго к чорту*
*і далей ляціць*
*на інаўгурацыі, віп-хрышчэнні,*
*посныя ланчы*

*Кірыла, мітрапаліт*
*дорыць ружачкі Пецям і Пашам*
*на юбілей царквы*
*і на казані кажа:*
*дарагія мае, царква — гэта вы*
*і авечкі спяць ад гэтых пастара слоў*
*і сняць нецаркоўныя сны*

*як былінны Хрыстос прызямляе*
*на Замчышчы свой піпелац*
*плыве з брацяй на чаўнах*
*у прэзідэнцкі палац*
*праходзіць праз сцены*
*і кажа прэзідэнту ў твар:*
*ты — чмо.*
*а далей, як звычайна:*
*сіза, катаванні, па офісах шмон*
*і нарэшце — знаёмыя перакладзіны і цвікі*
*і Кірылу ўвечары кажуць: твой? забяры!*
*а Кірыла пад нос напявае сабе*
*пасхальны канон*
*выдаляе файл з каранёвага каталога*
*і на застаўцы экрана з'яўляецца*
*Крышна, Шры-Ланка, слон*

## Слуцкая ткачыха

*Ад родных ніў, ад роднай хабзы*
*Узята і пасаджана*
*За кросны трэцяга пакалення*
*Указам прэзідэнта*
*Ткаць нацыянальны гонар*
*І сувеніры прэміюм-класа*
*Для магнатаў і на магніцікі*
*А не з Максам на возера*
*А не з дзеўкамі на дыскач у ДК*
*Таму і не дзіва, што забываешся*
*І замест залітых у праграму патэрнаў*
*Каласкоў ды іншага кананічнага вецця*
*Выдаеш за начную змену вясёлую мяшанку*
*З кіслотных колераў і фалічных стручкоў*
*І не відаць ужо прэміі*
*І аплявухі айчымавы*
*Але што табе з гэтага*
*Твой Макс усё адно застаецца з табою*
*І васількі яго на вакне*
*Пахнуць*

## Запяяла дуда

*Запяяла дуда*
*і паплылі густыя гукі над зеўрай*
*шматпавярховікаў*
*запяяла дуда*
*і завыў на ўвесь дом шчанюк*
*ірландскага сэтэра дзесь на 12-м*
*ці-то трапіла ў тон*
*ці-то ўз'юрылася кроў продкаў*
*запяяла дуда*
*і сняжынкі зарухаліся хутчэй*
*запяяла дуда*
*і падлетак вылез з вк —*
*ма, а чё, у наших соседей волынка?*
*запяяла дуда*
*і пяць дудароў увайшлі*
*ў двухмільённы мегаполіс*
*праз праёмы, што пад кальцавой*

*стаў граць першы —*
*і на ратушы прабіла трынаццаць*
*надзьмуў мехі другі —*
*і разладзіліся планы інвестараў*
*на забудову цэнтра*
*задударыў трэці —*
*і хлапчук з вк пацягнуўся*
*па томік Коласа*
*расхадзіўся чацверты —*
*нарадзіўся паэт*
*зайграў пяты —*
*і айціішнік-дзяцюк*
*з дудой замест цацкі*
*набытай на рыцарскім фэсце,*
*каб выбрыкваць перад дзяўчатамі*
*штосьці ўцяміў пра гук,*
*тэмбр ды інтанацыю*
*і ўжо болей ніколі ў размовах*
*з замежнымі партнёрамі*
*на пытанне «Where are you from?»*
*не адказваў*
*няўцямна*

## дысконт

*... А потым пачнуцца войны*
*паміж прыхільнікамі «Суседзяў» і «Еўра-опта»*
*Вернікі варагуючых гандлёвых сетак*
*будуць вынішчаць адзін аднаго,*
*выпальваць напалмам*
*Бо за гэта, зрэшты, будуць налічвацца*
*чарговыя зніжкі і бонусы*
*І толькі невялікая група выгнанцаў*
*Ты і я, бро, будуць адціснутыя*
*на ўскраіны кантралюемай тэрыторыі*
*Будуць здабываць сабе шкадобны хлеб*
*у апошніх фарпостах крокавай даступ-насці*
*Зрэшты, і тыя, з цягам часу, здадуць пазіцыі*
*і трапяць у адну з пануючых сетак*
*Разрозненыя рэшткі «беспрыхільных» —*
*так яны будуць нас называць,*
*кампраметуючы гэтым*
*нашую святую абыякавасць —*
*будуць вымушаны туліцца*
*па дзедаўскіх дачах*
*закідваючы раз-пораз гнілой бульбай*
*караваны фураў*
*што з ледзяной дакладнасцю будуць*
*курсіраваць уздоўж лініі*
*лагістычнага фронту*

*на гэтай лініі калісьці знойдуць і нас:*
*патруль пхне целы нагой*
*пераканаецца ў нашай небаяздольнасці*
*у якой і пры жыцці можна было*
*не пераконвацца*
*следчая камісія так і не зможа*
*ідэнтыфікаваць нашую*
*маркетапрыналежнасць*
*бо ў кішэнях не будзе знойдзена*
*аніводнай*
*дысконтнай*
*карткі*

## К. К.

*і нас яшчэ вынесуць з ганаровай вартай*
*і Лукішкі — яшчэ адгукнуцца ім*
*і калі быў героем са старту*
*то й па смерці — косткай уставіш*
*паскудам клін*

## Арэлі Максіма Анатолевіча

*Максім Анатолевіч, генеральны дырэктар*
*рэгіянальнага прадстаўніцтва*
*На запоінах замежных партнёраў*
*апынуўся — вось недарэчнасць*
*на тэрыторыі музея народнай*
*архітэктуры,*
*4 км ад сталіцы*
*Зразумела карчма,*
*зразумела да чорцікаў*
*У сярэдзіне вечара выходзіць папаліць*
*Пад зоркі, што ўжо ззяюць*
*падпісанымі кантрактамі*
*ды пад азадак нечакана трапляюць арэлі —*
*ну, рытуальныя такія —*
*масленіца, гуканне вясны*
*пачынае гайдацца,*
*выплюнуўшы недапалак*
*і*
*мора хвалюецца раз*
*і вось ён ужо проста Макс*
*нясе са школы заплечнік*
*з чарапашкамі-ніндзя*
*і тройкай па геаметрыі*
*а арэлі выпісваюць*
*усё больш востры вугал у паветры*
*і мора хвалюецца два*
*і вось ён ужо проста Халва*
*так называлі яго аднакласнікі*
*бо Халвінскі па пашпарце і журнале*
*дзе двойкі замазвалі*
*і пятакі падстаўлялі —*
*і мора хвалюецца поўных тры*
*і зоркі — згасаюць кантракты —*
*запальваюцца парты*
*афрык і палінэзій*
*пра якія чытаў, да таго*
*як зацягнула ў пад'езды*
*піць з пацанамі піва*
*вось цяпер яно й просіцца вонкі*
*і мора пераліваецца*
*з рыльца да донка*
*і паўмесяц ужо бліскае,*
*ды сонейка так і не ўдаецца —*
*адвечная параза Дзімону*
*з другога пад'езда*
*заміраe ад страху гіпертанічнае*
*Макс' Анатоліча сэрца*
*але шчэ застаецца каронны*
*Макса Халвы трук*
*і мора хвалюецца — цяжкі грук*
*Максім Анатолевіч, генеральны дырэктар*
*рэгіянальнага прадстаўніцтва*
*Прызямляецца ў пяці метрах*
*ад музейных арэляў, 4 км ад сталіцы*
*(Такое Дзімону з другога*
*магло толькі сніцца)*
*Калегі-зямляне сустракаюць*
*шэфа свінячым віскам —*
*Мармычуць нешта пра немцаў*
*і мінскіх путанаў*

*Высока між зорак кружляе фрэгат,*
*кінуты капітанам...*

## Колеры Беларусі

***М. Анемпадыставу***

*Жоўты, чырвоны, шэры*
*вы — у партэры*
*старога саду*

*Сіні, блюзовы, блакітны*
*у вас — не ідэалогія, а малітва*
*тын з вінаградам*

*Чорны і залаты, вішня ў белі*
*вы столькі сказаць не паспелі*
*над садам песня*

*Зялёны, зялёназорны, аер-на-сонцы*
*у вечнага траўня ваконца*

*шмыгнулі арэлі*

## Не БЧБ

*І мы даўно ўжо не БЧБ —*
*Мы проста свецімся*
*Як зоркі багдановічавы*
*Як ліст на асеннім галлі*

*Што ж, мы даўно ўжо не БЧБ —*
*Проста так часам выгадна*
*Сядлаем вослікаў з нашых стомленых*
*Пагоняў*
*І прыпускаем іх пасвіцца*
*ў казённым жыце ды васільках*

*Не, мы даўно ўжо не БЧБ —*
*Проста так часам правільна —*
*Увязвацца, быць шчытом,*
*чыёйсьці правай рукою, соллю, сабой*

*Так, мы даўно ўжо не БЧБ —*
*Проста так часам хочацца*
*І мы не пераймаемся*
*Бо, абазнаныя ў колерах,*
*Мы даўно ўжо ведаем*
*Што ўсе мы разам ляцім да зор*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (165) | 30 траўня 2020 | № 20 (679) Новы час

# Тое, што ўваходзіць



Андрэй
ФЕДАРЭНКА



Фота www.pixabay.com

**Ніколі не ўгадаць самы пачатак — той момант, калі ўзнікае гэты настрой, сатканы з гукаў, пахаў і малюнкаў, які азначае зараджэнне новага, што толькі пачынае завязвацца, як плод у матчыным жываце**

## I

Калі яно пачалося? Гэтае раптоўнае абвастрэнне зроку, слыху, пахаў?

Я спачатку нават не зразумеў, што адбылося, падумаў, змена ад таго, што я ў новых акулярах, — раней не бачыў машыну на другім баку вуліцы, а цяпер мог разгледзець нават нумар яе. Але гэта быў не столькі фізічны, колькі духоўны ўздым, нейкая яснасць, упэўненасць, разуменне сутнасці кожнай рэчы.

Мінулай восенню? Не, раней, у жніўні, нават у канцы жніўня. Памятаю, як раніцамі пахла ўпаранай за ноч цёплым туманам зямлёй, лесам, грыбамі (і гэтыя пахі, як ніткі, вялі ў дзяцінства); удзень на вялікім кусце садовай шыпшыны каля суседняга дома адначасова можна было бачыць чырвона-аранжавыя ягады і бела-ружовыя буйныя кветкі; вечарамі на захадзе доўга свяцілася, дагарала малінавае неба — сонца развітвалася з летам. Каля пад'езда да паспелі грушы, і вавёркі з малымі ваверчанятамі з блізкага лесапарку здзяйснялі на іх набегі, а дворнічыха цётка Галя ваявала з імі, бо лічыла сваёй вотчынай усе пладовыя дрэвы вакол дома: персік, тры вішні, чатыры слівкі, дзве грушы, глог, а таксама агародзік з кустамі парэчкі і нават бярозавы гаёк каля суседняга дома, дзе пасля дажджу высыпалі сыраежкі. Цяпер яна бараніла сваё дабро, ганяла налётчыкаў: «кыш, праклятыя», — але смелыя звяркі не надта баяліся, а найбольш спрытныя кароткімі перабежкамі, горбячы спіны, перасякалі застаўлены машынамі двор да суседняга дома, у той самы бярозавы гаёк.

— Вавёрка — самы злодзей з усіх жывёл, — скардзілася дворнічыха, — яны Богу няўгодныя, сквапныя, грушы, вішні мае крадуць ды яшчэ дзяцей сваіх прыводзяць — парвалі ўсе сыраежкі, а я грыбы больш за ўсё люблю, мне хоць махамору пастаў...

Цётка Галя з тых, каго называюць «жанчына-чапля». У яе доўгія, пад пахі, ногі, кароткае тулава і маленькая галава з дзюбападобным носам. На ёй казённая жэсаўская сіняя куртка з чырвонай паласой, на галаве хустачка, як у прыхаджанкі каля царкоўнага цвінтара. Усе яе пабойваюцца з нашага і з суседняга дамоў, і ёсць за што: вечна незадаволеная, амаль ніколі не ўсміхаецца (а калі ўсміхаецца, дык штучнай усмешкай Шчаўкунчыка), птушыныя круглыя вочкі глядзяць падазрона, тонкія вусны маленькага рота варушацца, увесь час яна бурчыць, сварыцца то на спёку і дождж, то на вавёрак і вераб'ёў, то на дзяцей у пясочніцы і на дарослых з сабакамі; і гэта пры тым, што веруючая, — праўда, верыць яна ў нейкага свайго дзіўнага бога, які дапускае грубасць і нелюбоў да бліжняга; рэгулярна ходзіць у царкву, але таксама дзіўную, невядома якога прыхода, называецца «Царква "Віфлеем"». Зрэшты, на працу яна ўвішная, ніколі не прысядзе: падмятае, прыбірае, мые ліфт, шаруе калідоры, пад'езды і лесвічныя пляцоўкі.

Што да мяне, я ў тое лета знаходзіўся, як у нірване, у святым гультайстве, прытрымліваўся правіла: не рабі сёння тое, што можна зрабіць заўтра, і цэлымі днямі бяздумна, летуценна гуляў па лесапарку, па дварах і вуліцах свайго раёна. Тым жнівеньскім вечарам, памятаю, сядзеў на лаўцы каля пад'езда, любаваўся небам пасля заходу сонца, назіраў, як яно паступова ператвараецца з сіняга ў пунсовае, потым у аранжава-зялёнае, — фантастычны малюнак, які ў каторы раз без усялякіх глобусаў даказвае, што зямля круглая. Побач у сваім агародчыку цётка Галя тупала, уздыхала, шамацела галінамі дрэў і кустоў, гаворыла сама сабе: «Наламаю вішні, парэчкі... Гуркоў насалю... Пакуль дзеці не вытапталі, не абарвалі, нехрысці гэтыя...». Неба патухала. Цені даўжэлі. Паветра свяжэла і гусцела. Ад суседняга дома даносіўся малады смех, у змроку свяціліся агеньчыкі цыгарэт і мабільнікаў.

І тут да мяне дайшло, што я пішу мастацкі твор.

## II

Ніколі не ўгадаць самы пачатак — той момант, калі ўзнікае гэты настрой, сатканы з гукаў, пахаў і малюнкаў, які азначае зараджэнне новага, што толькі пачынае завязвацца, як плод у матчыным жываце.

Але калі ўжо гэта адбылося, усё рэзка змяняецца. Цяпер трэба было жыць не для сябе, а для яго, гэтага капрызнага плода. Трэба было яго карміць. Некалі даўно, у тураўскай царкве, дзе мяне хрысцілі (позна, у шэсць гадоў, затое ўжо тады мог сёетое бачыць, чуць і запамінаць), я стаў сведкам, як падвыпіўшы бацюшка перад амбонам адчытваў маладую паляшучку (адной рукой яна прыкрывала пунсовы ад сораму твар, а другой — ладна акругલены жывот). «Не тое важна, што ўваходзіць, а што выходзіць!» — казаў поп. Так і тут. Хай усё ўваходзіць, а што выйдзе — пабачым.

Ад гультайства майго не засталося і следу. З прагай калекцыянера, ці золатаздабытчыка, які адшуквае каштоўны метал у рудзе, я накідваўся на кожную дэтальку, малюнак, эпізод, сказанае і недаказанае слоўка; вочы і вушы механічна лавілі, адзначалі, запаміналі, памяць гэтак сама механічна прасейвала, фільтравала, прамывала і адбірала ўсё, што можа пайсці ў справу.

Кожны ранак, як на працу, я выходзіў па здабычу. Мой лесапарк — парэшткі некалі сапраўднага дрымучага мядзведжага бору, стаяў зялёнай сцяной. На ўзлеску расла маладая дзікая яблыня, адгароджаная чатырма калкамі з вяровачкамі, пад ёй купіна мурашніку, і вакол усё ўсыпана яблычкамі, цэлымі і гнілымі, з чорнымі бакамі; па роўным, гладкім, нібы адпаліраваным ствале бесперапынна рухаліся ўверх-уніз мурашкі, а побач стаялі і назіралі за імі, як каля вальера ў заапарку, бабуля з унукам.

«Как мурашка по-белорусски?» — дапытвалася бабуля. — «Муравей!» — «А морковь?» — «Морква!» — «А картофель?» — «Не знаю, не хочу, не буду!»

Лесапарк быў увесь парэзаны на сектары асфальтавымі дарожкамі. Адна, самая шырокая, цэнтральная, перасякала лес наскрозь і выводзіла да маленькага возерка, дзе каля крана над свідравінай, з якой цячэ дзень і ноч артэзіянская вада, таўчэцца народ з пластыкавымі бутлямі. Возерка не так даўно акультурылі, г.зн. ссеклі прыбярэжныя кусты, высыпалі гравіем сцежкі, вакол праз кожныя пяць крокаў паставілі лаўкі з чыгуннымі ножкамі і спінкамі, разам з травой і з чаротам вычысцілі дно, узялі ў бетон берагі, — тым больш дзіўна было бачыць, як амаль заўсёды, у любы час дня і ў любое надвор'е сядзіць на беразе, на перакуленым вядры, засяроджаны рыбак у ботах і ў саламяным капелюшы. Доўга я не мог узяць у толк, што ён тут робіць? — калі гэта рэлакс, дык што за месца выбрана? — пакуль аднойчы ён пры мне вышмаргнуў самага сапраўднага судачка, сантыметраў пятнаццаць, з высокім спінным плаўніком і растапыранымі чырвонымі жабрамі, якога адразу ж зняў з кручка і абыякава кінуў у ваду пад бераг; значыць, вадзіліся тут і такія, на якіх разлічана вядро.

Цяністая вуліца з ліп, серабрыстых клёнаў і таполяў вяла з лесапарку ўгару да метро. Каля прыпынку размінуўся з чалавекам у спартыўным касцюме, з кіёчкам, на які ён не апіраўся, а нёс у руцэ. Заняты думкамі, вітаючыся з дрэвамі, якіх ведаў усіх, як сяброў («дзе б я ні ехала, дзе б я ні йшла, я ж вам, таполі, не дзякавала»), не надта здзівіўся, калі хвілін праз пяць мне насустрач прайшоў, накульгваючы, яшчэ адзін чалавек у спартыўным касцюме з кійком. Але калі яшчэ праз пяць хвілін, ужо за аўтобусным кругам, наперадзе ўзнік трэці чалавек з кіёчкам, у спартыўным касцюме — я не на жарт спалохаўся, пакуль не зразумеў, што гэта адзін і той жа чалавек: мабыць, пасля гіпса рапрацоўвае нагу, з горкі спускаецца пешкі, сядае ў аўтобус, праязджае прыпынак угару — і такім чынам увесь час апынаецца ў мяне спераду, спраўджваючы сафізм, што Ахіл ніколі не здагоніць чарапаху.

На высокім пагорку — аддалёк відаць — касцёл, скіраваны шпілем у неба, як невялікая касмічная ракета. Людзі спыняюцца і фоткаюць яго з вуліцы.

Ад падэшвы ў напрамку касцёла апендыксам адыходзіць завулак, на якім адна за адной тры крамы: «Ваўкавыскія прысмакі», «Віны», «Хінкальная». У першай, акрамя мяса і каўбас, можна за стойкай выпіць харошага дарагога разліўнога піва; у другой ледзь не кожны тыдзень ладзяцца акцыі бясплатнай дэгустацыі; у трэцяй часам увечары дазваляю сабе чарку грузінскага каньяку, уяўляючы сябе якім-небудзь Хэмінгуэем ці Юры Алешам. Калі ўзяць за мэту заходзіць у кожныя дзверы па чарзе, атрымаецца па ўзрастаючай, ад слабейшага да мацнейшага, як у той прымаўцы: «Віно на піва — хлопец дзіва...». І нарэшце ў канцы газетны кіёск, дзе за кубкам кавы можна пагартаць часопісы і газеты. У газеце зрэдку мільгае і маё прозвішча, як правіла, у хвасце абоймы, перад самым «і інш». Вось яна, ціхая слава, непрыкметная папулярнасць. Калі шчыра, такой і хацелася. Меншы попыт — менш адказнасці, адпаведна, больш свабоды. І потым: якая гэта раскоша — ні ад кога незалежнасць, поўная воля, самадастатковасць! Мець на хлеб і да хлеба, на цыгарэты і да цыгарэт, пісаць адно апавяданне чатыры старонкі чатыры месяцы — так, гэта доўга, няўдзячна, нелагічна, затое ніколі не ўзнікае пытання, дзеля каго і навошта пішу.

Назад вяртаўся, агінаючы пагорак, зарослы лазняком і сінявата-дымчатай шывельгай, куды перад Вербніцай хаджу зрэзаць тры галінкі, і потым жартам пераконваю жонку, што яны ўжо свячоныя, бо растуць на касцельнай тэрыторыі. Сонечны дзень, а цыкорый закрыты. Мухі кусаюцца ў адкрытыя рукі. Усё паказвае на дождж, а насамрэч — даўно ўжо не працуюць народныя прыкметы. У двары непаседлівая цётка Галя дыбала на сваіх доўгіх нагах, карміла галубоў. Галубоў корміць, а вераб'ёў ганяе:

— Кыш, хрыстапрадаўцы! Голуб — божая птушка, а верабей іуда, — патлумачыла неяк. — Калі Хрыста распялі — на сабе не хачу паказваць, дык мучыцелі думалі, што ён памёр, хацелі сыходзіць. Тут бы добрыя людзі і ўратавалі яго. Але гэтыя іуды тут як тут. Пры ляцелі і крычаць: «Жыў, жыў!» Вось і загінуў, бедны.

Дома, перад тым, як сесці за сваё, праглядаў кампутар, прагортваў мышою і прабягаў вачыма ўсю гэтую інфармацыйна-сацыяльна-культурную кашу: АБСЕ зафіксавала абстрэл Данбаса, мінскае «Дынама» ў чарговы раз прайграла па чарговых булітах; выбары — з абавязковым падзагалоўкам «без выбару»; юбілей, падобны да некралога; прэзентацыя; урывак перакладнога рамана нейкага лаўрэата нейкай прэміі («ён кінуў зірк у ейны бок», пасля чаго «пераночыў у ёй,

праз што потым шмат дзячыў яе»); брытанскія вучоныя нечым сенсацыйна высветлілі, даказалі і абверглі; яшчэ адна прэзентацыя; у Кітаі раздзялілі сіямскіх блізнят; лодка з бежанцамі перакулілася каля берагоў Грэцыі, другая — каля берагоў Італіі...

Адрываўся ад кампутара, браў пульт тэлевізара, прагаляў адзін за адным каналы. У мастацкім фільме герой, заступаючыся за сябра, ушчуваў гераіню: «Я расіст, гамафоб, ксенафоб, сэксіст (казаў з гонарам: маўляў, і што мне за гэта будзе?) — а ты хто? Хто ты такая, шлюха, каб здзекавацца з людзей? Ён кахаў цябе!» — «Такога я знайду паўсюль», — усміхаючыся, адказвала гераіня. — «Подлая сука».

Канал «Рускі шансон» (усё адно як адэская бублічная арцель «Маскоўскія абаранкі»): «Меня били, колотили, всё по глазу норовили, угадали по плечу — я стою и хохочу!» — гэта тым больш трэба запомніць, самая лепшая на ўсё рэакцыя.

На трох каналах тры запар палітычныя ток-шоу. На першым пажылы турак, прыціскаючы руку да сэрца (пасля таго, як Турцыя збіла рускі самалёт), са слязамі на вачах сцвярджаў: «Ах, обмануть миня ни тырудно, я сам обманываться рад», і ўражаны вядучы толькі і ўсклікнуў: «Да чаго ж вы хітрыя, усходнія людзі!». На другім счапляліся рускія з украінцамі. «Мы, а не вы, Донбассу помогаем!» — крычалі рускія. — «Это вроде как машина скорой помощи идет, — адказвалі ўкраінцы: — сама режет, сама давит, сама помощь подаёт». На трэцім нейкі Барыс Барысавіч разважаў: «Украіна ніколі ў бліжэйшы час не ўвойдзе ў ЕС — хутчэй туды ўвойдзе Беларусь, якая і па эканамічных паказчыках і па менталітэце намнога бліжэй да Еўропы», — і мёртвае маўчанне статыстаў, якія не ведаюць, што рабіць, але здагадваюцца, што агучана непрыстойнасць і лепш прытрымацца, не пляскаць у ладкі.

Усё ідзе ў маю капілку, усё сумленна ў сябе ўбіраю, усё стараюся ўспрымаць спакойна, стрымана, нязлосна. І толькі на апошнім канале, беларускім, на нявінным прагнозе надвор'я, менавіта — на словах: «Как говорили наши предки: на Ивана дождь — будет рожь», — раптам стала крыўдна. На міг захліснула знаёмая хваля прыкрасці, узнікла небяспечнае жаданне з кімсьці спрачацца, штосьці даказваць (нібыта ў прынцыпе нешта некаму можна даказаць), — і справа не ў тым, што ніколі не казалі нашы продкі ні «рожь», ні «дождь», ні «хлеба́», ні «страда», не ў тым, што ў нас поўна сваіх прымавак на такую тэму (напрыклад, «на Пятра дождж — будзе жыта, як хвошч»), а ў тым, што ў гэтым абсурдным, неверагодна пошлым у беларускіх вуснах сказе як у кроплі вады адбілася ўся наша ўнутраная і знешняя палітыка. Чарка і шкварка для цела, Еўравізія і спорт для душы, нацыянальная ідэя — «славь игемона», а нацыянальная рыса характару — мазахісцкае самапрыніжэнне, абсалютна добрахвотнае, без толку, без патрэбы, без аніякай для сябе карысці...

Але на міг, на імгненне ўсяго! І зноў супакой, яснасць, лёгкасць, амаль абыякавасць. Няхай і гэта ўваходзіць. Для хіміка не


Фота www.mmedia.com

бывае чыстага і нячыстага, усё аднолькава каштоўнае — ружовы куст і куча смецця.

### III

Прамінуў цёплы верасень; у пачатку кастрычніка пачаліся дажджы — выходзіш раніцай, і кроплі б'юць у яшчэ сухі, пругкі парасон, як у барабан. Гэта абмежавала маршрут — толькі да метро і можна было прайсці, а ў лес не ўсунешся: гразка, няўтульна, цёмна, капае з дрэў. Лісты, асабліва ліпавыя, слізгаліся пад нагамі, і гэта было больш небяспечна, чым хадзіць у галалёд. Затым прыйшоў лістапад з прымаразкамі, без снегу — мёрзлыя, калёныя лісты клёнаў падалі на асфальт з ледзь чутным стукам. Як і кожную халодную пару, на наш шырокі падаконнік пачалі прылятаць сініцы, і я не паспяваў падсыпа́ць ім семак.

— Сініца — самы тунеядзец з усіх птушак, — тлумачыла цётка Галя. — Гультайка, хітрая, ненасытная. Яе колькі ні кармі — не накорміш, яна лятаць развучыцца, растаўсцее, будзе жыць пад вакном на кусце...

Толькі ў снежні нарэшце выпаў снег. Голыя дрэвы апрануліся ў белае і з палёгкай расправілі лапы. Машыны стаялі аблепленыя ім — на бяду гаспадарам (ужо даўно надвор'е падпарадкавана аўтамабілям і вызначаецца — добрае яно ці кепскае — толькі па тым, як выехаць, заехаць і прапаркавацца: усё дзеля машыны і светлага імя яе). Цётка Галя з цямна да цямна шчыравала, грэбла, вымятала, пасыпала пяском, бурчала на дзяцей, што ляпілі снежную бабу, а потым абстрэльвалі яе снежкамі.

У першы дзень Новага года пад белым кустом арэшніку каля аптэкі снег быў усыпаны пляшачкамі ад настойкі глогу, а на самім арэшніку віселі па-веснавому вясёлыя зялёныя доўгія завушніцы. На Каляды стала ветрана. Сухі снег намятала на тратуары, малюючы ім, як белай крэйдай. А потым стукнуў мароз пад трыццаць, з сонцам. Вялізная варона закопвалася пад бярозай у снег і ляжала, раскінуўшы крылы, раскрыўшы дзюбу. Чароды шэрых драздоў ляцелі з лесапарку бліжэй да людзей, у двары, абляплялі рабінавыя дрэвы так, што не відаць было ягад, — і адны вавёркі недзе ў цёплых дуплах не дбалі, грызлі сабе арэхі і сухія сыраежкі, накрадзеныя летам у цёткі Галі.

У лесапарку старыя кашлатыя елкі гнуліся пад снегам, які неўзабаве, у лютым, у адлігу, перыядычна пачаў сасклізвацца цяжкімі пластамі з лапаў і разбівацца са смачным боханнем аб асфальт дарожкі. Я тады ўздрыгваў, уціскаў галаву ў плечы, а маладым мамам з дзецьмі ў калясках было хоць бы што — загартаваныя штодзённымі выправамі ў гэты лесапарк, яны амаль не рэагавалі.

У сакавіку закапала з галін, пабеглі ручайкі каля бардзюраў, сініцы ва ўнісон пачалі пераймаць гэты капеж і журчанне — зазвінелі, заспявалі па-іншаму. У падзяку за тое, што карміў іх, пачалі насіць і раскладваць на падаконніку гасцінцы: мох, шыпулькі, хваёвыя іголкі, а адна падняла нават невялікую шышку. Але найбольш вясна пазнавалася па лёгкасці апранання. Якая асалода зняць нарэшце шапку, пальчаткі, шалік і замест чаравікаў усунуць ногі ў зручныя красоўкі. «И в старых джинсах хорошо живётся мне...» На прыгрэве сярод плямаў снегу зажаўцелі кветачкі падбелу — маці-мачыхі, прадвеснікі дзьмухаўцоў. Пупышкі ўжо лопаліся на ліпах, вербы дык зусім стаялі празрыстымі зялёнымі абрысамі. Здорава было лавіць тварам сонца і цёплы вецер, удыхаць ацэтонавы пах маладых лісцікаў і свежай адталай зямлі. У той жа дзень каля дзіцячай паліклінікі назіраў шлюбную працэсію курапатак — не ведаю, з поля ці з лесапарку, ці адкуль яны ўзяліся: дзве курачкі і тры пеўнікі на цыбатых, як у цёткі Галі, нагах; бегалі, ціўкалі, пачуваліся на гарадской шумнай вуліцы як дома. Нейкі сабака, успомніўшы сваё прызначэнне, цяўкнуў на іх — і не рад быў: усе пяць наставілі дзюбы, моўчкі, рашуча так ламанулі на яго, што герой, падціснуўшы хвост, шукаючы ратунку, з екатаннем кінуўся гаспадару ў ногі.

На лаўкі каля пад'ездаў пачалі выпаўзаць на цяпло, як халаднакроўныя, уцалелыя за зіму дзяды і бабулі. У падвале акацілася кошка. Абсалютна дзікія кацяняты шыпелі і не ішлі ні да чыіх рук, акрамя цёткі Галі, якая іх глядзела, карміла, ставіла нейкія бляшаначкі, сподачкі.

— Кот — самы карысны з усіх жывёл, — казала яна (і дзе яна гэтыя гісторыі бярэ?) — Ён хлеб у Бога для чалавека выпрасіў. Чалавек паслаў ката з сабакам да Бога па хлеб, дык сабака свой з'еў па дарозе, а кот данёс. З таго часу кот павінен жыць з чалавекам, у цяпле, у дабрэ, а сабака на вуліцы ў будцы сабачы хлеб есці...

Працэс збору і накаплення матэрыялу ішоў поўным ходам. Твор мой рухаўся да завяршэння. Я ўжо ўяўляў, як неўзабаве пастаўлю кропку і напішу: «Кінець» — чамусьці па-ўкраінску; а самае смешнае было ў тым, што нічога з таго, што так рупліва збіраў, як яго ні круці, нікуды не ставала; усе дэталі, назіранні, развагі, пылінкі і залацінкі, як іх ні паварочвай, ніводная так і не падышла: кніга выходзіла іншай, чым задумвалася, гэта быў дэтэктыўны раман («жанр, які ў наш хаатычны час сціпла захоўвае класічныя каштоўнасці, — пісаў Борхес, — хаця б таму, што не можа быць дэтэктыва без пачатку, сярэдзіны і канца»), самадастатковая рэч, замкнутае кола, натуральная гаспадарка; яна проста не мела патрэбы ў падмацоўванні звонку.

Затое настрой мой не знікаў. Не пакідала ўлагоджанасць, супакойная паўната, фізічны ўздым, яснасць думак. Я і сам адчуваў, што за гэтыя месяцы змяніўся, стаў лепшы, дабрэйшы, мякчэйшы характарам. Нічога больш не раздражняла, не заводзіла, не чапляла. Не ўзнікала жадання ламаць усіх на свой капыл. Усё, што раней здавалася важным, надзённым, змізарнела, абясцэнілася, і наадварот — самае будзённае, простае, наблізілася і набыло каштоўнасць. Мала таго: пакрысе я пачынаў разумець, што мой занятак апошняга часу — не, не літаратура (хаця літаратура больш за ўсё гэтаму спрыяе, па прынцыпе «ты пішаш кнігу, а кніга піша цябе»), а пошукі такога стану, пры якім бы гармонія, зразумеласць, супакой былі са мной заўсёды, сталі б нормай, — і ёсць самая галоўная, самая важная ў жыцці справа. Праўда, гарчыла крыху, як моцная кава без цукру, думка: чаму гэтае разуменне прыходзіць так позна і бярэ за сябе такую дарагую цану? Шкада было змарнаванага часу: не дзён, не месяцаў — гадоў. А з іншага боку, каб не тыя нібыта змарнаваныя гады, ці было б яно, цяперашняе?

А сонца свяціла ў шыбы, а вясна клікала на вуліцу! Я выйшаў на ганак. Каля падвала цётка Галя сварылася на двух бамжоў, якія прыйшлі пагуляць з кацянятамі: «Кыш, ідзіце, няма чаго тут...». Зелянелі вершаліны елак на фоне незвычайна сіняй прагаліны неба. Па салатавым газоне бегалі чорныя шпакі з жоўтымі дзюбкамі. Пахла сонцам, цёплым ветрам, свежай травой — і верылася, нават ведалася, што нічога не страчана, усё яшчэ будзе, душа сваё дабярэ.




## Кнігі Васіля Быкава ў электронным і аўдыёфармаце

**У межах праекта «Лета з Быкавым», запачаткаваным Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Kniharnia.by, тры аповесці класіка нацыянальнай літаратуры Васіля Быкава «Бліндаж», «У тумане» і «Пакахай мяне, салдацік» з'явіліся ў папулярных аўдыёфарматах (у тым ліку для iPhone, iPod, iPad).**

Да ўсяго, чытачы могуць знайсці ў электронным фармаце ўсе выдадзеныя Саюзам беларускіх пісьменнікаў тамы з Поўнага збору твораў Васіля Быкава, а таксама яго зборнік-білінгву «Парадоксы жыцця» (па-беларуску і ў перакладзе на рускую мову Ірыны Шаўляковай).

На сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў lit-bel.org можна бясплатна паслухаць першыя пяць раздзелаў кожнага з твораў Народнага пісьменніка Беларусі — раздзел «Бібліятэка / Аўдыёкнігі», а ў раздзеле «Бібліятэка / Электронныя кнігі» бясплатна спампаваць тэксты кніг.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (165) | 30 траўня 2020 | № 20 (679) Новы Час

# Памятны крыж



Марыя БАРАВІК



Фота Reuters

## Мы ў жываслове тваім

*Памяці ўсіх забітых на вайне і зніклых... і жывым абаронцам памяці.*

*Дадзены жыцці былі нам,*
*Тканыя з мройнай зары...*
*Мы — не асілкі з былінный,*
*Мы — з кананаднай пары.*
*Мы — з кананаднага поля,*
*Дзе на згарэлай траве,*
*З кайстры адказнага болю,*
*Піў патрыёт-чалавек.*
*Гэта жывая прычына —*
*Быць нам у помным страі.*
*Памяць, спагадай злучы нас*
*У жываслове сваім!*
*Памяць, калі ты жывая,*
*Ззяеш на белым лісце,*
*З хвалі вясны выплываеш,*
*Новай сцяблінкай расцеш,*
*З вуснаў гарачых на вусны*
*Перасяляешся ты,*
*І праз матыў беларускі,*
*І разнамоўны матыў,*
*Памяць не толькі Айчыннай!..*
*Памяць з духоўных руін!*
*Ты ў бессмяроцце злучы нас*
*У жываслове сваім!*
*Рвецца вар'яцтва-цунамі*
*Твар твой расцерці, размыць.*
*Рукі працягваем снамі*
*Праўдзе замучанай мы,*
*Той, незмывальнай ніколі*
*(Хіба, што след на траве)...*
*Хай хоць крыжы ў чыстым полі*
*Скажуць, як знік чалавек.*
*Хопіць смяротнай начы нам!*
*Жыць нам у помным страі!*
*Памяць жывых! Палічы нас —*
*Мы ў жываслове тваім!*
*Ты не дазволь, людапамяць,*
*Нам спарахнела ляжаць!*
*Дзея твая, што за намі —*
*Голас магутны з крыжа!*
*Голас не вырваць, не знесці —*
*Ён у паветры звініць —*
*Ладзіць судумнае шэсце,*
*Гучнасць дае цішыні.*
*Памяць, ты — Богапрычына*
*Ў сэрцах людзей і краін —*
*Бачыць, як зорку, Айчыну!*
*І ў жываслове сваім!*
*Памяць жывая Айчыны,*
*З болю душы і крыві,*
*Тая, што зла не прычыніць,*
*У жываслове жыві!*
*Памяць — не з дзёрну абгортка,*
*Кропка на вечнай мяжы.*
*Памяць не зробіцца мёртвай*
*Там, дзе ў ёй — Памятны Крыж.*
*Дадзены зоры былі нам —*
*Бог для жыцця падарыў.*
*Памяць, успыхні ў хвіліну*
*Самай адказнай пары!*

## Ці выйдзем?..

***Пасля дзеі 4 красавіка 2019 года ў Курапатах***

*Памяць жывых, злякніся!*
*Кажуць, што сотні тысяч...*
*Што мала зямлі — прыкрыць...*
*Калі й дзясяткі, калі*
*Ляжаць у гэтай зямлі,*
*Дык кожнаму трэба крыж.*
*...Быў на той свет паток:*
*Бралі проста людзей.*
*Няважна, каго і дзе.*
*Заносілі не ў квіток...*
*Няважна, што ні за што.*
*Быў на той свет паток.*
*Кажуць, што па начах...*
*Бралі й таго, хто маўчаў —*
*Хто на каго не данёс.*
*Жыццё іх усіх — пад знос.*
*...Няўжо й цяпер, як было,*
*Ёсць звар'яцелае зло —*
*Таму вар'яцтву радня?*
*Яно ўсё схапіла — жыць.*
*І нават там, дзе — крыжы.*
*Не ў ноч там — на старце дня —*
*Крыжы з магіл вырывае.*
*Людзі, бяда якая!*
*Ці выйдзем мы маналітна*
*Хоць на святую малітву?*
*Супраць з'явы звыроднай?*
*Ці станем смела і годна?*
*Ці скажам: "Бяда якая!*
*З магіл крыжы вырываюць".*
*Ці выйдзем?!.*

## Родную на незалежны шчыт

*Мовы разнароўныя на свеце.*
*Родная — паветра для крыла*
*У прасторы думнай у паэце.*
*З роднай я — у квецені пчала.*
*Першая мая ад каранёў!*
*За цябе мой моліцца Анёл.*
*Мовы разнароўныя на свеце —*
*Сувязны агеньчык не тушу, —*
*Але, як свая — у тым суквецці,*
*Дык чужую чую праз душу.*
*Нібы і яна — ад салаўя.*
*З роду ж салаўінага — мая.*
*Дык выток паэзіі адзіны:*
*З мовы сэрца (цёк душы на ёй).*
*Будзеш на якой грамадзянінам?*
*Дык паэтам — толькі на сваёй.*
*Родавую мову — у працяг!*
*Каб не знікнуць з полымя жыцця.*
*Веру — мовы маюць багаполе.*
*І, каб душы не забіла суш,*
*Сёння зберагайма, як ніколі,*
*Сувязную беларускіх душ!*
*Раніцай, выходзячы з начы,*
*Родную — на незалежны шчыт!*

# Цень і запалка



Фелікс БАТОРЫН

## А трэцяй ночы

*У павуціінні цюлю*
*Павук даспелай поўні.*
*Гардзіну мы адтулім —*
*І замаўчым раптоўна.*

*Без за́смужы ваконнай,*
*Без пожадзі гаморнай*
*Мы з вышыні балконнай*
*Агледзім горад зорны.*

*Між каляровых зорак*
*Рэклам і светлафораў*
*Начны салодкі морак*
*Смыленне студзіць зморы.*

*Ні спрэчак, ні сутычак,*
*Ні марнай штурханіны;*
*І зрэдку жменькай znічак*
*Праносяцца машыны.*

## Цень

*Вечар глыбее, гусцее туман.*
*Тройчы пракрумкаў у змроку груган.*
*Раптам са змроку, змрачнейшы за змрок,*
*Цень паўстае за які-небудзь крок.*
*Хто ты, скажы, неразгледлівы цень,*
*Што ад живое душы ты схацеў?*
*І прагуло ў апраметнай глушы:*
*"Я тут не бачу живое душы!*
*Той, хто забыўся, як маці пяе,*
*Мову яе і наказы яе,*
*Тупа маўчыць на пагарду ў адказ,*
*Лезе пешчом пад чужынскі абцас,*
*Выгаду круціць адну ў галаве, —*
*Целам жывы, а душой не жыве!"*
*Чорная ноч па прасцягу ідзе.*
*Ціха і глуха. Нікога нідзе.*

## Запалка

*Ударыла блізка маланка — і выбіла пробкі.*
*І цемра густая напоўніла раптам пакой.*
*І я разгубіўся, ды быў гэты момант кароткі:*
*Запалка працягнута мне дружалюбнай рукой.*

*Без гучных прамоваў, без ка́зані пафасна-палкай,*
*Без ісцін грымотных — хоць іх у скрыжалі ўпішы, —*
*Ціхмяны і сціплы мой сябар, ты мне як запалка,*
*Калі раптам зробіцца цёмна і страшна ў душы.*

*Я чыркну запалкай. Ажно да апечаных пальцаў*
*Яна мне свяціцьме ў блуканнях па цёмных кутах.*
*А потым упарта я ў памяці буду капацца,*
*Каб вобмацкам вызначыць свой мудрагелісты шлях.*
*Маленькі кавалачак дрэва і кропелька серы,*
*Хвілінная сонца, ратунак у змроку зямным,*
*Я веру ў цябе, калі ў іншае болей не веру,*
*Калі пагасаюць свяцілы адно за адным.*

***

*Дабраслаўлёны Ты, Гасподзь, наш Бог*
*І Вызваляльнік звязаных! — і з гэтым*
*Бяздзейнасці пакіну я астрог*
*І безнадзейнасці глухое гета.*

*І повен плёну будзе доўгі дзень,*
*Імклівы дзень — як век альбо хвіліна.*
*Зламлюся дрэвам я, і стлее пень,*
*І стану глінай, і паўстану з гліны.*

## Там

*Там сіні — бездань, дзіўных кветак — мора*
*І водары вядзьмарскія цякуць.*
*Там па лясах палаюць мухаморы,*
*Бязмоўна тоўч камарыкі таўкуць.*

*Там у лясах схаваныя крыніцы*
*Збягаюцца да спеўнае ракі.*
*Там ходзяць па палянах чараўніцы*
*І вяжуць зёлак пахкія пукі.*

*Там казкі, пераблытаныя з явай,*
*З глыбінь спрадвечных жывяць карані.*
*Там рэчаіснасць робіцца яскравай*
*І доўжыцца стагоддзі, а не дні.*

***

*Ліпень мерыўся са жніўнем*
*І малінай, і грыбамі,*
*Усміхаўся так наіўна*
*Ён дзіцячымі губамі.*

*З неабачна шчодрай жмені*
*Раздаваў свае ён дзівы,*
*Вераб'ёў карміў ячменем,*
*Што ўжо быў цяжарны півам.*

*Ліпень скончыўся знянацку,*
*Жнівень свой канец пазначыў.*
*Хлапчуком, што страціў цацку,*
*Я стаю і ледзь не плачу.*

## Пошукі і знаходкі

*Шукаў сяброў — знаходзіў сябрукоў.*
*Шукаў супольнікаў — знаходзіў сабутэльнікаў.*
*Шукаў разумных — знаходзіў разумнікаў.*
*Шукаў спагады — знаходзіў пагарду.*
*Так і шукаю.*
*Так і знаходжу.*

***

*Мы мелі хвіліну і ў тую хвіліну маглі*
*Змясціць усю слодыч, што прагу натоліць зямлі.*

*Мы мелі гады, у якіх бракавала хвілін*
*І нечага йшчэ, што не здольна прыйсці ва ўспамін.*

*Мы ведалі вернасць, што горшай бывала ад здрад.*
*Мы мелі набыткі, што нам не папоўнілі страт.*

*І вось на мяжы, за якую мы мусім пайсці,*
*Так хочацца жыць, як ніколі дасюль у жыцці.*

# Прыгоды барона Мюнхгаўзэна ў Любліне



Збігнеў УЛАДЗІМЕЖ ФРОНЧАК

**Прыгоды барона Мюнхгаўзэна вядомыя ва ўсім свеце. Любельскія ж прыгоды барона — як ні дзіўна — пакрыў пыл забыцця. Шырока вядомы авантурыст, фантазёр і апавядальнік з толькі яму вядомай мэтай накіраваўся ў Пецярбург, калі на яго шляху — я агалошваю паданне — апынуўся Люблін. Трэба ведаць, што барон не з'яўляецца фіктыўнай постаццю, Мюнхгаўзэн існаваў насамрэч! І на Быстрыцы затрымаўся ажно на два месяцы! Было гэта ў 1737 годзе.**

Завітаў ён у карчму «Рымскі падворак», дзе ўсю ноч і ўвесь дзень было шматлюдна і шумна. Бывалі тут госці з усяго свету, распавядалі, што бачылі ў далёкіх краінах, ім жа ў адказ распісвалі пра дзівы Любліна. Наслухаўся ён гісторыяў пра любельскія цуды і неверагодныя здарэнні. Бо меў Люблін славутых на ўвесь свет асілкаў, канатаходцаў, гульцоў, паляўнічых, рыбакоў, веселуноў, дрэсіроўшчыкаў мядзведзяў, заводчыкаў хартоў і сокалаў. А яшчэ былі непараўнальныя казачнікі. І пачуў ён ад аднаго з іх, што ў ваколіцах горада можна паляваць на жырафаў. Але лепш за ўсё ўначы. Бо ўдзень гэтыя жывёлы, хоць і вялікія, бездакорна хаваюцца ў лясных гушчарах. Барон, паляўнічы, якіх у свеце няшмат, зацікавіўся таямнічымі жырафамі. Таксама зацікавіўся і сакольнікамі, бо паводле апавядальніка, сокалы мусяць быць незаменнымі ў высочванні жырафаў. На світанку наступнага дня стаяў барон на падворку аднаго з сакольнікаў.

Гаспадар ветліва павітаў госця і з гонарам заявіў:

— Мае сокалы цудоўна пасказалі сябе ў князя Радзівіла, а князь Сапега сцвярджае, што яны лепшыя ў свеце.

— Самыя лепшыя ў свеце?! — зацікавіўся барон-купец.

— Паводле князя Сапегі — найлепшыя! — пацвердзіў сакольнік. — А князь Сапега калі штосьці скажа, гэта святое!

Госць, у знак згоды з гэтым меркаваннем, кіўнуў галавою. Агледзеў падворак і запатрабаваў, каб яму неадкладна прадставілі вышкаленых птушак. Падышлі да першай клеткі. Барон пільна агледзеў сокала, які знерухомеў на сухім дубовым суку. Ацаніў яго пер'е, крылы, памеры, позірк, і праз нейкі час падышоў да другога — прыглядзецца да ягоных кіпцюроў і дзюбы, трэцяга паторкаў саломінкаю, наступнага хацеў падражніць, імітуючы гукі галубінага буркавання. Урэшце заявіў:

— Хачу сокала, які б здолеў несці ў дзюбе ліхтар!

— Як-як? — вырвалася ў заводчыка.

— Больш за ўсё я люблю начное паляванне! — далікатна растлумачыў барон патрэбу мець птаха, здольнага рассеяць начны змрок.

Сакольнік быў знаўцам не толькі птушак, але і людзей. Ён ведаў, што калі хоча зарабіць, капрызы багацеяў трэба выконваць. Не мінула і трох тыдняў, як паляўнічы з далёкага краю стаў уладальнікам сокала, здольнага трымаць у дзюбе ліхтар. Сакольнік атрымаў тры кавалкі золата, якія барон выйграў у карты папярэдняй ноччу ў «Рымскім падворку».

І можна было выпраўляцца на начное паляванне!

Калі змрок атуліў зямлю, барон закінуў за спіну стрэльбу, насунуў на руку скураную пальчатку, у якую ўчапіўся кіпцюрамі сокал, другой рукой ухапіў ліхтар — і рушыў на лугі, што па берагах Быстрыцы. Каля ракі запаліў ліхтар, уціснуў яго ў дзюбу птаха і загадаў: «Давай, браток, пакажы сябе добра, ну-тка... адшукай хуценька, выяві якога-небудзь жырафавага прадстаўніка!»

Сокал з запаленым ліхтаром падняўся над лугамі і павольна паляцеў да лесу. Ліхтар, быццам узыходзячае сонца, перапыніў сон чародкі фазаноў. Сарваўся адзін фазан, узляцеў за ім, цяжка б'ючы крыламі, другі. Барон у гэты момант забыўся, што ён тут палюе на жырафаў; узбуджаны паляўнічымі эмоцыямі, схапіў стрэльбу і пальнуў па фазанах раз, другі і трэці. І кожны раз мазаў, бо — што тут казаць — не быў ён такім майстэрскім стралком, якім хацеў здавацца. Стрэлы пракаціліся працяглым рэхам, з хваёвага пералеску істэрычна сарвалася з начлегу зграя варон, спалоханы сокал выпусціў ліхтар, які ўпаў на стог.

Стог загарэўся, з яго, пылаючага, выскачылі некалькі разамлелых пастухоў. Начамі на лугах пасвілі коней, пастухі іх спутвалі, а самі клаліся ў сена спаць. Раз'юшаныя маладзёны з вялікім спрытам і лютасцю пералічылі няўдаламу паляўнічаму скабы, і наступныя тры тыдні ён ляжаў у кляштары брыгітак.

У час кляштарнай рэабілітацыі барон пазнаёміўся з прыёрам і яшчэ з дзвюма паненкамі, якія рыхтаваліся да манаскага пастрыжэння, а таксама з начным вартаўнікам, які пры бліжэйшых кантактах аказаўся незвычайным філосафам! Вось гэты вартаўнік, чалавек, знаёмы з усімі людзьмі ў горадзе, а таксама з усімі мясцовымі і навакольнымі духамі, распавёў барону, што паблізу Любліна жыве слынны заводчык хартоў. Слухач не хаваў сваёй зацікаўленасці, і па заканчэнні лекавання свае першыя крокі скіраваў да ўласніка псярні.

У клетках сядзелі харты, а горды дрэсіроўшчык расхвальваў іх хуткасць і вынослівасць у час скачкаў.

— Пане княжа Патоцкі замовіў сто такіх басурманаў, а княжа Любамірскі, які не мог быць горшым за князя Патоцкага, сто і яшчэ пяць басалыкаў! — з гонарам казаў ён.

— Я вазьму аднаго, але такога, які быў бы лепшым за сто басурманаў князя Патоцкага і за сто пяць басалыкаў князя Любамірскага!

— А чым ён мае быць лепшым?! — лагодна пацікавіўся заводчык.

— Я б хацеў, каб ён насіў на хвасце ліхтар!

— А навошта, ласкавы пане, гэтакі навык? — ветліва спытаў гаспадар псярні.

— Я надзвычай люблю начныя паляванні на жырафаў, — патлумачыў барон.

— Я маю такога на прыкмеце, які справіцца і з гэтай задачай! — нязменным ветлівым тонам заявіў уласнік.

І такога сабаку барон атрымаў. Назваў яго Фрыцам. Мемуарысты не занатавалі, ці аказваў Фрыц, які насіў на хвасце ліхтар, якуюсьці дапамогу ў начных паляваннях на жырафаў з любельскіх лясоў. Але вядома, што ў час лячэння ў любельскім кляштары барон паклаў вока на адну з дзвюх дзевак... І заможная, светлавалосая паненка, што паходзіла з Лівоніі, а ў Любліне неўзабаве павінна была павялічыць колькасць манашак, не засталася абыякавай да барона.

Барон пакінуў Люблін, але не адзін! Вёз з Любліна паненку, але не ў Пецярбург, куды збіраўся дабрацца, а ў Латвію, у яе радзімыя старонкі і ўладанні.

Яны жылі доўга і шчасна. У Латвіі праславіўся вышкалены ў Любліне хорт. У латышскіх лясах і на латышскіх пашах барон не шукаў ужо жырафаў, што кормяцца начамі, але часта — на радасць паляўнічаму брацтву — на хвост свайго харта вешаў ліхтар. Слава сабакі, вышкаленага любельскім заводчыкам, жыве і па сёння. Пару гадоў таму латышы выбілі срэбную манету, на аверсе якой хорт размахвае хвастом з пачэпленым на ім ліхтаром. Хуценька дададзім: гэта хорт Фрыц, навучаны ў Любліне.

**Пераклаў з польскай мовы Павел Ляхновіч**

# Паміж Купаю і Кабыльнікам



Сяржук СЫС

## Падарожныя экспрэсіі

Напачатку сакавіка мяне чамусьці заўсёды цягне да вады. Ад дняпроўскіх разліваў дзяцінства пачалося, ці што? А можа, падсвядома спрабую ачысціцца пасля доўгай зімы? Ці проста хочацца пабыць аднаму, прыпыніць хаос думак, суцішыцца...

Ды і шал натхнення ў мяне абвастраецца менавіта з пачаткам вясны.

Вось і не змог супакоіць сверб душы, паімчаўся на дзясятак дзён на Нарач. Зняў невялікую кватэрку ў курортным пасёлку Нарач (Купа) і пачаў з асалодай вывучаць наваколле і тутэйшых людзей.

У першы дзень па прыездзе пайшоў у вёску Нарач. Праўда, амаль усе тут называюць вёску Кабыльнікам. Ды і на вёску той Кабыльнік не зусім падобны, хутчэй на мястэчка: кірмашыкі, крамкі, царква, велічны касцёл... і гэткія ж велічныя руіны пабудовы савецкага часу.

Калі вяртаўся назад, запытаў у дзяўчат, ці ёсць нейкі карацейшы шлях да курортнага пасёлка, бо затаміліся мае гарадскія ногі.

— Дык вам да Купы?

— Так, да Купы, — адказваю.

А сам думаю, вось жа якое слова прыдумалі, каб КП (курортны пасёлак) Нарач называць. Натупным днём прадавачка ў крамцы «Нарачанская рыба» патлумачыла, што Купа — гэта не КП, а старая назва курортнага пасёлка... Раней на гэтым месцы існавала вёска з такой назвай...

Стаміўшыся пад дробным няспынным дажджом блукаць даўгімі вулічкамі Кабыльніка, пайшоў да крамы, каля якой стаялі аўтобусікі. Праз 10 хвілінаў адзін з іх збіраўся ад'язджаць якраз у бок Купы.

У салоне мясцовая кабета запыталася ў мяне па-беларуску:

— Відаць, спадабаўся Вам наш Кабыльнік?

— Так, але чаму вы так падумалі?

— Дык трэці раз запар бачу вас тут!

Мярзотная імжыстая раніца. Дашнік размаўляе па тэлефоне на перакрыкванні:

— Ну ты і дурніца! Ніякага каранавіруса ў нас тут ніколі не будзе, гэта там у Мінску паніка. І бегаць па прадукты няма чаго...

На хвіліну пераключаю ўвагу на мяне.

— У Мядзел? Так, Мядзел у тым баку, але трэба табе кіравацца ў адваротны, вунь, на аўтавакзал, бо не дойдзеш сам.

Потым ужо зразумеў, што да Мядзела адтуль было 17 кіламетраў.

Можа б і дайшоў, але ці вярнуўся б назад у Купу?

Па пятніцах недзе на ўскрайку Кабыльніка збіраюцца кірмашы. Запытаўся ў мясцовых дарогу.

Распавялі і папярэдзілі, што трэба выбірацца на кірмаш вельмі рана, маўляў, там у дзесяць раніцы няма ўжо чаго рабіць...

Прачнуўся, натуральна, у шэсць і пайшоў. Туман быў такі, што й за 20 метраў нічога не ўбачыш... Праз нейкі час пачуў гаману: шуміць кірмаш.

І недзе ў гэтым тумане раптам:

— А чаму вашае сала не салёнае?

— Дык толькі ўчора кабана закалоў, калі было саліць, на кірмаш жа спяшаўся...

У Кабыльніку запытваюся ў мажнай кабеты:

— Як дабрацца да могілак?

— А які вам магільнік трэба, тут у нас іх шмат: каталіцкія альбо праваслаўныя, ці, можа, габрэйскія?

— Ну сучасныя, відаць, там, дзе цяпер хаваюць.

Удакладняю, мабыць, праваслаўныя...

Падказала накірунак.

Менавіта туды я ў першую чаргу і выбіраўся — знайсці магілу свайго знаёмца, цікавага паэта, які выдаў на трасянцы кнігу вершаў «Пішчавыя лішкі», Ярылу Пшанічнага. Многія яго ведаюць як музыку і перформера Вову Банкера.

І вось сціплы помнік з каляровым фотаздымкам "Владимир Банько".

Праз месяц, 19 красавіка, спаўняецца 5 гадоў, як ён раптоўна памёр на гэтых самых могілках, перад Вялікднём, калі прыбіраў пахаванні дзядулі і бабулі... Казалі, што адарваўся тромб...

7 сакавіка тэлефаную ранкам у Мінск, хвалююся, ці пасадзіла жонка на нарачанскую маршрутку дачку Стасю, ці не праспалі хоць?

А ў адказ нечакана чую:

— Усё нармалёва, мы ўжо едзем!

Як едзем? Павінна ж дачка адна быць? А гаспадарку хто будзе даглядаць, крысёныша ды ката?

Пабег хутчэй на кірмашык, да возера: а раптам якой нарачанскай рыбіцы знайду, каб частавацца гасцей было чым. Уразіўся коштам вэнджанага вугра: 84 рублі за кілаграм. Задумаўся на хвіліну — і нібыта ўжо наеўся. Аднак прыхапіў некалькі акунёчкаў...

Раніцай над ціхаю Нараччу птушыны гвалт і мітусня несусветная: некалькі «санаторных», як тут кажуць, кормяць батонамі шумлівае птаства, нягледзячы на надпісы не рабіць гэтага.

Рохкаюць лебедзі, равуць чайкі, крэкаюць у чаратах лысухі.

Чайкі пікіруюць на лебядзёў адразу па трое-чацвёра і адбіраюць здабычу, а потым усчынаюць бойкі паміж сабой.

Ад'язджаючы з Купы, сустрэў дзвюх «санаторных» эстонак, якія запыталіся дарогу да крамаў. Я перапытаў, што менавіта іх цікавіць? «Мілавіца», «Беларускі лён» ці чырвоная ікра на зніжцы ў 50 адсоткаў.

«Цудоўна, што патрапіў сюды ў міжсезонне», — задаволена падумаў я і з'ехаў у Мінск.

# З цыкла «Маністы»



Цін УЕВІЧ
(1891–1955)

### *** (IV)

*Пах валасоў належыць гэтай прыгажосці,*
*у вуснах ейных — спрэс салодкія падманы,*
*і рукі ўздрыгваюць яе, і палымяна*
*вачэй палаюць сэрцы ў бездані мілосці.*

*Мяне бянтэжаць звабна яе рухі, ў млосці*
*я ад плячэй яе, макрэю аж заганна,*
*і бляск зіхоткі захапляе нястрымана*
*ад порсткай плыні нечаканага чагосьці.*

*Я ненавіджу цемру й глыб яе пагляду,*
*я падаю, зачараваны, ёй у ногі,*
*да цела-алтара, дзе поўзаю я ў пыле.*

*Прамаці Евы ўнучка,*
*тут твайго загаду,*
*жанчына боская, Адам чакае ўбогі,*
*што любіць і ўцячы хацеў бы ў кожнай хвілі…*

### *** (V)

*З глыбіняў чарната йдзе гэтых словаў,*
*і чуюцца ледзь песняў сталых гукі:*
*— Яны нібыта вымкнулі са схову*
*і сёння вось — працягваюць нам рукі.*

*Калі я не паэт, а перажыў шмат бедаў,*
*і боль ад ранаў мой цнатлівы й чысты.*
*Бо кожны енк, як ювелір, я ўведаў,*
*са слёз сваіх я вырабіў маністы.*

*— І большай зробіцца каштоўнасць тая*
*за словы, ўздыхі песняра любыя,*
*калі аднойчы, о дзяўчына дарагая,*
*мае маністы вам аздобяць шыю.*

### *** (XIII)

*Бо ты прыйшла з другога боку свету*
*праз жахі сіняга заўсёды акіяна;*
*два сэрцы нашы, два бутоны кветү*
*абнялі голаў у Левіяфана.*

*Праз гэты рытм сусветнае каханне*
*і музыка кіруюць сфер блакітам,*
*у нашых душах мы не перастанем*
*паўшар'і абдымаць з імпэтам скрытым.*

*З каронаю зіхценнем, з размарынам,*
*хоць ты спазнілася на паўгадзіны,*
*знайшла б ты ложа, у якім, адзіным,*
*мне сэрца белізну аддаць павінна.*

### *** (XXV)

*Ці буду я калі пачуты,*
*што перад Богам наракаю?*
*Плоць творыць у душы пакуты,*
*дзеля жанчыны я канаю.*

*Не, каб застацца мне пад колбай —*
*я ў свет пайшоў хлапцом нявінным,*
*і вось — у пекле мне аздобай*
*на галаве стаў цёрн з палынам.*

*Ад слёз мае ўзмакрэлі веі —*
*я спадзяюся ў засмучэнні*
*жыццю і свету, і надзеі*
*сказаць адно: "Да пабачэння!"*

### *** (XXX)

*Галінку зелені з тугою жаўтаплода*
*у нейкім садзе Спліта я прымрою,*
*пакуль душа начуе й аваладваць*
*зноў вільгаць сноў пачне маёй душою;*

*Ды жарсць трапеча птушанём*
*безабаронным,*
*як спеў блакітны, спынены раптоўна,*
*як бляклась кола з безнадзейным конам,*
*як на дарозе той жабрак вандроўны.*

*Мілосць дранцвее над раскіслым долам,*
*душа распалася на сем часцінак,*
*пад мечам кожным толькі стогне полым,*
*на дыху — глыба мармуру; усё, прыпынак!*

*Мой меркне клёк, святло ледзь*
*пазнавальна…*
*Мой мозг да роспачнага блізкі скоку;*
*Жанчына-чужаземка, спачувальны*
*майму твой позірк толькі й блісне зморку.*

### *** (XLIII)

*Начная ціша, малако спакою*
*на змоўклым вечаровым Манпарнасе;*
*прароча павітаю Вас рукою*
*ад сэрца ў сумным і містычным часе.*

*І, можа, вернецца яшчэ знянацку*
*памерлай веры ды надзей шкадоба;*
*ўспамін балючы, з залатога бляску*
*якога пах ідзе сухога боба.*

*Мне ўява маніць соладка — шапоча*
*пра радасць, спадзяванні дня, што будзе,*
*дзе росны ранак быць ярмом не хоча —*
*а каменем у велічнай спарудзе.*

*Алей Святога Духа мне не трэба:*
*не згіну я ад сушы небяспечнай,*
*калі мець захачу скарынку хлеба*
*у новым богу і ў душы адвечнай.*

**Пераклаў з харвацкай**
**Лявон Баршчэўскі**

# Апошні аўтобус



Назым ХІКМЕТ
(1902–1963)

### Стронцый-90

*Надвор'е здзіўляе бясконца:*
*то дождж, то снег, то сонца.*
*Кажуць: атамнай бомбы*
*выпрабаванні, і пáдае стронцый*
*на мяса, хлеб жытні, шэры,*
*на волю, жыццё ў даверы,*
*на дом, дзе адчынены дзверы.*
*Цяпер нас, мілая, гоніць імпэт:*
*ці сыдзем з жыццём да далёкіх планет,*
*ці смерць прызямліцца ў наш свет.*

### Канцэрт до-мажор Себасцьяна Баха

*Вінаграднік восеньскім ранкам,*
*гнуткіх лоз адной за адной паўтор,*
*гронак на лозах не палічыць,*
*гронкі за радам рад,*
*ягад у гронках шмат,*
*спрэс ззяе вінаград.*

*Белы-белы вялізны дом,*
*ноччу ў ім паўтор акон,*
*ды па-рознаму ззяюць яны.*
*Паўтараецца дождж праліўны:*
*залівае марскі абшар,*
*залівае дашчэнту зямлю,*
*шыбы, вочы, рукі ды твар.*

*Маé адзін за адным*
*усе паўтараюцца дні,*
*хоць яны непадобныя ўсе.*

*І спляцення лозаў паўтор,*
*і нябесная руху зор,*
*і паўтор ва ўсіх мовах слова "люблю",*
*і паўтор галінак, лісткоў раслін,*
*і ўсіх жыццяў, якія завершыць скон.*

*Зноў паўтор — як падае снег:*
*ці ён будзе дробны — паўтор,*
*ці шматкамі пойдзе — паўтор,*
*ці завеяй стане — паўтор,*
*ці пад ногі яго пагоніць віхор*
*і дарогі засыпле — усё паўтор.*

*Дзеці гойсаюць на дварэ,*
*дзеці прабягаюць праз двор,*
*там старая ўздоўж вуліцы ідзе,*
*ўздоўжкі вуліцы йдзе старая там,*
*там старая йдзе па вуліцы, ўздоўж.*

*Белы-белы вялізны дом,*
*ноччу ў ім паўтор акон,*
*ды па-рознаму ззяюць яны.*

*Ягад у гронках шмат,*
*спрэс ззяе вінаград.*

*Наперад ісці, выбіраць слушны шлях,*
*рашуча ісці да праўды й да дабра*
*і праўду, і дабро ўвесь час здабываць.*

*Твае слёзы й сум, дарагая мая,*
*плач і смех твой нястрымны, дарагая мая,*
*белазубага светлага смеху паўтор.*

*Вінаградннк восеньскім ранкам,*
*гнуткіх лоз адной за адной паўтор,*
*гронак на лозах не палічыць,*
*гронкі за радам рад,*
*ягад у гронках шмат,*
*спрэс ззяе вінаград,*
*я ззянню бязмежна рад.*
*Паўтор, дарагая, адметны тым,*
*што нішто не паўтараецца ў ім!*

### Апошні аўтобус

*Апошні аўтобус начной язды.*
*Кандуктар білет парваў.*
*І дома няма кепскіх навін,*
*пачостак ці нейкіх спраў.*
*Там будзе расстанне,*
*без страху, без смутку еду туды.*
*Мяне ахінае цяпер неабдымны змрок,*
*і я свет разглядаю і збоку, і здалёк.*
*Нізвання падступства сябра ўжо й не дзівіць мяне,*
*калі ў руках нож ён сцісне,*
*а потым мне ў спіну ўваткне.*
*Мяне не застрашыць вораг*
*ніякі ўжо, аднак:*
*сякерай я прабіўся праз лес*
*фальшывых бажкоў:*
*адразу зваліць іх долу не ўдасца проста так.*
*На веру былую зірнуў я крытычна,*
*і я цяпер вольны зноў.*
*Мяне ахінае цяпер неабдымны змрок,*
*і я свет разглядаю і збоку, і здалёк.*
*Зірну — мінулае прамільгне,*
*і вось, спяшаюцца да мяне*
*гучанне слоў*
*і пах,*
*і ўзмах рукі:*
*слова прыязнае,*
*пах прыемны,*
*годны ўзмах,*
*я на ўспамінаў далёкіх*
*не наракаю працяг:*
*зрабіўся лагодны такі,*
*больш не наракаю на сэрца,*
*хоць ные яно, як вялізны зуб.*
*Мяне ахінае цяпер неабдымны змрок,*
*і што мне чыноўнікаў розных пыха,*
*інтрыгі мне тыя на ліха?*
*Сабе лью святло на галаву,*
*гляджу на сонца здалёк*
*і ўжо не аслеплы жыву,*
*цвярозa ацэньваю кожны крок.*
*На жаль ці не,*
*ды найпрыгажэйшай хлусні*
*мяне ўжо не звесці ані.*
*О так, мая ружачка, так:*
*смерць блізка, яна падаé мне знак.*
*Свет стаў прыгажэйшы, чым быў калі,*
*Свет быў мне апраткай, уборам,*
*скідаю я іх цяпер.*
*Быў я ў імклівым вагоне акном —*
*на станцыі я цяпер.*
*У сценах трымаў мяне дом —*
*цяпер за дзвярыма шмат волі,*
*цяпер я ахвотней бачу гасцей,*
*і снег, як ніколі, глядзіцца чысцей,*
*і сквар залаты, як ніколі.*

### Дзве мілосці

*Дзве мілосці ў сэрцы не могуць быць адным*
*Хлусня*
*Могуць быць.*
*Вечар холад у горадзе дождж*
*Я ў сваім гатэлі ляжу*
*гляджу ўгару на столь*
*па ёй хмары павольна паўзуць*



*нібы тыя грузавікі*
*цераз мокры асфальт*
*Праваруч высокі*
*можа на сто паверхаў дом*
*залатая іголка ўгары*
*над будынінай белай зіхціць.*
*Хмары перасякаюць столь*
*поўныя сонца, як чаўны кавуноў*
*Я сяджу ля вакна*
*бляск вады б'е мне ў твар —*
*мора гэта або рака?*
*Чаго поўна на гэтым латку*
*побач з ружамі — лясных суніц*
*або шаўкоўніц чорных як смоль?*
*Ці ў мяне тут побач луг*
*ці пад снегам бярозавы гай?*
*Жанчыны, якіх я люблю,*
*смяюцца і плачуць*
*на мовах двюх.*
*Каханыя, што звяло вас тут?*
*Вы не ведаеце адна аднае.*
*Дзе вы чакаеце мяне —*
*у кавярні "Платан"*
*на стамбульскай плошчы Баязіт*
*ці ў парку Горкага ў Маскве?*
*Вечар холад у горадзе дождж*
*Я ў сваім гатэлі ляжу*
*мае вочы расплюшчаныя гарачь.*
*Музыка недзе гучыць*
*гармонік і лютня. Туга мая*
*па двух гарадах ураз.*
*Каб з ложка ўскочыць і паляцець*
*пад дождж наўпрост*
*туды, дзе вакзал.*
*Каб ускочыць з ложка*
*пабегчы праз дождж*
*да вакзала, прамовіць ледзь-ледзь:*
*"Гэй, машыніст, браток,*
*завязі мяне туды!"*
*"А куды?"*

**Пераклаў з турэцкай Лявон Баршчэўскі**

# «Адзіны на зямлі»

## Пра перапіску Яўгеніі Янішчыц і Сяргея Панізніка

Тамара АЎСЯННІКАВА

**У часе падрыхтоўкі лістоў да выдання «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі» высветлілася многа цікавага з жыцця паэткі. Самы вялікі эпісталярный захаваўся з Сяргеем Панізнікам — 72 лісты, якія ён перадаў сыну, а сын — нам, укладальнікам выдання, мне і Святлане Калядка. Ліставанне ахоплівае перыяд з 1965 па 1975 гады. Лістоў С. Панізніка да Я. Янішчыц захавалася толькі 5, а якімі яны былі, мы можам здагадвацца, чытаючы лісты Я. Янішчыц.**

Была цудоўная мара ў С. Панізніка: напісаць удваіх кнігу. Рукапісны твор яны не стварылі, але зрабілі большае — нарадзіўся сын Андрэй...

Першы да Сяргея ліст, які мы маем, напісаны 10 жніўня 1965 года. У ім Жэня звяртаецца да Сяргея на «Вы»: *«Атрымала Ваш ліст, за які шчыра ўдзячна. Сяргей, нядаўна я Вам адправіла пісьмо. Напэўна, Вы яго ўжо атрымалі»*. Значыць, пісем было больш. Тут жа верш, у якім адкрыта, непасрэдна і шчыра Жэня прызнаецца Сяргею ў каханні:

*Адплыў учора лёгкі вецер,*
*І ты адплыў, даўно адплыў.*
*А сэрца б'ецца, сэрца верыць,*
*Што ты адзіны на зямлі.*

Жэня адрасуе гэтыя радкі таму загадкаваму паэту, які і сам, магчыма, да канца не разумеў, чаму ён паехаў на сустрэчу з палескай дзяўчынкай, нягледзячы на тое, што ва ўспамінах піша, што хацеў «убачыць гэтага незвычайнага самародка».

Напачатку яны размінуліся. Жэня ехала аўтобусам з Рудкі ў Парэчча, а Сяргей пяшком ішоў з Парэчча ў Рудку. І вось сустрэча адбылася. С. Панізнік піша: *«Раптам убягае ў хату дзяўчынка. Спытаў спачатку, агаломшаны: «Жэня?». Адказвае: «Так!». Знаёмлюся: «Панізнік...»*.

*Такая жывая, па-добраму смешная дзяўчынка стаяла перада мною. Нават не верылася, што гэта яна, Жэня, можа пісаць такія кранальныя вершы.*

*Вясёлая! І гаворка вясёлая між намі не спынялася»*.

Дваццаціпрохгадовы малады чалавек, высокі, прыгожы, разумны, курсант факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА і ВМФ, паэт, у якога вось-вось кніжка павінна выйсці, для вясковай дзяўчынкі, якая марыла таксама стаць паэтам, якую нават родная маці не лічыла прыгожай, такі госць быў казачным цудам.

«Цаны» сабе Жэня яшчэ не ведала. І вось яе, шаснаццацігадовую вясковую летуценніцу, захліснула хваля пачуцця, такога чаканага і такога хвалюючага! Усе заканы ствараюць ідэальны вобраз свайго абранніка. А тут як быццам нічога і прыдумваць не трэба. Вось ЁН — той адзіны, любы, мілы!

І пачалася перапіска — з радасцю і трывогамі, з надзеяй і расчараваннямі: «Ішла ў твае лета, // Ішла ў тваю восень. // Па спелых ранетах, // Па травах росных...», «Рукой махну на ўсё // І не паверу — // Ты мне ўсміхнуўся, // Адкрыўшы дзверы» (ліст ад 16.05.1966).

Даволі працяглы час Жэня звярталася да Сяргея стрымана: «Добры дзень, Сяргей!». Падпісвалася проста: «Жэня, Ясяльдзянка, Я і Ясельда, Аўгіння». Гэта потым, калі Сяргей адкрыта выкажа свае адносіны і пасля шлюбу, Жэня будзе звяртацца і падпісвацца разняволена: «Твая дзяўчынка, твая Ясяльдзянка, твая навекі Аўгіння, твая бедная Аўгіння, твая жоначка, чакаю, а значыць — жыву».

30 лістапада 1966 года Жэня напіша без спадзявання на адказ: *«Дзень добры, Сяргей. Асмелілася напісаць табе ўсё-такі ліст. Не ведаю толькі, ці атрымаю адказ. Але зараз мне ўсё роўна»*. Сяргей адказаў.

У лісце ад 19 мая 1967 года чытаем: *«Добры дзень, Сяргей! Гэта ізноў я, Жэня, забытая ці без крыжа захаваная маладым беларускім паэтам Сяргеем Панізнікам...*

*Сёння ідзе дождж. Як ніколі, буйны і шумлівы. Цвітуць каштаны. У пакоі бэзавы букецік. Гэта акрыляе заўсёды і не заўсёды. У апошні час не магу жыць без пяра, без далёкіх і блізкіх слоў. Пэўна, гэта маё летуценне ці неўтаймаванае жыццё. Усё роўна. Не хапае часу на ўсё, калі нават утачыць добрую палову ночы. І тым не менш — пішацца. Пішацца ўрыўкамі паміж задуменнем і радасцю, паміж нечаканасцю і ціхім сумам»*.

Жэню перапаўнялі пачуцці, яна хвалявалася, перажывала, шукала «выйсця з адзіноты», на яе наплывала туга, «як паводка вясновая на зялёны бераг», «Сэрца птушкаю ў клетцы білася, // Адплывала ў невядомае адарваннай шхунай».

Сумняваўся, відаць, і Сяргей. Не было спачатку ў яго ніякіх планаў у адносінах да Жэні. Яму проста цікава было перапісвацца з «гэтым незвычайным самародкам». Пра сур'ёзныя адносіны не задумваўся. Хлопец ён відны, вольны, «сыты» (як кажуць у народзе) — дарослых прыхільніц хапала. А тут зусім яшчэ дзяўчо, такое шчырае, непасрэднае, так адкрыта гаворыць аб сваім пачуцці. Што рабіць маладому чалавеку?..

Дзяўчо то дзяўчо, але ж па-дарослому глядзіць на жыццё, на творчасць, на сваё прызначэнне. Калі чытаеш лісты Жэні Янішчыц, то зусім не адчуваецца, што яна на шэсць гадоў маладзейшая за Сяргея. Жэня супакойвае каханага, падтрымлівае, падбадзёрвае: *«Атрымала твой ліст, Сяргей! «Сумна і на душы, і на паперы...» Гэта не так страшна, калі гэты сум далёка ад радзімы, калі ёсць час паглыбіцца ў сэнс жыцця, у*



Вяселле Я. Янішчыц і С. Панізьніка. 19 жніўня 1971 г.

*духоўны свет сваіх адкрыццяў. Горш тым, хто ў сваёй хаце сумуе і на паперы, і ў душы. Я добра адчула гэты харошы і трывожны сум там, у Балгарыі»* (ліст ад 25.XI.1969 г.).

Страціўшы надзею на ўзаемнасць, Жэня піша: *«Так, час нас уносіць усё далей і далей. З гадамі, а то і з хвілінамі мы губляемся ў шумным кругазвароце жыцця, дзе столькі святасці, светласці, чысціні пачуццяў, усмешак і... подласці! На ўсё жыццё ўдзячна свайму дзяцінству і краю, дзе глыбінная Ясельда адвяла мне чысцюткі бераг светласці і ўліла непаўторныя хвалі свята, наіўнасці, веры і задумення. Магчыма, гэта самае галоўнае для мяне цяпер, у такім летуценным узросце.*

*З гадамі я пасталею. З сумам буду ўспамінаць свае першыя хваляванні і пісьмы, пісьмы, пісьмы... Хай яны застануцца харошым успамінам аб шчырасці і чысціні думак, аб тым, што людзі не ўмеюць крыўдаваць нават у самых трывожных абставінах.*

*Жадаю шчасця! Прабач. Аўгіння. Мінск, 28. V–1967 г.»*

У гэтым жа лісце верш:

*Калі размінуцца суджана*
*Будзе вясной ці летам,*
*Не будзе крыўды на ростань,*
*Доўгую, як стагоддзі.*
*Не будзе крыўды на пісьмы,*
*Што шчыра мяне сагравалі,*
*Як вялікае цёплае сонца.*
*Не будзе крыўды на песню,*
*Маладую і звонкую,*
*Што нам з табой прысвячалася.*
*Хіба вінавата ростань,*
*Хіба вінаваты пісьмы,*
*Песня хіба вінавата,*
*Што ціха здрадзіла сэрца?!*

Перапіска з Сяргеем Панізнікам працягваецца. Ліст ад 3 лістапада 1970 года: *«Цяпер я дома. Тут ціха і хораша. Праўда, зараз стаіць глыбокая восень, а таму на вуліцы вецер з дажджом. У такі час больш за ўсё люблю ствараць, аддавацца ўспамінам і самой прыродзе. Зараз адным вокам гляджу тэлевізар (непаўторны Пеціпа!), слухаю музыку і пішу гэты ліст. Паступова ты пачынаеш крыху праясняцца. Гэта добра. Нельга ў такі час багата аддавацца меланхоліі. Мы павінны па-сапраўднаму жыць для Белай Русі, асабліва ў гэты час, калі ўрбанізацыя наступае на горла нашай роднай песні»*.

Надзея на ўзаемнасць то ўзнікае, то страчваецца. Ліст ад 6 чэрвеня 1971 года: *«Сяргей! Атрымала ліст твой, за што шчырае дзякуй. Чацвёрты дзень збіралася, каб напісаць. Нарэшце, сабралася з усімі хваляваннямі сваімі...*

*Ты пішаш, што і зараз цяжка паверыць у ліст мой. Судзі, як хочаш, але проста так я яго не магла напісаць. Да таго ж табе, пэўна, не вядома было, як я перажывала потым, пасля твайго адказу, як хвалююся кожны раз, калі бяру ў рукі чарговае тваё пісьмо. І ўсё таму — што недаступна і тады, і зараз я іду за табой. Гэта не адчай і не прывязанасць. Гэта ў многа разоў большае. Чаму я тады паступіла так? Можа быць, таму, што насіла ў душы сваёй чыста дзіцячае свята, якое хутчэй за ўсё ідзе ад справядлівасці, ад чысціні. Я думаю, што потым ты не змог не зразумець усё гэта... Не буду пісаць, як мне цяжка і лёгка, як мне бесклапотна і трывожна, важна для мяне іншае, што жывеш ты. Мабыць, усё гэта выглядае некалькі сумбурна, прабач...»*.

Каханне Жэні было настолькі моцным, шчырым і глыбокім, што сваё сямейнае жыццё яна не ўяўляла без Панізніка, таму на заўвагі, парады родзічаў, суседзяў кідала: «Калі не за Панізніка, то ні за кога».

Якім быў наступны ліст Сяргея, мы не ведаем, але, мабыць, вельмі цёплым, бо Жэня ўпершыню звернецца да каханага «мілы» і ўпершыню ў канцы напіша: «Моцна абдымаю цябе і цалую. Твая Аўгіння. Да сустрэчы!». Вось той ліст ад 30 чэрвеня 1971 года: *«Добры дзень, мілы! Як даўно мне хацелася напісаць ці сказаць гэтае слова! Прабач, што праз дзён колькі пішу адказ. Была дома, таму твой ліст крыху спазніўся перад маім ад'ездам. Напэўна, як і ты там, я многа раз перачытвала пісьмо, каб паверыць кожнаму радку, кожнаму слову і запомніць назаўжды. <...>*

*Хачу хутчэй убачыць цябе такім, якога ўяўляла ўсе гады, такога, якога кахаю, такога, якога нікому не хочу аддаць. Вечарамі, і ноччу, і ў штодзённай мітусні — я чую твой голас і смех, бачу твае вочы і рукі і заўсёды ўспамінаю наш першы дзень сустрэчы. Не хачу ўспамінаць тыя сумныя дні, тыя шэрыя хвіліны, што былі паміж намі. Іх і не было. Была проста душэўная сумяціца, былі, можа, і нагаворы... Але з таго я зараз не хачу нічога ведаць, бо адчуваю сваю чысціню да цябе, сваю дарогу і ўсе свае ўдачы. Яшчэ восенню, да твайго прыезду, я пісала так:*

*Прыязджай. І будзе вечнасць*
*перад намі.*
*Час загладзіць і сумненні, і віну.*
*Павяду цябе зялёнымі лугамі*
*У кашулі з найтанчэйшага ільну»*.

І вось праз шэсць гадоў пасля знаёмства Жэня атрымлівае ліст, у які цяжка верылася. Цудоўны ліст, жаданы:

«3 ліпеня 1971 г.

Дарагі мой далёкі чалавек!

Кожнае слова Тваё — крок усё бліжай і бліжай...

У імя нашага кахання нам трэба быць разам, і справу нашу агульную разам рабіць. Калі прымеш мае словы, то хай неба блаславіць нас на жыццё, і каб у ім не было ані горычы, ані крыўды, ані шкадавання, ані бязвер'я. Хай хопіць мне сілы на такое жыццё, як і на рашэнне такое.

Калі, мая добрая, дасі сваю згоду (а інакш і нельга), то хачу сказаць, што мне год ці больш працаваць яшчэ тут. І табе будзе цікава — побач са мной. У дробязях — потым, а самая галоўная лінія: ці паспееш ты скласці кандыдацкія іспыты за два-тры будучыя месяцы, здаць у выдавецтва кніжку... І яшчэ: я прыеду у Саюз — то трэба справіць нашу ўрачыстасць. Я мяркую пра вяселле на урбанізацыі? Напішы, як мяркуеш.

А водпуск — той мядовы месяц — як правесці? А што, калі б здабыць маторную лодку — і ад тваёй хаты па Ясельдзе, Дняпры, потым перавал летапісны (з вараг у грэкі), потым па Дзвіне ў мора і аж да майго дому? Гэта кніга адкрыццяў была б! Ёсць другі вырыянт. У мяне на аўтамашыну грошы знойдуцца, але ці хопіць яе за месяц? СП ці дапаможа?

І калі вяселле лепш за ўсё? Мо на Спас?

Ну вось колькі ў мяне пытальнікаў. Чакаю на ўсё адказы. І толькі як найхутчэй...

Добра, Аўгінька, мая маленькая. Цалую Цябе і развітваюся — і чакаю твайго ліста. Твой Сяргей».

30 ліпеня 1971 года: *«Дзень добры, мілы! Сёння мне стала сумнавата, і я сабралася напісаць ліст табе і якраз атрымала твой. Кожны дзень жыву ў прадчуванні нашага незвычайнага свята, а ноччу доўга не магу заснуць. Увесь час перад вачыма ты — маё адзінае каханне і радасць. Сумую, што ты, напэўна, там таксама сумуеш між мітусні працы і розных спраў. І яшчэ чамусьці так марудна ідуць дні, як мне здаецца...*

*Ну вось і развітваюся, а заўтра зноў буду бегчы на пошту і патрабаваць «да запытання».*

*Абдымаю Цябе, мой адзіны, і моцна цалую. Твая Аўгіння»*.

Жэня была шчаслівай. Першая гісторыя яе вялікага кахання закончылася вяселлем, як гэта бывае ў казках. Яўгенія Янішчыц і Сяргей Панізнік пажаніліся 19 жніўня 1971 года. Жэня паехала за мужам у Чэхаславацкую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку...

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (165) | 30 траўня 2020 | № 20 (679) Новы Час

# Для свайго люду — па-беларуску!



Уладзімір АРЛОЎ

**Ёсць такое выслоўе: літаратуру не намажаш на лусту хлеба, аднак яна — самы трывалы падмурак грамадства. Але так адбываецца, калі кнігі прыходзяць да чытачоў на роднай мове. Мова — магутная сіла, якая згуртоўвае нацыю ў час цяжкіх выпрабаванняў. У другой палове XIX стагоддзя ўсё больш літаратараў разумелі гэта. Пераадольваючы шматлікія перашкоды, часам нават не называючы сваіх імёнаў, яны пачыналі пісаць па-беларуску.**

### «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат»

Надзвычай папулярнай была ананімная сатырычна-гумарыстычная паэма «Тарас на Парнасе». Палясоўшчык Тарас выпраўляецца ў пушчу паляваць на цецерукоў ды зусім неспадзявана патрапіў на Парнас — міфічную гару, дзе жылі багі, паэты і музы. Аднак на гэтай гары многае вельмі нагадвае беларускую вёску. Зеўс грэецца на печы. Багіні ў начоўках мыюць багам кашулі і порткі. Усе гавораць на сакавітай беларускай мове, а калі надыходзіць пара падсілкавацца, багіня Геба нясе на стол смачныя беларускія стравы…

Шмат чытачоў мела яшчэ адна сатырычная ананімная паэма — «Энеіда навыварат». Яе сюжэт быў запазычаны з «Энеіды» старажытнарымскага паэта Вергілія, дзе апавядаецца аб прыгодах сына Венеры легендарнага героя Энея і ягоных спадарожнікаў-траянцаў. У беларускім творы ў траянцах лёгка пазнаюцца прыгонныя сяляне, а ў антычных багах — памешчыкі ды іхнія памагатыя. Траянцы, надзеленыя беларускімі імёнамі, — людзі працавітыя, кемлівыя і дасціпныя.

«Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат» сведчылі пра багацце і вялікія мастацкія магчымасці нашай мовы.

Сёння мы ўжо ведаем верагодных аўтараў гэтых паэмаў. «Тараса на Парнасе», мяркуе большасць літаратуразнаўцаў, стварыў Канстанцін Вераніцын (родам з Віцебскай губерні). Ён быў прыгонным селянінам, але быў адпушчаны на волю і скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Аўтарам «Энеіды навыварат» лічыцца шляхціч Вікенці Равінскі з беларускай Смаленшчыны.

### Вясковы лірнік

Уладзіслаў Сыракомля — літаратурны псеўданім Людвіка Кандратовіча. Шляхецкі сын Людвік вучыўся ў школах манахаў-дамініканцаў у Навагрудку і Нясвіжы. Некалькі гадоў служыў у канцылярыі радзівілаўскіх маёнткаў. Юнака часта бачылі ў казачна багатай бібліятэцы ўладальнікаў Нясвіжскага замка. Кандратовіч быў «сваім чалавекам» у архіве князёў Радзівілаў, дзе зберагаліся шматлікія дзяржаўныя дакументы Вялікага Княства Літоўскага. Усё гэта, а ў дадатак і сустрэчы з выпускнікамі Віленскага ўніверсітэта, якія часта наведваліся ў Нясвіж, выхавалі ў душы юнака патрыятызм і нарадзілі імкненне да творчасці.

Адметны талент заіскрыўся ў першым жа надрукаваным творы У. Сыракомлі — вершаванай гутарцы «Паштальён». Яна напісаная паводле пачутай у Міры гісторыі, а ў перакладзе стала расейскай народнай песняй «Когда я на почте служил ямщиком». У творах У. Сыракомлі найчасцей дзейнічалі шляхцічы і сяляне «дарагой яго сэрцу старонкі». Сябе паэт параўноўваў з вясковым лірнікам. Ён натхнёна апяваў родныя наднёманскія краявіды, пісаў пра падзеі мінулых стагоддзяў, апрацоўваў і друкаваў беларускія казкі і паданні.

Вялікі розгалас меў беларускі верш У. Сыракомлі «Добрыя весці», напісаны ў 1848 годзе, калі ў Францыі, Італіі, Нямеччыне,Чэхіі, Славакіі, Вугоршчыне (Венгрыі) ды іншых еўрапейскіх краінах адбыліся рэвалюцыі:

*Заходзіць сонца пагодняга лета,*
*Вее вецер з заходніх нябёс.*
*Здароў будзь, вецер з далёкага света:*
*Добрыя ж весці да нас ты прынёс!..*

*Эй, згіне вораг, як Бог нам паможа*
*За нашу крыўду, за горкі наш жаль.*
*Запяём песню: «Хваліць цябе, Божа!»*
*Лягчэй будзе сэрцу, як згіне маскаль.*

У. Сыракомля асабліва цяжка перажываў разгром вызвольнага руху ў Вугоршчыне і ў залежных ад Асманскай імперыі Дунайскіх княствах — Малдавіі ды Валахіі, дзе рэвалюцыю душыла царская армія. У гэтых княствах насельніцтва было хрысціянскім, а войскі «жандара Еўропы» — Расеі — дзейнічалі там супольна з туркамі-мусульманамі.

У. Сыракомля шмат вандраваў па Літве-Беларусі і ў замежжы. У Аўстрыі ды Прусіі, якія разам з Расеяй некалі падзялілі Рэч Паспалітую, ён наладжваў сувязі з патрыётамі былой дзяржавы, каб супольна змагацца за яе вызваленне. Паліцыя ўзяла за паэтам сакрэтны нагляд, а затым яго зняволілі ў віленскай турме. Прыхільнікі здолелі вызваліць хворага на сухоты У. Сыракомлю. На бяду, зняволенне цалкам падарвала сілы «вясковага лірніка», і ён памёр у часе следства.

Пахаваны Уладзіслаў Сыракомля на віленскіх могілках Росы.

### Аўтар «Пінскай шляхты»

Пра жыццё Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча можна напісаць вялікі прыгодніцкі раман або зняць тэлесерыял. Гэты чалавек з юнацтва быў схільны да рызыкі. Ён нарадзіўся ў 1808 годзе ў не надта заможнай шляхецкай сям'і, аднак склаў сабе зайздросны радавод, у якім нібыта было дваццаць ваяводаў. Працаваў чыноўнікам у сталічным Пецярбурзе, а пасля ў губернскім Менску. Там выкраў сваю юную нявесту Юзэфу і патаемна абвянчаўся з ёю ва ўніяцкай царкве, бо бацькі не давалі дазволу на шлюб.

Нягледзячы на ўсё старанне, следчыя не змаглі даказаць удзел Дуніна-Марцінкевіча ў вызвольнай барацьбе 1863 года. Але, тым не менш, яго на трынаццаць месяцаў зняволілі ў менскую турму, абвінавацiўшы ў напісанні антыўрадавых адозваў. Доўгія гады ён жыў пад паліцэйскім наглядам у маёнтку Люцынка на Валожыншчыне. У гэты час высылку на расейскай поўначы адбывала ягоная адважная дачка Каміла.

Але шануем Дуніна-Марцінкевіча мы найперш за літаратурную творчасць, што зрабіла яго першым класікам новай беларускай літаратуры.

Пісьменнік тлумачыў, што піша па-беларуску, каб «заахвоціць сялян і бедную шляхту да чытання, навучання і развіцця розуму». З той самай мэтаю пісьменнік пераклаў з польскай паэму Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Аднак усе паасобнікі надрукаванага перакладу дзвюх першых частак паэмы былі знішчаныя на загад уладаў.

Вяршыня творчасці класіка нашай літаратуры — напісаная ў 1866 годзе камічная п'еса «Пінская шляхта». У ёй смешна і з'едліва падаецца гісторыя з жыцця пыхлівых і фанабэрыстых палескіх шляхцюкоў. Заможнасцю і побытам яны мала чым адрозніваюцца ад сялянаў, але страшэннай абразаю лічаць, калі кагосьці з іх назавуць «мужыком». Разглядаць такую шляхецкую справу прыязджае царскі прыстаў Кручкоў — несусветны хабарнік, які сам выдумляе законы і ўказы. Сярод іх ёсць нават «выдадзеныя» ў 1988 годзе. Невыпадкова п'еса, у якой геніяльна высмейваліся імперскія парадкі, была ўпершыню надрукавана больш чым праз паўстагоддзя пасля стварэння — у газеце «Вольная Беларусь», калі Расейскай імперыі больш не існавала.

У наш час «Ідылія» і «Пінская шляхта» сталі папулярнымі спектаклямі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

### Адам Гурыновіч

Нацыянальныя ідэі і захаваная ў сям'і памяць пра паўстанне Каліноўскага мелі моцнае ўздзеянне і на студэнта Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута Адама Гурыновіча.

На вакацыях Адам збіраў на роднай Мядзельшчыне беларускі фальклор. У сваіх вершах заклікаў беларусаў прачнуцца і загаварыць на роднай мове. Пісаў таксама для дзяцей, рабіў пераклады з Адама Міцкевіча, Элізы Ажэшкі, Аляксандра Пушкіна, Івана Крылова, Івана Франко.

Жандары даведаліся, што гэты студэнт не толькі займаецца «сочинительством вредоносных стихов», але і кіруе антыўрадавым «Гуртком польскай, літоўскай, беларускай і ўкраінскай моладзі». Адама арыштавалі і зняволілі ў Петрапаўлаўскай фартэцы. Выйсці адтуль і вярнуцца пад нагляд паліцыі ў бацькоўскі фальварак яму ўдалося адно з прычыны невылечнай хваробы.

Жыццё Адама абарвалася, калі яму споўнілася ўсяго дваццаць пяць гадоў. Ён так і не пабачыў сваіх твораў надрукаванымі. Яны ўпершыню з'явіліся ў газеце «Беларускі звон» у 1921-м.

### Янка Лучына

Іначай да Беларусі і беларускай мовы прыйшоў Янка Лучына. Аднойчы патомны менскі шляхціч, інжынер Ян Неслухоўскі, які часам пісаў вершы па-расейску, а часам па-польску, купіў квіток у гарадскі тэатр. Разышлася заслона, і ад сцэны паплыла ў залу не расейская, як звычайна, а украінская мова, бо на гастролях у Менску быў вандроўны тэатр з Украіны. Той вечар зрабіў на Неслухоўскага велізарнае ўражанне і «пертварыў» яго ў Янку Лучыну.

Паэт вітаў украінскіх артыстаў вершам:

*Спявайце ж, Братцы, смела і звонка:*
*Не згіне песня і Украіна!*
*Будзьце здаровы!*
*Янка Лучына.*

Я. Лучына шмат перакладаў на беларускую мову: са старажытнагрэцкай — Гамера, з нямецкай — Генрыха Гайнэ, з польскай — Уладзіслава Сыракомлю. Ён сцвярджаў:

*Сонца навукі скрозь хмары цёмныя*
*Прагляне ясна над нашай нівою.*

Янка Лучына марыў пра выданне кнігі, але гэта здзейснілася толькі пасля яго сыходу ў іншы свет. У 1903 годзе беларускія адраджэнцы ў Пецярбурзе здолелі абвесці вакол пальца царскага цэнзара і выпусцілі ягоны зборнік «Вязанка» пад выглядам кнігі на балгарскай мове. Кніга-друк па-беларуску па-ранейшаму заставаўся пад забаронай…

### Граф Бандынэлі

Да разумення ствараць літаратуру на мове сваіх продкаў, каб менавіта на ёй звяртацца да розумаў і душаў суайчыннікаў, прыходзілі і некаторыя ліцьвінскія арыстакраты. Адным з іх стаў Альгерд Абуховіч.

Абуховічы баранілі родную зямлю ў войнах з маскавітамі, туркамі і шведамі, біліся з акупантамі пад сцягамі Касцюшкі, пісалі літаратурныя творы — успаміны і дыярыушы (дзённікі). Род Абуховічаў быў у сваяцтве з італьянскімі графамі Бандынэлі.

Альгерд лічыў, што заслугі папярэднікаў абавязваюць аддана служыць Айчыне і яго самога. Ён вучыўся ў Слуцку, Жэневе і Парыжы, бліскуча валодаў англійскай, французскай, італьянскай і нямецкай мовамі, але для ўласных твораў, якія падпісваў псеўданімам Граф Бандынэлі, абраў беларускую.

Ягоным бацькам належалі вялікія маёнткі. Гэта дазваляла юнаку падарожнічаць і бязбедна жыць у Еўропе. Аднак у 1863-м ён падаўся з паўстанцамі ў лясы.

Пазней, калі Абуховіч вырашыў перадаць сваю зямлю сялянам, абураныя суседзі-абшарнікі прыгразілі абвясціць яго вар'ятам. Тады ён развітаўся з родным домам і, захапіўшы з сабой улюбёныя кнігі, наняў для жыцця сціплы пакой у Слуцку. Адзіным багаццем пісьменніцкага прыстанку была вялізная кніжная шафа. У гэтым цеснаватым жытле нараджаліся ўзнёслыя вершы і дасціпныя байкі.

У байцы «Ваўкалака» на прапанову сабакі Лыскі пайсці служыць да пана галоўны герой з годнасцю адказвае:

*Хоць галодзен — я свабодзен,*
*Дзе мне цягне — там бягу,*
*На свабодзе прападу,*
*А ў няволю — не пайду!*
*Буду вольным ваўкалакам,*
*Ты ж — на прывязі сабакам!*

Каб на нашай мове загучалі творы Фрыдрыха Шылера, Віктора Гюго, Джорджа Байрана, Дантэ Алігʼеры, Граф Бандынэлі з натхненнем перакладаў замежную літаратуру. Ім напісаныя і цікавыя мемуары, поўныя роздуму пра тую эпоху і сэнс чалавечага быцця.

Пры жыцці Граф Бандынэлі не ўбачыў ніводнага свайго твора надрукаваным, але ўвайшоў у гісторыю новай беларускай літаратуры як асоба незвычайнага лёсу і адзін з першых байкапісцаў і мемуарыстаў.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Забіць бездапаможнага

## Ці толькі рысі пагражае адстрэл?

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Эколагі б'юць трывогу: у Беларусі хочуць дазволіць і здабычу рысі, якая занесеная ў Чырвоную кнігу, і паляванне для малалетніх.**



### Стрэлы скрозь Чырвоную кнігу?

У беларускае паляўнічае заканадаўства плануецца ўнесці шэраг істотных змяненняў. Грамадскім актывістам стала вядома, што ёсць намеры дазволіць паляванне на рысь. У Беларусі водзіцца падвід «рысь еўрапейская», яна занесеная ў нацыянальную Чырвоную кнігу. І тым не менш, у шэрагу раёнаў плануецца дапусціць яе адстрэл. Тлумачыцца гэта тым, што рысь, нібыта, распладзілася ў занадта вялікай колькасці і можа прадстаўляць праблему як для дзікіх, так і для хатніх жывёл ды чалавека з яго гаспадаркай дзейнасцю.

Дырэктар грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) Аляксандр Вінчэўскі кажа, што на такім дазволе настойвае Міністэрства лясной гаспадаркі.

— Так, рысь — гэта драпежнік. Яе асноўнай здабычай з'яўляюцца грызуны, птушкі, зайцы і казулі. Пры гэтым ёсць раёны з сапраўды высокай шчыльнасцю гэтага прадстаўніка каціных, а ёсць наогул ім не заселеныя. Але праблема рысі ў тым, што яна суіснуе з паляўнічымі. Першае — яна ўяўляе для іх свайго роду канкурэнта. І другое — ёсць шмат жадаючых папаляваць на гэтага звера. Паляўнічыя не хаваюць: яны і цяпер здабываюць рысь, але робяць гэта нелегальна. Цяпер жа можна будзе паставіць справу на камерцыйную аснову. І на адстрэлы рысі рабіць грошы, — распавядае адмыслоўца.

Пры гэтым, па словах Аляксандра Вінчэўскага, агулам рысі ў нас не так і шмат. Усяго ў Беларусі 1090 асобін, а па мінулых афіцыйных разліках, мінімальная аптымальная колькасць павінна быць не менш за 1500 рысяў. Гэта азначае, што сёння рысяў у паўтара раза менш, чым неабходна для ўстойлівага захавання віду. Што тычыцца раёнаў, дзе яе шмат, то, на думку суразмоўцы, адтуль рысь можа мігравать у іншыя, неабжытыя пакуль ёй мясцовасці. У выпадку недахопу корму рысь пераходзіць на качавы лад жыцця і здольная прайсці за суткі да 30 кіламетраў. І такі натуральны шлях рэгуляцыі яе рассялення значна лепшы за кантроль з дапамогай свінцу.

Таму падобна, што справа з дазволам палявання на чырвонакніжную рысь шмат у чым выклікана камерцыйным складнікам. У Заходняй Еўропе рысь ацалела толькі ў Фінляндыі, Швецыі, Іспаніі і Грэцыі. У некаторых іншых краінах праводзіцца аднаўленне раней знішчанай папуляцыі. А там, дзе паляванне на рысь дазволенае, яно строга рэгулюецца. І, верагодна, знойдзецца нямала жадаючых прыехаць у Беларусь і застрэліць гэтую бліжэйшую сваячку пумы і леапарда. Будуць такія і сярод грамадзян краіны, — хутчэй, дастаткова заможных, гатовых аплаціць дазвол на здабычу рэдкага звера.

Даследчыкі кажуць, што ўплыў рысі на папуляцыі іншых жывёл невялікі. У тых рэгіёнах Беларусі, дзе засяроджана 80 працэнтаў рысі, колькасць ахвяр сярод зайцаў і казуль больш толькі на 30 працэнтаў. Вядома, пры вялікай канцэнтрацыі гэтага ляснога драпежніка, яго ўздзеянне на фаўну можа быць іншым, і тады рэгуляванне колькасці будзе непазбежным.

Цяпер вядзецца грамадская кампанія ў абарону гэтага прыгожага і рэдкага насельніка беларускіх лясоў. У мінулым годзе ў выніку петыцыі, ініцыяванай АПБ і падпісанай болей чым 5 тысячамі грамадзян, дазвол на адстрэл гэтай дзікай коткі быў адкладзены. Гэтай вясной зварот у абарону рысі прыняла Беларуская партыя «Зялёныя».

### Адстрэл за плотам

У рамках новай рэдакцыі «Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання» мяркуецца яшчэ адно змяненне — вывядзенне вальернага палявання з-пад дзеяння правілаў палявання. Цяпер стральба па жывёлах у агароджанай прасторы не будзе лічыцца паляваннем і рэгулявацца адпаведнымі правіламі. Вальеры будуць ствараецца і на прыродаахоўных тэрыторыях — без абмежавання. Незалежныя эколагі лічаць, што пад удар могуць патрапіць і каштоўныя экасістэмы.

Ва ўсім свеце актывісты выступаюць супраць стральбы па жывёлах у загароджанай прасторы. Кажуць, што ў звера тут практычна няма шанцаў уратавацца, і такое «паляванне» варта прыраўняць да звычайнага забойства. Бо паляванне як працэс прадугледжвае высочванне здабычы, яе загон або засаду. У агароджы ж нічога гэтага няма, і забіць звера нават у самым вялікім вальеры — гэта толькі пытанне часу.

Па словах абаронцаў жывёл, у такога палявання ёсць хіба адзін вельмі ўмоўны «плюс» — пажылы або маладасведчаны паляўнічы не пераблытае тут адну жывёлу з іншай, і замест лася не застрэліць чырвонакніжнага зубра.

Але формула аб «вывядзенні палявання ў вальерах за правілы палявання» не зусім зразумелая. Ці азначае гэта, што для стральбы за агароджай не трэба будзе мець паляўнічы білет і дазвол на зброю? І любы жадаючы можа пастраляць па жывых мішэнях за агароджай са стрэльбы, якую яму тут жа і дадуць? Калі той заплаціць згодна з прайс-лістом? Між іншым, зброя «ў часовае карыстанне» ўжо даўно выдаецца ў беларускіх паляўнічых гаспадарках, у тым ліку — і замежнікам.

На шчасце, гэта не так. У Міністэрстве лясной гаспадаркі патлумачылі: вальернае паляванне ў прынцыпе ўжо выведзена з-пад дзеянняў адпаведных правілаў. Справа ў тым, што дзікія жывёлы з'яўляюцца ўласнасцю дзяржавы, і менавіта яна ўсталёўвае правілы распараджэння імі. Жывёлы ў вальерах з'яўляюцца ўласнасцю юрыдычных асобаў, якія арандуюць паляўнічыя ўгоддзі. З боку дзяржавы рэгулююцца толькі некаторыя агульныя працэдуры — вываз прадукцыі, нормы ўтрымання. А вось тэрміны і нормы здабычы — гэта ўжо справа юрасобаў, яны вольныя распараджацца сваёй уласнасцю самастойна. Па сутнасці, такія вальеры — гэта экалагічна арыентаваная сельскагаспадарчая вытворчасць.

У Міністэрстве таксама запэўнілі, што асобы, якія не маюць дазволу на паляўнічую зброю, да вальернага палявання, у тым ліку і з арандаванымі стрэльбамі, дапушчаныя не будуць.

Гэта, вядома, добра. Але і тут ёсць іншы бок. У Беларусі яшчэ няма прыватнай уласнасці на лясы, толькі арэнда. Аднак устаноўка вальераў, — а па новых правілах іх плошча можа быць вельмі вялікай, — як бы «прыватызуе» лясных насельнікаў. Цяпер зубр або алень, вырашчаны за плотам, становяцца прыватнай уласнасцю. І калі на здабычу звера з публічнага сектара распаўсюджваюцца пэўныя нормы, то ў вальеры жадаючыя змогуць расстраляць хоць статак такіх зуброў? Калі, вядома, за ўсіх заплацяць.

Паляванне ў Беларусі — дастаткова прыбытковы бізнес. Паводле афіцыйнай статыстыкі, за 2018 год даходы ад палявання склалі 4 мільёны 966 тысяч рублёў, і на 28 працэнтаў перавысілі запланаваныя. 20 працэнтаў з іх складаюць даходы ад замежнага паляўнічага турызму. Для гасцей у паляўнічых гаспадарках маецца 200 адзінак агнястрэльнай зброі, у тым ліку і наразной. Для палявання на высакароднага і плямістага аленя, муфлона і еўрапейскую лань арганізавана 8 паляўнічых вальераў. У паляўнічым фазанарыі ў Капыльскім раёне на плошчы 1,5 гектара можа адначасова знаходзіцца да 5 тысяч птушак.

**Ва ўсім свеце актывісты выступаюць супраць стральбы па жывёлах у вальерах. У звера тут практычна няма шанцаў уратавацца, і такое «паляванне» варта прыраўняць да простага забойства**

### Падлеткі на паляванні

Яшчэ адно змяненне прапануецца ўнесці ў паляўнічыя правілы. У хуткім часе нават непаўнагадовыя змогуць прыняць удзел у паляванні. Прапануецца знізіць узрост удзелу ў паляванні з 18 да 16 гадоў, а з 14 гадоў — дапусціць дзяцей у якасці загоншчыкаў.

У АПБ няма адзінага меркавання з гэтай нагоды, кажа Аляксандр Вінчэўскі.

— Я магу выказаць толькі асабісты пункт погляду. У ЗША дзецям дазваляюць паляваць са зброяй ці не з малодшых класаў. Там існуе адмысловая культура абыходжання са зброяй. Але ўсё роўна сітуацыі бываюць розныя, здараецца, што падлеткі падчас палявання забіваюць турыстаў. Дзеці бываюць розныя. Адны — вегетарыянцы, а іншыя катуюць жывёлаў і зневажаюць аднагодкаў. Магчыма, што далучэнне да палявання пад кантролем бацькоў і вопытных дарослых прывіла б цяжкім падлеткам больш адказнасці, прывучыла б да этыкі палявання.

Абаронцы жывёл накіравалі зварот з пратэстам супраць уцягвання падлеткаў у паляванне. Мінлясгас адказаў, што такім чынам маладое пакаленне будзе збліжацца з прыродай і вучыцца любіць яе.

Але, на шчасце, пакуль яшчэ не плануецца выдаваць непаўнагадовым дазвол на набыццё зброі. У Міністэрстве лясной гаспадаркі таксама супакоілі: з 16 гадоў будзе выдавацца толькі дзяржаўны дазвол на права палявання. Але агнястрэльная зброя па-ранейшаму будзе прадавацца з 18 гадоў. І непаўнагадовы зможа толькі выйсці на паляванне з сабакам або лоўчай птушкай — калі яна ў яго ёсць.

Паводле дзеючых правілаў, уладальнік паляўнічай стрэльбы не мае права перадаваць яе іншай асобе. Нават бацька — сыну.

А ўдзел 14-гадовых у паляўнічых загонах? У міністэрстве нас запэўнілі, што першапачаткова ў вынесеных на грамадскае абмеркаванне «Правілах» для загоншчыкаў сапраўды быў паказаны такі ўзроставы парог. Цяпер яго прыбралі наогул. «Навошта ён? Дзеючым заканадаўствам узрост не абмежаваны. А так толькі будзе нагода для праверак». Але ж у коле аблавы могуць апынуцца не толькі палахлівыя звяры, але і такія небяспечныя жывёлы, як дзікі кабан. Выпадкі, калі сякач, ды яшчэ паранены, паваročваў на загоншчыкаў, вядомыя.

А што можна сказаць пра этычны аспект, калі сябры нядаўніх дзяцей — зайчыкі і «аляняты Бэмбі» — будуць паміраць на іх вачах? Ці не лепш любоў у непаўналетніх да прыроды і ўсяго жывога выхоўваць не саўдзелам у знішчэнні, а праз экалагічныя і турыстычныя паходы, праз мерапрыемствы па падкормцы жывёл і ахове нашых прыродных багаццяў? А мужнасць, цягавітасць і спрыт развіваць у спартыўных секцыях і на ваенна-патрыятычных занятках.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Чарнігаў будзе беларускім?

Пра гэта ў эфіры адной з украінскіх радыёстанцый заявіў экс-кіраўнік Следчага кіраўніцтва Службы Бяспекі Украіны (СБУ) Васіль Воўк. Заява была зробленая ў рамках дэбатаў наконт увядзення падвойнага грамадзянства.

На думку былога сілавіка, гэта створыць умовы для таго, каб замежнікі, атрымаўшы пашпарты з трызубам, выкуплялі ўкраінскую ўласнасць. У выніку, паводле яго слоў, Украіна можа страціць некалькі сваіх абласцей. Прычым пагроза тычыцца не толькі Закарпацця або Букавіны, дзе шмат этнічных венграў і румынаў, але і Чарнігаўскай вобласці. Там, калі верыць Васілю Воўку, і так ужо высокі працэнт уладальнікаў беларускіх дакументаў. «Я гаварыў са сваім былым калегам, які ўсё жыццё там (у Чарнігаўскай вобласці) жыве і нарадзіўся. Кажа: "У нас жа вобласць трохбаковая — Расія, Беларусь і Украіна. Там вельмі шмат людзей нават з беларускімі пашпартамі"… Так урэшце і Бацька скажа: "Слухайце, сябры, ды там, у Чарнігаве, ёсць тры раёны, дзе ўкраінцаў няма — адны беларусы. Давайце я іх забяру ў вас". А зямля — зямля выкупленая гэтымі беларусамі, якія атрымалі ўкраінскі пашпарт», — сказаў Васіль Воўк.

Нягледзячы на трывожныя заявы Васіля Воўка, наўрад ці яны адаб'юцца на адносінах Мінска і Кіева. Хаця б таму, што значна больш украінскую эліту непакоіць «сепаратызм» балгараў, якія жывуць у Адэскай вобласці. Балгарская грамада пры афіцыйнай падтрымцы Сафіі выступае супраць мясцовай адміністрацыйнай рэформы.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПАЎДНЁВАЯ КАРЭЯ. Чучхэ і тэлепартацыя

Паўднёвакарэйская прэса фіксуе праграсіўныя трэнды ў Паўночнай Карэі. Днямі «Надон сінмун» — паўночнакарэйская дзяржаўная газета, — перагледзела адзін з папулярных складнікаў культу Кім Ір Сена — заснавальніка КНДР. Паводле гэтага міфу, правадыр падчас партызанскай вайны з японцамі ўжываў метад тэлепартацыі — імгненнага перасоўвання матэрыяльнага аб'екта з адной кропкі прасторы ў іншую. Дзякуючы такім трукам, паводле падручнікаў, Кім лёгка пранікаў у тыл ворага і наносіў яму вялікі ўрон. І вось нарэшце афіцыёз прызнаў, што гэта — толькі казка. «Надон сінмун» надрукаваў артыкул, у якім гаворыцца: «У рэчаіснасці чалавек не можа раптам знікнуць і зноў з'явіцца ў іншым месцы». У Міністэрстве аб'яднання Карэі (ёсць у Сеуле такая кантора) віталі палітыку Кім Чэн Ына, скіраваную на адмову ад містыфікацыі сваіх продкаў. Варта заўважыць, што ў мінулым годзе Кім Чэн Ын выступіў з заявай, што «містыфікацыя рэвалюцыйнай дзейнасці лідара можа прывесці да ўтойвання праўды».

**Паводле грузінскай прэсы**

### ІТАЛІЯ. Красці можна, але троху

Крадзеж невялікай колькасці ежы ад голаду не з'яўляецца злачынствам. Так пастанавіў вышэйшы апеляцыйны суд Італіі. Гэтая выснова была зробленая ў выніку перагляду справы Рамана Астракова — італьянскага грамадзяніна ўкраінскага паходжання. Апошняга асудзілі за крадзеж сыру і каўбасы коштам 4,07 еўра. У выніку злодзей спачатку быў асуджаны да шасці месяцаў турэмнага зняволення, а таксама штрафу ў памеры 100 еўра. Пазней суд касацыйнай інстанцыі вырашыў, што злачынца пераступіў мяжу закона «з-за надзённай патрэбы ў харчаванні». Такім чынам, гэта не было злачынствам. Той жа думкі трымаецца і апеляцыйны суд. Грамадскасць вітала вердыкт Феміды. Для суддзяў «права на выжыванне пераважае права над уласнасцю», гаворыцца ў артыкуле ў газеце La Stampa. Вітае вынік суда і газета Corriere Della Sera, нагадваючы пра выкліканую эпідэміяй рэальнасць, калі «615 італьянцаў штодня папаўняюць шэрагі бедных». А рэсурс Italia globale.it наогул лічыць, што рашэнне суддзяў з'яўляецца гістарычным, паколькі «выцякае з гуманістычнай канцэпцыі, якая фарміравала заходні свет на працягу стагоддзяў».

**Паводле брытанскай прэсы**

### КІТАЙ. Марозіва для «адмарозкаў»

У Ганконгу, як вядома, пасля выхаду з каранціну аднавіліся пратэсты супраць намераў Пекіна пазбавіць тэрыторыю аўтаномных правоў. Пакуль жа гэтых пратэстаў не было, іх аматары маглі кампенсаваць адсутнасць актыўнасці наведваннем кавярняў. Справа ў тым, што мясцовыя кандытары распрацавалі адмысловае марозіва. Яно нагадвае прысмак газу, якім паліцыянты разганяюць маніфестантаў. Рабіць такое марозіва не цяжка, паколькі асноўным інгрэдыентам формулы газу для разгону мясцовых «адмарозкаў» з'яўляецца агульнадаступны чорны перац. А вось есці такія прысмакі зможа не кожны. Зрэшты, тых, хто настальгаваў па пратэстах, гэты момант не спыняў. Ім зноў хацелася адчуць знаёмы прысмак газу — абавязковы элемент атмасферы пратэстаў. Застаецца дадаць, што новы гатунак марозіва прыдумалі якраз у гонар тых, хто адстойвае аўтаномію Ганконга.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Ваш імунны пашпарт, калі ласка!

*Алег НОВІКАЎ*

**Існуе мноства спрэчных версій таго, як будзе выглядаць свет, калі скончыцца пандэмія. Шмат хто лічыць, што першай глабальнай інавацыяй стане ўвядзенне індывідуальнага імуннага пашпарту.**




Фота www.hightech.fm

Калі агулам падсумаваць дэбаты наконт тых пашпартоў, то можна казаць, што гаворка ідзе пра спецыяльныя аналагавыя альбо лічбавыя дакументы. Іх будуць выдаваць людзям, якія перахварэлі на Covid-19 або маюць моцны імунітэт супраць заразы. Наяўнасць такога пашпарта будзе дазваляць яго ўладальніку займаць працоўнае месца, падарожнічаць, наведваць масавыя культурныя і спартовыя мерапрыемствы.

Аўтарства ідэі, напэўна, належыць ураду Чылі. Ён яшчэ ў сакавіку ўвёў дакумент для тых, хто перахварэў на вірус. Яны мелі права вяртацца на працу. Праўда, пазней, калі стала вядома, што былыя пацыенты могуць захварэць зноў, эксперымент спынілі.

Але ідэя, як кажуць, пайшла ў народ. Напрыклад, у Вялікабрытаніі ідэя імунных пашпартоў для чыноўнікаў разглядаецца ў адным з камітэтаў тамтэйшага ўраду. На яго замову брытанская кампанія Bizagi ўжо выпусціла CoronaPass — праграму, у якой захоўваецца інфармацыя пра стан імунітэту карыстальніка, атрыманая ад адпаведнага органа аховы здароўя. Праз QR-код, быццам, можна праверыць статус імунітэту карыстальніка ў любы момант.

Не адстаюць і прыватныя фірмы. Яшчэ ў красавіку авіякампанія Emirates правяла першыя экспрэс-аналізы крыві на Covid-19 у пасажыраў авіякампаніі, перш чым пускаць іх на борт. «Мы працуем над планамі па пашырэнні магчымасцяў тэставання ў будучыні і распаўсюджванні вопыту на іншыя рэйсы», — гаварылася ў паведамленні кампаніі.

Як правіла, усе распрацоўшчыкі ў гэтай галіне спрабуюць знайсці і сертыфікаваць метад, які дэманструе наяўнасць у арганізме антыцелаў, здольных блакаваць вірус. З улікам той колькасці рэсурсаў, якія кінутыя на гэты фронт, не выключана, што хутка і ў нас для паездкі ў электрычцы давядзецца прад'явіць на сканер той самы QR-код або пашпарт здароўя.

З'яўленне ж такога пашпарту можа мець наступствы больш драматычныя, чым цяперашняя эпідэмія. Пачаць можна з праблем этычнага характару. Тыя, у каго не будзе пашпарта або знойдзецца дэфіцыт антыцелаў, аўтаматычна стануць маргіналамі, уладальнікамі «воўчага білета», якіх ніхто не возьме на нармальную працу. Гэта абнуляе ўсе намеры лакалізаваць эпідэмію з дапамогай пашпартоў: як сведчыць практыка, менавіта сацыяльна маргіналізаванае асяроддзе становіцца інкубатарам хваробы.

Пасля з'яўлення імунных пашпартоў можна будзе смела выкрасліць з Канстытуцый права грамадзян на прыватнае жыццё. Людзям давядзецца ледзь не на кожным кроку афішаваць стан свайго здароўя. І пакуль няма ніякіх гарантый, што гэтая канфідэнцыйная інфармацыя не стане публічнай. Абяцанні стваральнікаў пашпартоў, што асабістыя даныя будуць даступныя толькі ўрадам або кампетэнтным кампаніям, не пераконваюць скептыкаў. Пашпартамі давядзецца карыстацца вельмі часта, у тым ліку падчас наведвання розных устаноў, кампутарныя сістэмы якіх стануць мэтай хакераў.

Пачатак эры пашпартоў імунітэту аўтаматычна адкрые новую эру крыміналу, паколькі паўстане чорны рынак інфармацыі пра здароўе грамадзян. Шмат людзей будуць гатовыя плаціць шантажыстам за захаванне ў таямніцы файлаў пра свой слабы імунны стан. Інакш, калі пра гэта даведаюцца іншыя, можна згубіць не толькі месца працы, але нават, пад ціскам суседзяў, месца жыхарства. Вытворчасць пашпартоў таксама адкрывае велізарныя гарызонты для карупцыянераў у краінах са слабай прававой дысцыплінай.

Нарэшце, апалагетыка тэстаў на антыцелы вельмі сумнеўная. Біялогія каронавіруса Sars-cov-2 настолькі новая, што ніхто не ведае, ці сапраўды тыя антыцелы надаюць імунітэт і, калі гэта так, на які тэрмін. У красавіку Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) апублікавала навуковае рэзюмэ, у якім гаварылася пра «брак доказаў эфектыўнасці імунітэту з прысутнасцю антыцелаў, каб гарантаваць дакладнасць пашпартоў імунітэту або іншага сертыфіката». «У гэтых выпадках раздача пашпартоў імунітэту можа павялічыць рызыку заражэння як для іх уладальнікаў, так і для грамадства ў цэлым», — піша часопіс New Yorker з спасылкай на высновы СААЗ.

Як бачым, існуе шмат аргументаў супраць увядзення пашпартоў імунітэту. Можна пагадзіцца з тымі медыкамі і медыя, якія заклікаюць не ўсталёўваць часавыя межы для стварэння эфектыўнага тэсту. У тым ліку таксама таму, што няма адназначнага адказу, як доўга захоўваецца імунітэт супраць віруса.

Але, падаецца, падобныя пажаданні дактароў і журналістаў, якія падзяляюць іх думку, не змогуць перамагчы лобі авіябізнесу, спорту і, нарэшце, урадаў краін, гаспадарка якіх крытычна залежыць ад турпатоку. Ужо ўлетку гэтага года на брытанскіх стадыёнах плануецца распачаць першыя эксперыменты. Тыя, хто хоча набыць квіткі на трыбуны, павінны будуць прад'явіць той самы імунны пашпарт.



Фота www.qwerty.gdn

# Ще не вмерла Україна-Русь!

Алег НОВІКАЎ

**Украінцы зноў загарэліся ідэяй даць краіне назву «Украіна-Русь» або, у найгоршым разе, проста «Русь».**

Дэбаты наконт новай назвы гэтым разам распаліў адвакат Андрэй Федур, допіс якога ў сеціве атрымаў шмат падабаек. Цікава, што сам Федур адначасова з'яўляецца крытыкам курсу Уладзіміра Зяленскага. Між тым мінулым летам дарадца Зяленскага Мікіта Патураеў выступаў з падобнай ініцыятывай — перайменаваць Расію ў Масковію, а рускую мову падзяліць на два варыянты: тая руская, на якой кажуць украінцы, і тая, на якой размаўляюць у Расіі.

Як бачым, праект «Украіна-Русь» дастаткова прывабны для дыяметральных фракцый украінскага палітыкуму. Гэта не дзіўна — з улікам таго, што ў аснову афіцыйнай гістарычнай канцэпцыі сучаснай Украіны пакладзены ідэі Міхаіла Грушэўскага. Грушэўскі разглядаў старажытнарускую дзяржаву «Кіеўская Русь» як выключна протаўкраінскае фармаванне. Таму ў сваіх навуковых працах і публіцыстычных творах слова «Украіна» стараўся пісаць з прыстаўкай «Русь». «Нашым ідэалам павінна быць незалежная Русь-Украіна, у якой бы ўсе часткі нашай нацыі злучыліся ў адну сучасную культурную дзяржаву», — сцвярджаў Грушэўскі яшчэ ў далёкім 1899 годзе.

У наш час тэорыя Грушэўскага ўзбагацілася тэзісам пра тое, што назву «Русь» ва ўкраінцаў з нейкіх карыслівых памкненняў скрала Расія. Напрыклад, кіеўскі прафесар Алег Соскін усю адказнасць за прыватызацыю расіянамі брэнда «Русь» ускладае на Пятра Першага.

Хаця канцэпты Грушэўскага за часы незалежнасці былі моцна растыражаваныя, ідэя перайменавання дзяржавы ва «Украіну-Русь» да 2014-га не выходзіла за межы ўдзельнікаў гістарычных інтэрнэт-форумаў. Па ходзе падзей на Данбасе і ў Крыме лозунг вяртання Украіне назвы «Русь» атрымаў масавую нізавую падтрымку.

Такое перайменаванне пачалі разглядаць не толькі як акт гістарычнай справядлівасці, але нават гібрыдны аперкот Крамлю. «Гэты смелы, рэвалюцыйны крок (новая назва дзяржавы) не толькі пасуе ўладзе, якая лічыць сябе рэвалюцыйнай. Ён перахопіць ініцыятыву ў Пуціна хоць бы на гэтым участку барацьбы — магчыма, ключавым участку. Імя Украіны пры гэтым не знікне — яно высвеціцца новым сэнсам», — пісалі аўтары тагачаснай петыцыі за перайменаванне краіны ў Русь.

**Для многіх украінцаў новая назва дзяржавы ўспрымаецца як шанец на татальную перазагрузку мадэлі краіны, канчатковы разрыў з постсавецкай спадчынай**

Не без уплыву падобных петыцый і іншых заяваў з боку грамадскасці ў 2015 годзе тагачасны кіраўнік Украіны Пётр Парашэнка падпісаў указ «Аб ушанаванні памяці князя Кіеўскага Уладзіміра Вялікага — стваральніка сярэднявечнай еўрапейскай дзяржавы Русі-Украіны».

Што да Крамля, то перспектыву магчымага з'яўлення на паўднёва-ўсходняй мяжы Расіі дзяржавы «Украіна-Русь» тут каментуюць неадназначна. Частка расійскай эліты адкрыта смяецца з гэтай дыскусіі ды прапануе Кіеву пасля перайменавання краіны выкарыстоўваць скарачэнне «Укрусь» або «Русукра». Другая фракцыя лічыць, што Украіна-Русь — гэта працяг небяспечнага эксперыменту «па расколе адзінай рускай цывілізацыі і адзінага суперэтнасу русаў».

Між тым, падаецца, што апошнім часам ідэя «Украіны-Русі» набыла новы падтэкст. Для многіх украінцаў новая назва дзяржавы ўспрымаецца як шанец на татальную перазагрузку мадэлі краіны, канчатковы разрыў з постсавецкай карупцыйна-алігархічнай спадчынай і прыняцце новай грамадзянскай дамовы. Той жа адвакат Андрэй Федур заклікае да новай назвы ў ракурсе больш глабальнага працэсу «перазаснавання ўкраінскай дзяржавы».

Адпаведна, сам праект «Украіна-Русь» выглядае, хутчэй, не гістарычным рэваншам, а нейкай хімерай новай квітнеючай Украіны. Блогер Дзяніс Дзікавіцкі наступным чынам апісвае, што ён разумее пад дзяржавай Русь: «Бачу Русь шматкватэрным агульным домам яго грамадзян. Ніхто не павінен патрабаваць, на якой мове ім размаўляць на кухні, у якой вопратцы хадзіць і якому Богу маліцца. У доме павінна быць вада, электрычнасць, каналізацыя, якая працуе. Узамен жыхары павінны беражліва ставіцца да яго, своечасова аплачваць камуналку і абараняць агульны дом ад нападаў рэйдараў і ўварвання рабаўнікоў. Гэта можна назваць патрыятызмам, у які я веру».

Калі ўкраінцы сапраўды звязваюць новую назву дзяржавы з надзеяй на лепшае, то выключаць перайменаванне Украіны, напэўна, сапраўды нельга. Толькі б гэтая назва не выклікала новыя супярэчнасці. Хаця б таму, што армія аматараў новай назвы і цяпер не аднародная. Акрамя назвы «Украіна-Русь» або «Русь» прапануюцца назвы «Кіеўская Русь», «Кіеўская Русь-Украіна», «Рутэнія». А гісторык Алег Чэслаўскі наогул прапануе такі выкручасты варыянт, як «Русь-Украіна — Зямля Русь».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Касым-Жамарт Такаеў



Кіраўнік Казахстана запусціў дэмакратызацыю краіны, падпісаўшы 25 траўня адпаведны пакет законаў. Цяпер для рэгістрацыі новай партыі неабходна сабраць 20 тысяч подпісаў замест ранейшых 40 тысяч. Каб правесці ў Казахстане мітынг, больш не трэба пытацца дазволу ўладаў, дастаткова толькі паведаміць у мясцовы выканаўчы орган. Прычым зрабіць гэта можна ўсяго за пяць дзён, а адрэагаваць улады павінны за тры дні.

Згодна з новай версіяй закона, пляцоўкі правядзення мітынгаў павінны знаходзіцца ў цэнтральнай частцы гарадоў і вёсак. А пікеты могуць праводзіцца ўвогуле практычна паўсюль, у тым ліку каля будынкаў дзяржорганаў. У новым законе няма таксама пункта аб праве ўладаў на спыненне мітынгу з-за неправамерных дзеянняў яго асобных удзельнікаў.

Афіцыёз разглядае рэформы Такаева як сапраўдную дэмакратычную рэвалюцыю. «Гэта перазапуск правілаў палітычнай канкурэнцыі, якія могуць і павінны стварыць пазітыўны фон і кантэкст перад будучымі выбарамі», — кажа адзін з праўладных палітолагаў.

Аднак у лагеры апазіцыі асаблівай эйфарыі не назіраецца. Крытыкі рэжыму называюць «перазапуск» касметычным рамонтам з мэтай нарасціць легітымнасць Такаева ў вачах міжнароднай супольнасці. Гэта ўзмоцніць пазіцыі прэзідэнта напярэдадні сыходу Назарбаева і пачатку барацьбы за ўладу. Апазіцыянеры звяртаюць увагу на тое, што папраўкі не паслабілі кантроль улады над рэгістрацыяй кандыдатаў, што дазволіць ёй і ў будучыні захоўваць статус-кво.

### Віктар Орбан



Кіраўнік венгерскага ўрада, як вядома, прыкладна месяц таму пашырыў паўнамоцтвы кабінета і цяпер вядзе сістэматычны наступ на апанентаў. Спачатку было прыпынена бюджэтнае фінансаванне вядучай апазіцыйнай партыі. Цяпер Орбан дабраўся да прадстаўнікоў ЛГБТК+, якія, як лічаць кансерватары, з'яўляюцца агентурай алігарха Джорджа Сораса — галоўнага асабістага ворага Орбана.

У венгерскім парламенце прайшло скандальнае галасаванне наконт трансгендараў. Апошнім, згодна з законам, забаранілі змяніць палавую прыналежнасць у дакументах. Замест графы «пол» у пасведчанні будзе графа «пол, вызначаны пры нараджэнні». У дадатак, паводле новага закона, змяніць гэтую графу будзе немагчыма на працягу ўсяго жыцця.

Міжнародная ліберальная грамадскасць яўна разгубленая ў выніку дзеянняў Будапешта і называе гэтае рашэнне «вяртаннем Венгрыі ў Сярэднявечча». Зрэшты, як піша заходняя ліберальная прэса, ёсць у апошніх падзеях і пазітыў. Законапраект аб трансгендарах адмовілася падтрымаць праварадыкальная апазіцыя ў асобе дэпутатаў партыі Jobbik. Такі расклад дазваляе меркаваць, што Орбан дастаў усіх, і спадзявацца на хуткае фарміраванне шырокага міжпартыйнага фронту супраць Fidesz. Што да лёсу закона пра трансгендараў, то яго паспрабуюць адмяніць у Канстытуцыйным судзе і еўрапейскіх судах.

### Арсен Тарасян



Міністр аховы здароўя Арменіі ўмудрыўся некалькімі сказамі выклікаць армяна-грузінскі дыпламатычны канфлікт. Скандал разгарэўся на пасяджэнні Грамадскага савета Арменіі пры абмеркаванні праблемы эпідэміі. Прысутныя вырашылі абмеркаваць і вопыт суседняй Грузіі, дзе самая лепшая статыстыка ў рэгіёне.

Тарасян выказаў сумневы ў афіцыйных звестках Тбілісі па захварэлых у Грузіі. Ён заявіў, што «армянская супрацьэпідэміялагічная сістэма мацнейшая», а таксама выказаў здагадку, што Тбілісі дае непраўдзівыя звесткі таксама і наконт колькасці памерлых, «спісваючы» прычыну смерці на іншыя хваробы. Напрыканцы выступу грузінам увогуле была прапанавана дапамога. «Мы зацікаўленыя ў тым, каб і ў нашых суседзяў была такая ж моцная сістэма», — сказаў чыноўнік.

Рэпліка міністра выклікала выбух абурэння грузінаў. МЗС Грузіі і група вядомых лекараў запатрабавалі ад Арменіі тлумачэнняў. На іх думку, Тарасян павінен альбо даказаць слабы стан медыцыны Грузіі, альбо прынесці прабачэнні. Пры гэтым крытыкі Тарасяна спасылаюцца на статыстыку. На 25 траўня ў Арменіі афіцыйна зарэгістравана 6661 чалавек, што захварэлі на каронавірс, а ў Грузіі на той жа час захварэлых было 728 чалавек.

У выніку Міністэрства аховы здароўя Арменіі ад імя свайго кіраўніка прынесла прабачэнні грузінскім калегам. Адначасова ў краіне быў прыняты шэраг новых санітарных мераў. Напрыклад, вырашана выганяць з залы пасяджэння армянскага парламента ўсіх дэпутатаў без масак.

# Страчаная гістарычная спадчына Крычава

Алесь КРЫЖЭВІЧ

**На фоне актывізацыі руйнавання помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны ў Крычаве хацелася б нагадаць, якія архітэктурныя аб'екты на працягу ўсяго XX стагоддзя зніклі з-за ідэалагічных установак, безадказных і абыякавых дзеянняў мясцовай улады.**

Кожны з гістарычных аб'ектаў быў унікальны і цікавы па-свойму, аднак цяпер нашы ўяўленні грунтуюцца толькі на фотаздымках, апісаннях будынкаў у старых дакументах і матэрыялах гісторыкаў і краязнаўцаў.

## Савецкі час. Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і плябанія

У сярэдзіне XVIII стагоддзя ў Крычаве пачалося будаўніцтва новага каталіцкага храма. Менавіта гэтая падзея адлюстравалася ў захаваных да нашых дзён візітах Крычаўскага касцёла. Першыя дакладныя пісьмовыя звесткі аб арганізацыі і будаўніцтве касцёла ў Крычаве адносяцца да 1745 года — 20 ліпеня крычаўскі староста Геранім Радзівіл аддаў загад кіраўніку Крычаўскага старостава Паўлу Цялецкаму выдзеліць пляцы пад будаўніцтва фарнага касцёла і плябаніі. Прычым Радзівіл падкрэсліваў, што «земельный участок должен быть однакож не в близком положении от замка, чтобы, в случае, сохрани Бог, возникновения бунтов не было ещё большей измены от костёла. Притом строго предупреждаю, чтобы самый участок не находился на какой-либо горе, тем более на такой, которая образует другой угол Замковой горы».

Гэты загад быў выкананы 26 жніўня, калі пад фарны касцёл крычаўскаму ксяндзу Рэгінальду Іллічу было выдзелена 5 пляцаў зямлі. Перасцярогі Геранімa Радзівіла звязаныя з падзеямі Крычаўскага паўстання 1740–1744 гадоў, што ўвайшло ў гісторыю Беларусі як адно з самых буйных выступленняў сялян і гараджан супраць арандатараў.

Пабудаваны касцёл быў драўляным, аднак каля храма знаходзілася каменная званіца з трыма званамі. Таксама вакол касцёла была пабудаваная агароджа, ніжняя частка якой была каменная, а верхняя — драўляная. Такім чынам, драўляны касцёл знаходзіўся ў цэнтры горада на рагу сучасных вуліц Ленінскай і Камсамольскай, там, дзе цяпер размешчаны закінуты будынак пошты і раённы ваенны камісарыят. Важна адзначыць, што ў гарадскіх інвентарах часта згадваецца назва «Латынь» (захавалася да сёння!), якая адносілася да часткі старога горада, дзе кампактна пражывала каталіцкае насельніцтва.

У сярэдзіне XIX стагоддзя цэнтральную частку Крычава знішчыў жудасны пажар. Згарэлі амаль усе пабудовы, у тым ліку і касцёл разам з плябаніяй. Часова набажэнствы вяліся на першым паверсе ў круглым зале так званага Пацёмкінскага палаца, валодаў якім на той час заможны крычавец Стэфан Галынскі. У палацы Галынскі прадаставіў ксяндзу памяшканне для пражывання. На яго ж грошы, а таксама на грошы вернікаў, у 1855–1860 гадах быў пабудаваны новы каменны касцёл. Стварыў гэты архітэктурны цуд у стылі неаготыкі таленавіты італьянскі архітэктар. Дзякуючы яго майстэрству, касцёл зрабіўся найпрыгажэйшай пабудовай у горадзе.

Двухвежавы франтальны фасад па цэнтры быў вылучаны трохпралётнай гатычнай аркай на 4 гранёных слупах, аб'яднанай агульным кілепадобным франтонам у завершы. Фасады і чатырохгранныя ярусы вежаў рытмічна чляніліся гатычнымі стральчатымі ваконнымі праёмамі. Перспектыўным стральчатым парталам быў вырашаны галоўны ўваход у храм. Над імі размяшчалася круглае вакно-ружа. Гатычны характар будынка ўзмацняла афармленне вежаў вуглавымі гранёнымі пілонамі з вострававугольнымі вімпергамі: паміж імі аркатурныя нішы са стральчатымі броўкамі. Франтон і вежы касцёла завяршаліся крыжамі з маронага дуба. З правага боку ад уваходу ў храм стаяў пастамент з чыгуннай місай для святой вады, над якой вісела Распяцце Хрыста. У храме таксама знаходзіўся ўнікальны арган на 10 галасоў.

Унутраная прастора касцёла падзялялася магутнымі слупамі і аркадамі на тры нефы. Пяцігранную абсіду запаўняў двух'ярусны алтар, вырашаны ў формах барока — 4 калоны неслі крапаваны хвалісты антаблемент, паміж калонамі стаялі скульптуры святых Пятра і Паўла; другі ярус — простакутны шчыт з выгнутым карнізам. У новым касцёле было тры алтары. У галоўным, які быў акантаваны чатырма каменнымі калонамі, пафарбаванымі цёмнай алейнай фарбай, быў абраз Зачацця Святой Ганны ў срэбранай рызе.

Крычаўскі касцёл да сярэдзіны 1867 года заставаўся прыходскім, але потым пачалася ліквідацыя прыхода, прычым ініцыятыва сыходзіла ад Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі. Хутчэй за ўсё, паўплывалі падзеі паўстання 1861–1863 гадоў, падчас якога царскі ўрад, улічваючы сітуацыю, што склалася вакол Крычава, вымушаны быў увесці пяхотны батальён з Рослава. Бліжэйшыя сваякі Стэфана Галынскага — Валерыян і Адольф Галынскія — таксама прымалі непасрэдны ўдзел у падзеях паўстання.



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Фота 1913 г.

**Будынак крычаўскага касцёла выкарыстоўваўся як «народны дом», у якім дэманстраваліся кінафільмы і працаваў самадзейны тэатр, але ў 1934 годзе з-за кепскага стану касцёл быў падарваны**

У тэксце візітацыі касцёла за 1885 год размешчана і апісанне комплексу плябаніі. Гэта быў аднапавярховы каменны будынак з крытым жалезам дахам. У будынку было 7 пакояў, якія былі падзеленыя калідорам і ацяпляліся 5 печамі. У будынку налічвалася 12 вокнаў. На двары плябаніі стаяў таксама каменны флігель, пакрыты дранкай. Ён выконваў функцыю памяшкання для кухні і жылля прыслугі ксяндза. Акрамя таго, на двары стаяў каменны хлеў.

Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі 1917-га пачаўся ціск дзяржаўных органаў на вернікаў. У канцы 1920-х гадоў у акрузе Крычава заставалася каля 170 католікоў, якія не маглі трымаць у нармальным стане будынак храма. Больш за тое, як паказваюць дакументы, менавіта ў 1920-я касцёл быў вельмі занядбаны.

Так, у газеце «Магілёўскі селянін» за 27 сакавіка 1929 года паведамлялася: «У Крычаве маецца і такі гігант, як касцёл. Стаіць ён адзінока і на працягу ўжо некалькіх гадоў наведваюць амаль што толькі адны птушкі, выпадкова заляцеўшы праз пабітыя вокны». У выніку мэтанакіраванай дзейнасці Крычаўскага райвыканкама, які ўвесь час акцэнтаваў увагу на кепскім стане касцёла і немагчымасці вернікамі яго адрамантаваць, апошнія ў сакавіку 1929 года «добраахвотна» перадалі будынак пад патранаж райвыканкама з мэтай яго выкарыстання для культурных патрэбаў жыхароў Крычаўскага раёна. Гэта было зацверджана 27 сакавіка 1929 года рашэннем Магілёўскай акружной камісіі па аддзяленні царквы ад дзяржавы.

Католікі Крычава, у сваю чаргу, нібыта пагадзіліся хадзіць на службы ў касцёл у Чэрыкаў, размешчаны за 30 кіламетраў ад Крычава. Першапачаткова будынак крычаўскага касцёла выкарыстоўваўся як «народны дом», у якім дэманстраваліся кінафільмы і працаваў самадзейны тэатр, але ў 1934 годзе з-за кепскага стану касцёл быў падарваны.

Сёння практычна на месцы касцёла знаходзіцца аднапавярховы будынак Крычаўскага ваенкамата. Ад зруйнаванага касцёла застаўся толькі адзін цагляны слуп ад плота. Пра існаванне касцёла на гэтым месцы нагадвае яго схематычная выява на адной са сцен будынка ваен-

камата. Важна адзначыць, што фактычна за касцёлам месціўся гарадскія каталіцкія могілкі. У некалькіх метрах ад Крычаўскай санэпідэмстанцыі, якая з'яўляецца суседнім будынкам да ваенкамата, у пачатку 2000-х гадоў праводзіліся рамонтныя і будаўнічыя работы. У адвалах грунту і раскапаных ямах на даволі вялікай тэрыторыі знаходзілася мноства фрагментаў чалавечых парэшткаў: шкілетаў, чарапоў, асобных костак. На гэтыя «раскопкі» абсалютна ніякім чынам не звярнула ўвагу мясцовая ўлада, а некрафілістычныя замашкі мясцовых вертыкальшчыкаў устурбавалі толькі гісторыкаў, краязнаўцаў і грамадскіх актывістаў.

Дарэчы, яскравы фотаздымак разбураных склепаў каталіцкага некропаля можна ўбачыць у невялічкай брашуры «У пошуках беларускасці» — краязнаўчага выдання, што асвятляе розныя бакі гісторыі Крычаўшчыны і з'яўляецца вельмі карысным для аматараў гісторыі. Больш за тое, аўтар радкоў у 2013 годзе ў межах так званага кірмашу праектаў «Сучасныя ўвасабленні культурніцкай спадчыны» грамадскай кампаніі «Будзьма беларусамі!» у Магілёве прэзентаваў уласны праект па аднаўленні касцёла Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі. Важнай гэта ідэя перадусім застаецца для гісторыкаў і краязнаўцаў, а таксама для мясцовых каталіцкіх вернікаў, якіх налічваецца некалькі дзясяткаў у Крычаве.

Нельга не згадаць і фотаздымкі пачатку 1910-х гадоў, якія паказваюць выгляд самога касцёла і ўнутранай прасторы каталіцкага храма. Менавіта па старых фатаграфіях на сёння мы можам уяўляць, якім чынам выглядаў шыкоўны неагатычны будынак касцёла.

Пасля разбурэння каталіцкага храма ў 1930-х гадах бальшавікамі, плябанію, якая адносілася да касцёла, вырашылі не руйнаваць, а перабудаваць. На старым фотаздымку 1927 года рынкавай плошчы Крычава плябанія бачна як аднапавярховы будынак з высокім дахам. Аднак пасля перабудавання яна стала двухпавярховым будынкам, у якім у пасляваенныя часы знаходзіўся мясцовы паштамт. У ім з тыльнага боку размяшчалася прыбудова з белай цэглы, якая несла функцыю кацельні, што ацяпляла памяшканні будынка для працаўнікоў пошты.

Будынак плябаніі-пошты стаіць закінуты з 1990-х, бо пасля знікнення СССР паштамт хутка знік. У пачатку 2010-х будынак былой плябаніі быў выкуплены мясцовым прадпрымальнікам, у ім пачаліся будаўнічыя работы: пафарбаваныя сцены, пастаўленыя шклопакеты, аднак далей справа не пайшла. Пэўны час часткова адрамантаваны будынак выкарыстоўваўся нават як інтэрнат для часовых рабочых, што працуюць на будоўлі новага цэментавага завода каля Крычава.

## Незалежная Беларусь. Стайні палаца Пацёмкіна-Галынскіх

На вялікі жаль, у незалежнай Беларусі руйнаванне помнікаў архітэктуры працягваецца. Зусім нядаўна ў горадзе былі ўнікальныя стайні, якія адносіліся да палаца Пацёмкіна-Галынскіх і стваралі разам з галоўным будынкам паўнавартасны палацава-паркавы комплекс. Стайні былі зруйнаваныя пасля рэстаўрацыі палаца ў 2008 годзе, нягледзячы на тое, што ў 2003 годзе будынак у псеўдагатычным стылі быў уключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. Дзякуючы крычаўскаму краязнаўцу Андрэю Кузьміну, які зафіксаваў факт знішчэння стайняў, мы можам уявіць маштаб трагедыі.



**Руіны былой вінакурні на ўскрайку Крычава, 2012 г.**
Фота Андрэя Кузьміна



Падчас рэстаўрацыі палаца (2006–2008) стайні практычна знішчылі, пакінуўшы толькі падмуркі. Нават пасля знішчэння існаваў праект па іх адбудове і размяшчэнні там коней. Для наведвальнікаў музейнага комплексу, і асабліва замежных турыстаў, гэта магло стаць разынкай культурнай установы, што прыцягвала б немалую колькасць людзей рознага ўзросту. Аднак праект так і застаўся на паперы, добрая і крэатыўная ідэя так не была рэалізаваная. Падмуркі ад былых стайняў, якія непасрэдным чынам адносіліся да палацава-паркавага комплексу, цяпер знаходзяцца за жалезным плотам музейнай тэрыторыі.

Нямногія крычаўляне на сённяшні момант будуць ведаць, што разбураныя падмуркі — гэта і ёсць стайні, якімі карысталася калісьці мясцовая шляхта Галынскія. Ім паўтара стагоддзя належала перліна Крычава: з канца XVIII стагоддзя і па 1917 год. Цяперашняя адміністрацыя музея і аддзел культуры мясцовага райвыканкама не звяртаюць ніякай увагі на рэшткі стайняў, якія нібыта наогул не адносяцца да палацавага комплексу.

Парадаксальна цяпер глядзець на гарадскі банер, на якім на фоне палаца размешчана брычка ці хутчэй нават карэта, на якой вязуць імператрыцу Кацярыну II. Такое сцверджанне грунтуецца на тым, што ў сённяшнім гістарычным музеі Крычава культ графа Пацёмкіна і імператрыцы Кацярыны II, бо кожнае другое мерапрыемства ў культурнай установе ладзіцца з удзелам гэтых гістарычных персанажаў. Банер выглядае, натуральна, вельмі супярэчліва. І пры гэтым падобны банер мог глядзецца дарэчна пры захаваных стайнях, якія музеефікаваныя і ўключаныя ў музейны комплекс. Аднак для гарадскіх уладаў гэты банер з'яўляецца абсалютна нармальным і не выклікае дысанансу, што сведчыць пра слабае валоданне гісторыяй Крычава і абыякавасць да яе.

## Вінакурня

Будынак вінакурні быў узведзены напрыканцы XVIII стагоддзя. Першы ўладальнік — «святлейшы» князь Рыгор Пацёмкін, які наладзіў там скураную вытворчасць. Але неўзабаве ўладальнікам стаў мясцовы шляхціц Іван Галынскі. Менавіта ён перапрафіляваў вытворчасць і наладзіў выпуск спірту. Такім чынам, з канца XVIII стагоддзя і ажно да 1940-х гадоў у гэтым будынку была размешчана вінакурня, а пазней спіртзавод.

Падчас акупацыі Крычава нямецка-фашысцкімі войскамі на тэрыторыі спіртзавода знаходзіўся працоўны лагер (арганізаваны нямецкай ваеннай адміністрацыяй). Там займаліся жывёлагадоўляй і выкарыстоўвалася прымусовая праца жыхароў навакольных вёсак.



**Схематычны малюнак крычаўскага касцёла на сцяне будынка раённага ваенкамата.** Фота з wikipedia.org

З пасляваеннага часу — піўны завод. Пасля таго, як напрыканцы 1990-х піўзавод быў закрыты мясцовымі ўладамі, будынак знаходзіцца ў занядбаным стане. Рэстаўрацыя гэтага цікавага помніка прамысловай архітэктуры, на вялікі жаль, так і не адбылася.

Забыты колішні важны прамысловы аб'ект яшчэ і цікава размешчаны. Месца лакалізацыі — памежжа паміж горадам і вёскай, якое можна і прамінуць, калі праязджаеш мост праз рэчку Добрасць. Нечакана і мяняецца назва вуліцы з Піянерскай на Цэнтральную, пры нязменнасці дарогі. Будынак былой вінакурні знаходзіўся ўжо за мостам, аднак размяшчэнне ў межах вёскі Калініна даволі фармальнае. Гэтае меркаванне пацвярджае доўгая вуліца, якая атрымала народную назву па прамысловаму прадпрыемству і лічыцца цэлым маленькім раёнам пад найменнем «Піўзавод», што ўваходзіць у склад гарадской мяжы і на мапе выглядае як апендыкс, які зросся з вёскай Калініна (ранейшая назва — Задабрасць). Цікава пры гэтым, што знешне адрозненняў практычна не назіраецца, бо драўляныя хаты знаходзяцца паабапал дарогі як гарадской вуліцы, так і вясковай.

З прыведзенага вынікае, што завод меў уплыў на гарадскую прастору, таму можна вызначыць яго размяшчэнне як «памежнае». Пры знаёмстве з падобнымі назіраннямі можа ўзнікнуць пытанне, калі сфарміравалася вуліца, якая вядзе ад палаца Галынскіх да спіртзавода. Адказаць вельмі няпроста, бо без прыцягнення архіўных звестак, картаў, вусных сведчанняў людзей раёна горада цяжка выказаць хоць нейкае меркаванне наконт гэтага пытання гарадской тапаграфіі. Усё ж з вялікай верагоднасцю можна лічыць з'яўленне гэтай вуліцы менавіта ў XX стагоддзі. Аднак абодва гістарычныя будынкі натуральна ўзаемазвязаныя паміж сабой і ствараюць пэўную карціну тагачаснага развіцця мястэчка Крычаў, якое працягнулася за савецкім часам ужо ў паселішчы з гарадскім статусам.

Старая вінакурня з'яўлялася ўнікальным аб'ектам для горада. Гэты помнік прамысловай гісторыі Крычаў страціў назаўжды, бо літаральна паўгода таму яго зруйнавалі, палічыўшы за непатрэбнае будаўнічае смецце. Замест таго, каб захаваць вінакурню, зрабіўшы гарадской адметнасцю, паспрабаваць хаця б часткова рэканструяваць, уключыўшы ў турыстычны маршрут па горадзе, яе руйнуюць. Цяпер на месцы былой вінакурні знаходзяцца некалькі пагоркаў з будаўнічым смеццем, кавалкі сценаў са старой чырвонай цэглы, а таксама частка не да канца зруйнаваных падмуркаў. Відовішча вельмі сумнае, што выклікае пачуцці гневу і шкадавання. Застаецца толькі спасылацца на адсталасць і ўбогасць арганізатараў і выканаўцаў знішчэння помніка.

**Пры падрыхтоўцы тэксту выкарыстаны матэрыялы з сайтаў radzima.org і be.wikipedia.org, а таксама матэрыялы гісторыка і археолага Андрэя Мяцельскага.**

# БагатаДата

**На гэтым тыдні юбілеі і круглыя даты святкуюць Юрка Віцьбіч, Васіль Зуёнак і Аляксей Кузьміч. Хто яшчэ адзначыўся ў нашым традыцыйным аглядзе?**

### 30 траўня

**1910.** У вёсцы Нізок Уздзенскага раёна на Міншчыне нарадзіўся акцёр, народны артыст Беларусі Анатоль Трус. Шмат гадоў уваходзіў у трупу Коласаўскага тэатра ў Віцебску. Здымаўся ў кіно — у прыватнасці, у фільме «Атланты і карыятыды».

### 31 траўня

**Дзень хіміка** (апошняя нядзеля траўня). **Сусветны дзень бландзінак,** а таксама **Сусветны дзень без тытуню.**

### 1 чэрвеня

**Міжнародны дзень абароны дзяцей. Сусветныя дні малака і бацькоў.**

**1945.** У вёсцы Махро Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці нарадзіўся мастак Аляксей Кузьміч. Шмат маляваў партрэты, перадусім жанчын. Стварыў галерэю Мадоннаў. Кузьміч казаў: «Хто любіць жанчыну, хто любіць свет, хто піша жанчыну, таму дапамагае Бог». Маляваў партрэты многіх сучасных дзеячаў культуры — Віктара Турава, Барыса Луцэнкі ды іншых. Бацька мастака Аляксея Кузьміча, які ў 2019 годзе зладзіў голым нашумелы перформанс падчас сваёй выставы на знак пратэсту супраць цэнзуры Міністэрства культуры.



Фота www.ikc.belapk.ru

### 2 чэрвеня



**1905.** У горадзе Веліж (цяпер Смаленская вобласць Расіі) нарадзіўся беларускі дзеяч, краязнавец, пісьменнік Юрка Віцьбіч. Сапраўднае імя і прозвішча — Серафім Шчарбакоў. Напачатку 1941 года арыштаваны савецкімі спецслужбамі ў Віцебску, дзе жыў. Падчас нямецкай акупацыі займаўся публіцыстыкай і літаратурай. Перавёз з Віцебска ў Полацк парэшткі Еўфрасінні Полацкай. Затым пераехаў у Мінск, а пасля вайны выехаў на Захад. Выдаваў шэраг эміграцкіх газет і часопісаў: «Шыпшына», «Беларускае слова», «Беларус», «Бацькаўшчына».

### 3 чэрвеня

**Сусветны дзень ровара.**

**1915.** У сталіцы Аўстрыі Вене нарадзіўся беларускі мастак Адольф Гугель. Шмат маляваў агульныя карціны з жонкай — мастачкай Раісай Кудрэвіч.

**1935.** У вёсцы Мачулішча Крупскага раёна на Міншчыне нарадзіўся паэт Васіль Зуёнак. Галоўны рэдактар часопісаў «Бярозка» і «Маладосць». У 1990-х гадах — старшыня праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пра яго творчасць пісалі Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч, Пімен Панчанка, Алег Лойка, Анатоль Вярцінскі і многія іншыя, адзначаючы фенаменальны мастацкі дар, дзякуючы якому паэт аказаўся здольны спалучыць у натхнёных радках сучаснасць і гісторыю, лірыку і эпас, міф і рэальнасць, імкненне да вечнага і фельетонную стракатасць звычайнай паўсядзённасці.

### 4 чэрвеня

**Міжнародны дзень дзяцей — ахвяраў агрэсіі.**

**1810.** Выйшаў указ расійскага імператара Аляксандра I пра будаўніцтва Бабруйскай крэпасці. Яе ўзвялі на месцы старажытнага замка. Крэпасць вытрымала працяглую аблогу французскай арміі ў вайне 1812 года. Затым крэпасць выкарыстоўвалася як палітычная турма. У розны час тут былі зняволенымі, напрыклад, «дзекабрысты», Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Паўлюк Багрым. Падчас Другой сусветнай вайны тут быў канцлагер.

### 5 чэрвеня

**Дзень эколага.**

**1925.** У Мінску нарадзілася актрыса, тэатразнаўца і педагог Эльвіра Герасімовіч. Працавала рэктаркай Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў).

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# УВАГА! Паспейце падпісацца: вас чакаюць сюрпрызы!

**Шаноўныя чытачы!**

Ужо зусім хутка, 26 чэрвеня, заканчваецца тэрмін, калі можна аформіць падпіску на газету «Новы Час» на II паўгоддзе. Кошт падпіскі на 6 месяцаў — 22 рублі 98 капеек.

Для кагосьці з вас гэта адчувальная сума, таму ёсць магчымасць аформіць падпіску на 3 месяцы за 11 рублёў 49 капеек, ці нават падпісвацца штомесяц за 3 рублі 83 капейкі. Падпісацца можна ў паштовым аддзяленні, а таксама праз інтэрнэт.

Толькі, калі ласка, не забывайце, што трэба паспець падпісацца да 25-га дня кожнага месяца.

А для тых, хто захоча і зможа падпісацца на паўгода, мы прапануем адмысловую віктарыну. Кожны месяц у нашых артыкулах мы будзем шыфраваць адно слова (пра тое, у якім артыкуле будзе гэта слова, вы даведаецеся на апошняй старонцы апошняга нумару месяца). У выніку атрымаецца сказ, які трэба будзе даслаць на наш электронны альбо паштовы адрас, у паведамленні ў сацсетках да 20 снежня 2020 года. Тузін першых, хто дашле нам зашыфраваны сказ, атрымае ад рэдакцыі адмысловыя падарункі.

«Новы Час» — адзіная ў краіне штотыднёвая незалежная грамадска-палітычная беларускамоўная газета. Для нас вельмі важная ваша падтрымка. Без вас газета даўно б перастала існаваць. Мы вельмі цешымся, што вы ў нас ёсць. Але заклікаем: падпішыце сваіх сяброў, сваякоў ці проста суседзяў. Давайце разам пашыраць дэмакратычную беларускамоўную прастору. Давайце разам рабіць нашу краіну лепшай!

Для тых, хто робіць «Новы Час», гэта больш, чым праца. Гэта частка жыцця. За сваю 18-гадовую гісторыю газета атрымлівала міжнародныя ўзнагароды, перажывала ўзлёты (і тады ў нас была магчымасць распаўсюджваць папяровую версію выдання бясплатна), страты (у 2015-м гэты свет пакінуў галоўны рэдактар газеты Аляксей Кароль), забарону на распаўсюд, суды… Але пры любым раскладзе газета працягвала выходзіць.

І сёння, як ніколі, у такія складаныя часы мы вельмі спадзяемся на вашу падтрымку. На тое, што вы, нашы любімыя чытачы, не дасцё выданню загінуць. Для нас важны кожны чытач, кожны падпісчык.

Дэспатызм не можа існаваць у краіне да таго часу, пакуль не знішчаная свабода прэсы, казаў англійскі пісьменнік Чарльз Колтан. А наш беларускі класік Францішак Багушэвіч заклікаў: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі…»

Падтрымайце незалежную беларускамоўную прэсу. Будзьма разам! Будзьма з «Новым Часам»!

**Падпісны індэкс 63279**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 892

Падпісана да друку 29.05.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.